# МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА МІНСКА-МАЛАДЗЕЧАНСКІХ ГАВОРАК

*Пад рэдакцыяй доктара філалагічных навук*
*М. А. Жыдовіч*

Мінск
Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
1977

Укладальнікі:

*М. А. Жыдовіч, І. А. Каралёва, У. М. Лазоўскі, Е. С. Мяцельская, І. М. Шчарбакова*

М 35 **Матэрыялы** для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч. Мн., Выд-ва БДУ, 1977.

144 с.

У слоўніку тлумачацца значэнні дыялектных слоў, адлюстроўваюцца фанетычныя, граматычныя і стылістычныя асаблівасці мінска-маладзечанскіх гаворак, паказваецца сінаніміка і сфера бытавання дыялектызмаў.

Прызначаецца навуковым работнікам, выкладчыкам ВНУ і настаўнікам школ, студэнтам-філолагам і ўсім тым, хто цікавіцца беларускай народнай мовай.

М $\frac{0715-004}{М317-77}$ 53—77 4 Бел.

# ПРАДМОВА

Жывая дыялектная мова — невычэрпная крыніца лексічнага і фразеалагічнага папаўнення мовы. Сабрана ж і надрукавана з гэтага багацця пакуль што вельмі мізэрная доля. Прапануемы ўвазе чытача чарговы выпуск матэрыялаў з'яўляецца часткай запланаванай на кафедры лексікаграфічнай працы, прысвечанай збору і сістэматызацыі дыялектных матэрыялаў мінска-маладзечанскага арэалу.

У III выпуску «Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак», як і ў папярэдніх двух, змешчаны словы, якія адсутнічаюць у нарматыўным «Беларуска-рускім слоўніку» (1962), за выключэннем слоў з паметай *абл., разм.* У матэрыялах змешчаны таксама словы, значэнне або націск якіх іншыя, чым у літаратурнай мове.

Пры тлумачэнні слова даецца адпаведны сінонім літаратурнай мовы. Калі такі сінонім адсутнічае, то слова тлумачыцца апісальна. Пры дублетных парах робіцца адсылка да больш ужывальнага слова.

Загалоўнае слова даецца ў арфаграфічным напісанні, у дужках пасля яго — транскрыпцыя, як яно гучыць у гаворцы. У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу прыводзяцца урыўкі (сказы) мясцовай мовы.

Запіс ілюстрацыйнага матэрыялу, як і ў папярэдніх двух выпусках, падаецца спрошчанай транскрыпцыяй: перад галоснымі *а, о, у, э* мяккасць зычных абазначаецца літарамі *я, ё, ю, е;* мяккасць зычных перад зычнымі і на канцы слова — праз мяккі знак: *борзьдзенька, згомтаць;* падоўжаныя мяккія зычныя абазначаюцца падвоеным напісаннем літар, паміж якімі пішацца мяккі знак:

*зельле, насеньне, узьлесьсе;* выбухное *г* выдзелена курсівам; для спрашчэння набору націскі ў словах пастаўлены пасля галоснай: *заману'цца, падвазо'ньнік* і інш.

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

### 1. Граматыка-стылістычныя

*абраз.*— абразлівае
*адабр.*— адабральнае
*агульн.*— агульны род
*адз.*— адзіночны лік
*арф.*— арфаграфічнае
*асудж.*— асуджальнае
*бат.*— батанічнае
*будаўн.*— будаўнічае
*выкл.*— выклічнік
*гл.*— глядзі
*дапамож. дзеясл.*— дапаможны дзеяслоў
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*жан.*— жаночы род
*заал.*— заалагічнае
*займ.*— займеннік
*зак. тр.*— закончанае трыванне
*збор. ліч.*— зборны лічэбнік
*зневаж.*— зневажальнае
*злучн.*— злучнік
*іран.*— іранічнае
*ласк.*— ласкальнае
*лаянк.*— лаянкавае
*мед.*— медыцынскае
*мужч.*— мужчынскі род
*неадабр.*— неадабральнае
*незак. тр.*— незакончанае трыванне
*ніяк.*— ніякі род
*пабочн. сл.*— пабочнае слова
*памянш.*— памяншальнае
*перан.*— пераноснае
*прым.*— прыметнік
*прын.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*субст.*— субстантыўнае
*толькі адз.*— толькі ў адзіночным ліку
*толькі мн.*— толькі ў множным ліку
*часц.*— часціца

### 2. Населеныя пункты, у якіх запісвалася лексіка

*Аз.* — Азаркі Мядзельскага раёна
*Акал.* — Акалова Лагойскага раёна
*Алях.* — Аляхновічы Маладзечанскага раёна

*Ар.* — Арэшніца Клецкага раёна
*Айг.* — Аўгустова Валожынскага раёна
*Баг.* — Багрыцоўшчына Дзяржынскага раёна
*Бар.* — Барок Стаўбцоўскага раёна
*Белар.* — Беларучы Лагойскага раёна
*Бом.* — Бомбалы Валожынскага раёна
*Борк.* — Боркаўшчына Мядзельскага раёна
*Бр.* — Брадок Лагойскага раёна
*Буз.* — Бузуны Нясвіжскага раёна
*Бяз.* — Бязводнае Вілейскага раёна
*Бяс.* — Бясяды Лагойскага раёна
*В. В.* — Вялікая Вуса Уздзенскага раёна
*Войр.* — Войрава Чэрвеньскага раёна
*Ган.* — Ганцавічы Лагойскага раёна
*Гар.* — Гарадок Маладзечанскага раёна
*Гіл.* — Гілікі Валожынскага раёна
*Граб.* — Грабёнка Чэрвеньскага раёна
*Даўг.* — Даўгінава Вілейскага раёна
*Дзям.* — Дзямідаўка Барысаўскага раёна
*Дуб.* — Дубіна Маладзечанскага раёна
*Дубр.* — Дубрава Маладзечанскага раёна
*Дук.* — Дукора Пухавіцкага раёна
*Заб.* — Забрэжжа Валожынскага раёна
*Зайцы* — Зайцы Чэрвеньскага раёна
*Зал.* — Залазоўе Вілейскага раёна
*Зап.* — Запруддзе Валожынскага раёна
*Заям.* — Заямнае Стаўбцоўскага раёна
*Каб.* — Кабыльчыцы Валожынскага раёна
*Кал.* — Каляды Вілейскага раёна
*Калод.* — Калодкі Вілейскага раёна
*Кам.* — Каменка Уздзенскага раёна
*Карш.* — Каршавіца Барысаўскага раёна
*Кірк.* — Кіркаўшчына Нясвіжскага раёна
*Кл.* — Клінок Чэрвеньскага раёна
*Клет.* — Клетнае Барысаўскага раёна
*Кор.* — Коргава Лагойскага раёна

*Крок.* — Кроква Лагойскага раёна
*Кузьм.* — Кузьмічы Мінскага раёна
*Кук.* — Кукалеўка Лагойскага раёна
*Кукш.* — Кукшавічы Дзяржынскага раёна
*Кухц.* — Кухцічы Уздзенскага раёна
*Леж.* — Лежня Барысаўскага раёна
*Ліс.* — Лісіца Нясвіжскага раёна
*Луб.* — Лубень Вілейскага раёна
*Луц.* — Луцішчы Крупскага раёна
*Мал.* — Малінаўка Лагойскага раёна
*Малм.* — Малмыгі Вілейскага раёна
*Масц.* — Масцішча Барысаўскага раёна
*Мац.* — Мацькаўцы Вілейскага раёна
*Меж.* — Межава Чэрвеньскага раёна
*Меч.* — Мечаі Вілейскага раёна
*Мік.* — Мікольцы Мядзельскага раёна
*Мойс.* — Мойсічы Маладзечанскага раёна
*Мул.* — Муляры Вілейскага раёна
*Мядз.* — Мядзель (гар. пасёлак)
*Нав.* — Навасёлкі Валожынскага раёна
*Нар.* — Нарач Вілейскага раёна
*Н. Д.* — Новы Двор Мінскага раёна
*Неж.* — Нежаўка Чэрвеньскага раёна
*Няр.* — Няровы Валожынскага раёна
*Паг.* — Пагост Вілейскага раёна
*Пал.* — Палачаны Маладзечанскага раёна
*Пап.* — Папоўка Мядзельскага раёна
*Папл.* — Паплавы Бярэзінскага раёна
*Пільк.* — Пількаўшчына Мядзельскага раёна
*Прудз.* — Прудзішча Лагойскага раёна
*Пуз.* — Пузыры Мядзельскага раёна
*Рад.* — Радашковічы Маладзечанскага раёна
*Рат.* — Ратуцічы Барысаўскага раёна
*Раўч.* — Раўчак Пухавіцкага раёна
*Р. П.* — Рудня Плешчаніцкая
*Руб.* — Рубанікі Мядзельскага раёна

*Р. Ч.* — Рудня Чэрвеньскага раёна
*Сав.* — Савоні Стаўбцоўскага раёна
*Сак.* — Сакольшчына Уздзенскага раёна
*Сасн.* — Сасноўшчына Вілейскага раёна
*Св.* — Светлае Клецкага раёна
*Сів.* — Сівіцы Валожынскага раёна
*Сл.* — Слабодка Стаўбцоўскага раёна
*Слаб.* — Слабада Лагойскага раёна
*Стар.* — Старлыгі Мядзельскага раёна
*Ст. В.* — Старая Вёска Мядзельскага раёна
*Ст.* — Станькі Вілейскага раёна
*Суд.* — Суднікі Валожынскага раёна
*Суц.* — Суцін Пухавіцкага раёна
*Сцеп.* — Сцепянёва Мядзельскага раёна
*Сцеш.* — Сцешыцы Вілейскага раёна
*Сям.* — Сямкова Лагойскага раёна
*Так.* — Такарышкі Смаргонскага раёна
*Турэц.* — Турэц Чэрвеньскага раёна
*Уж.* — Ужанка Нясвіжскага раёна
*Узгур.* — Узгурск Лагойскага раёна
*Хал.* — Халопенічы Крупскага раёна
*Хац.* — Хацюхова Крупскага раёна
*Хож.* — Хожава Маладзечанскага раёна
*Цял.* — Цялякава Уздзенскага раёна
*Цяр.* — Цярэшкі Барысаўскага раёна
*Чар.* — Чарняўка Нясвіжскага раёна
*Чыж.* — Чыжаха Бярэзінскага раёна
*Фал.* — Фалевічы Мядзельскага раёна
*Яз.* — Язні Вілейскага раёна
*Якш.* — Якшыцы Клецкага раёна
*Януш.* — Янушкавічы Лагойскага раёна
*Яц.* — Яцыны Мядзельскага раёна

# МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА

## А

АБАЛО′НА (абало́на) *жан.* Кара на дрэве. Абало́на скрось от тако́й глыбіні. *Кам.*

АБВЫКА′ЦЬ (абвыка́ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Прывыкаць. І тут ужо до́бра, як абвы́клі, а ране́й, дык цягну́ла на старо́е ме́сца. *Узгур.*

АБЕ′ДАШНІ (абе́дашні) *прым.* Што прыходзіць у абед. Во́ўка се́ньня абе́дашнім аўто́бусам прые́хаў. *Бяс.*

АБ'Е′ДЗІНЫ (аб'е́дзіны) *толькі мн.* Аб'едкі. На сталé засталі́ся адны аб'е́дзіны. *Меж.*

АБІВА′ЦЬ ТУ′НІКІ. Нічога не рабіць. Ты нічо́га не ро́біш, абіва́еш ту́нікі. *Кам.*

АБІРА′ЦЬ (абіра́ц'), -аю, -еш; *незак. тр.* Аддзяляць (мяса ад касцей). Аб'яры́ ко́сці — мя́са мно́га на іх засталóся. *Меж.*

АБНО′ЖКА (абно́шка) *жан.* Сабраны з кветак пылок. Сабра́ны пыло́к называ́ецца абно́шкай. Пчала́ прышла́ з абно́шкай у ву́лей. Хо́раша ідзе́ пчала́ с абно́шкай — мно́га мёду́ бу́дзець. *Бяс.*

АБРЫ′ЎКА (абры́ўка) *жан.* Заработак. Я адзі́н на ўсю ве́ску бо́ндар, гэта сяго́ньня ў яку́ю ха́ту ні су́нься — мой цабэ́рак зно́йдзеш. І людзя́м ла́ска, і табе́ сяка́я-така́я абры́ўка. *Белар.*

АБДЗІ′РКУС (абдз'і′ркус) *мужч.* Дзіця, якое хутка рве адзенне. Не набра́цца ж адзе́ння на гэ́тага абдзі́ркуса: ме́сяца не прайшло́, а гало́шы парва́ў, руба́шку распаласава́ў. *Меж.*

АБЖА′ЛІЦЬ (абжа′ліц'), -ю, -іш; *зак. тр.* Абскардзіць. Рашэ́ньне суда́ яшчэ́ абжа́ліць мо́жна. *Граб.*

АБЛА′ДЗІЦЬ (абла́дзіць), -дж-у, дз-іш; *зак. тр.* Аба-

брацць бульбу. Сыно́чак, навастры́ нож, бо ён ве́льма тупы́, трэ́ба на вячэ́ру бу́льбу абла́дзіць. *Р. П.*

АБМАГЧЫ′ (абмахчы́), -у, -аш, *зак. тр.* Перамагчы. Яшчэ́ ніхто́ яго́ не змог абмахчы́, і малады́я на́ват. *Меж.*

АБМІ′НАК (абмі́нак) *мужч.* Агрэхі пасля таго, як поле ўзарана. Палоскі зямлі, якія прапушчаны, не заараны. І мно́га ж на гэ́тым по́лі абмі́нкаў заста́ло́ся: му́сіць, трактары́ст тра́ктар пе́ршы раз вёў, прапуска́ючы цэ́лыя пало́скі. *Дук.*

АБМЫЛІ′ЦЦА (абмылі́цца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Памыліцца. Глядзі́ ўва́жліва, а то абмылі́цца мо́жаш, адну́ ме́рку прапусці́ ці даба́ў і на цэ́лую со́ткю ме́ней або больш наме́раем. *Меж.*

АБНЯДУ′ЖАЦЬ (абняду́жаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Аслабець. Мае бацькі́ саўсі́м абняду́жалі. *Жор.*

АБО′РА (або́ра) *жан.* Гумно. З ле́ташняга го́ду ў або́ры заста́ло́ся не́калькі пудо́ў збо́жжа. *Р. П.*

АБО′Я (або́я) *збор. ліч.* Абодва. Абаі́м далі́ прымі́ро́ўку *Р. Ч.*

АБРАБІ′ЦЦА (абрабі́цца), -л-ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Запэцкацца. Абрабі́ўся ўвесь, не́дзе ў гразі́ по́ўзаў, ці што? *Прудз.*

АБРАДЗІ′НІЦЦА (абрадзі́ніцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Радзіць. Во го́ра было́: муж паме́р, а я тут яшчэ́ абрадзі́нілася. *Сак.*

АБРО′БЛЕНЫ (абро́блены) *прым.* Запэцканы. Ён такі́ заўсёды абро́блены хо́дзіць, і ў сьвя́та і ў бу́дні: ніко́лі не апране́ чы́стага, як і не памы́е старо́га. *Граб.*

АБРЫ′ДНІЦА (абры́дніца) *жан., неадабр.* Надакучлівая. Не хачу́ і ба́чыць абры́дніцы гэ́тае! *Бр.*

АБРЫ′ДНІЦА (абры́дніца) *жан.* Бессаромная (у адносінах да жанчыны). Зыйдзі́ з вачэ́й, абры́дніца! Ляпаеш усё, што мо́жна, чаго́ і не́льга. Там жа дзе́ці — усё чу́юць. *Меж.*

АБРЫ′ЗЛЫ (абры́злы) *прым.* Азызлы. З начы́ яна́ заўжды́ з абры́злым тва́рам устава́ла. *Хал.*

АБРЫ́НДАЦЦА (абры́ндацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Заляпацца граззю. Усю спадніцу абры́ндала за гэ́тую дарогу́, а панчо́хі ад гразі аж рабыя ста́лі. *Узгур.*

АБСАДЗІ́ЦЬ (апсадзі́ць), -дж-у, -дз-іш; *зак. тр.* Стрымаць. Але я яго́ адразу́ апсадзі́ў, бо на́тта ўжо ён разышо́ўся. *Р. В.*

АБСАДЗІ́ЦЬ (апсадзі́ць), -у, -іш; *зак. тр.* Супыніць. Няма́ каму́ апсадзі́ць цябе́. *В. В.*

АБСАРДА́К (апсарда́к) *мужч.* Лапсардак. Апсарда́к на ім, як на калу́ вісі́ць, так ужо схудне́ў. *Дубр.*

АБСЛЮНЯ́ЎЛЕНЫ (апсьлюня́ўлены) *прым.* Абслюнены. Стары́ дзед дзяржа́ў у зуба́х апсьлюня́ўленую цыгарэ́ту. *Узгур.*

АБТРАХНУ́ЦЬ (аптрахну́ць), -у, -еш; *зак. тр.* Абтрэсці. Вось галга́нцы, за ноч усе́ я́блыкі аптрахну́лі. *Узгур.*

АБУ́БНІЦЬ (абу́бніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Астрыгчы нагала. Такі́ прыго́жы хло́пец, а яго абу́бнілі як аве́чку. *Бр.*

АБХЛЮ́ПАЦЬ (апхлю́пацъ), -ю, -еш; *зак. тр.* Апырскаць граззю. Паткаса́й штаны́, а то апхлю́паеш. *Дук.*

АБЦЕ́ПКАЦЦА (апце́пкацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Не прыбіраць у хаце. Така́я малада́я, а зусім апце́пкалася, усё ніпачо́м: ці прыбра́на, ці насьме́чана; ці бу́дуць чужы́я, ці не бу́дуць — усё ёй ро́ўна. *Меж.*

АБЧЫ́РЫЦЬ (абчы́рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Абадраць, абрэзаць, абчасаць. А той гэ́тым ча́сам абчы́рыў ду́ба і ляці́ць сюды́ з кі́йко́м. *Р. Ч.*

АБШАЛЁСТАЦЬ (апшалёстаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Красці. Апшалёсталі ўсё: і пшані́цу і ячме́нь і бо́йку з мёдам, усё забра́лі. І ніхто́ не ве́дае, хто мог гэ́та зрабі́ць. *Меж.*

АБША́СТАЦЬ (апша́стаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Абрэзаць (у адносінах да прычоскі). Гэ́та ж мая́ дзяўчы́на ўчо́ра такі́я валасы́ апша́стала, галава́ ста́ла го́лаю, як гарбу́с. *Меж.*

АБ'Е'ДДЗЕ (аб'е́дзьдзе) *ніяк., толькі мн.* Аб'едкі. Не з'едзенае сена. У нас яшчэ́ ў паве́ці мно́га аб'е́дзьдзя ляжы́ць. *Пільк.*

АБЯРНУ'ЦЦА (абярну́цца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Перакуліцца. Каза́ў жа не лажы́ць такі́ по́ўны вос, вот і абярну́ўся. *Чар.*

АГЛАМА'ЗДАК (агламаздак) *мужч., зневаж.* Дурань. Аднаго́ сы́на ма́ю і той аглама́здак, нічо́га не разуме́е. *Уж.*

АГЛАМО'ЗЫ (агламо́зы) *прым.* Тупы чалавек. Каму́ ты дала́ раша́ць? Калі́ Га́нна ні рашы́ла, то гэ́та агламо́зая і сло́ва ні прачыта́е. Яна́ ж як пень. *Бяс.*

АГЛЯ'ДЗІНЫ (аглядзіны) *толькі мн.* Агледзіны. Не́калі ў нас гэ́так было́. Хо́ча жані́цца хло́пец, дык трэ́ба ш, каб бацькі́ маладо́га прыяжджа́лі на агля́дзіны. *Кукш.*

АГРА'З (агра́с) *мужч.* Гультай. Агра́с гэ́ты нічо́га не ро́біць, то́лька і шлы́ндая па ву́ліцы. *Р. Ч.*

АГУ'ЛАМ (агу́лам) *прысл.* Разам. Агу́лам спахватне́й рабі́ць. *Кам.*

АДАБРА'ЦЬ (адабра́ць) *зак. тр.* Паралізаваць. Ужо трэ́ці гадо́к міну́ў, як яму адабра́ла но́гі. *Кам.*

АДГАДАВА'НАЯ (адгадава́ная) *дзеепрым.* Вялікая. Ну і трава́ ж адгадава́ная, я і ня ду́маў, што така́я бу́дзя. *Мядз.*

АДГА'КАЦЬ (адга́каць), -а-ю, -а-еш; *зак. тр.* Зрабіць, паставіць дом. Так ху́тка Васіль сваю́ ха́ту адга́каў, што не ве́рыцца. *Прудз.*

АДГАНА'ШЫЦЬ (адгана́шыць), -ш-у, -ш-ыш; *зак. тр.* Адлупцаваць. Ой сьці́хні, а то кля́пам рот заткну́ ды так адгана́шу. *Раўч.*

АДДАЛЁ'К (аддалёк) *прысл.* Воддаль. Іх ха́ты стая́лі аддалёк, так што вясно́й і во́сеньню туды́ ні дае́хаць, ні дайсьці́. *Граб.*

АДДУДУ'РАНЫ (аддуду́раны) *прым.* Адтапыраны. Чаго́ ў цябе́ карма́н такі́ аддуду́раны, чаго́ ты туды́ накла́ў? *Чар.*

АДДУ'ХА (аддýха) *жан.* Адпачынак. Рабíў без аддýхі — беркулёз зарабíў, але глянь-ка ты, вылечыўся. *Буз.*

АД'Е'ХАЦЬ ЧАРАДУ'. Адпомсціць. Прыбéх мой малы́ да хаты, дый кáжа, што ягó пабілі, а старэ́йшы кáжа: «А ты б ад'éхаў чарадý». *Бяс.*

АДКАСА'ЦЦА (аткасáцца), -у-ся, -аш-ся; *зак. тр.* Адчапіцца. Аткасáйся ты ат мяне́, прыстáў як смáла. *Чар.*

АДЛІ'ЎНІК (атлíўнік) *мужч.* Прыстасаванне, па якім сцякае вада з страхі. Дóбра, дзéткі, што атлíўнік éсьць, хоць вады́ дажджавóй мнóга назьбірáецца. *Р. П.*

АДЛЯЧЫ'ЦЬ (адлячы́ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Вылечыць. Яе ў Мíнску ў бальніцу палажы́лі, мóжа адлéчаць. *В. В.*

АДНАЛІ'ЧНІК (адналіічнік) *мужч.* Аднаасобнік. Гэ́ты ж адналіічнік і каня́ мáя, задáрам нічóга ні зрóбіць. *Бяс.*

АДНІ'МКА (атнíмка) *жан.*Ануча, якой адцэджваюць бульбу з чыгуноў. Падáй атнíмку, а то рýкі папякý. *Чар.*

АДО'НАК (адóнак) *мужч.* Сцяжар'е. Адóнак нáда, кап сéна ні гнілó. *Цяр.*

АДЧЫ'РЫЦЬ (атчы́рыць), -у, -ыш: *зак. тр.* Адзначыць, адвесці лінію. Німá чырвóнага карандашá палí адчы́рыць. *Цяр.*

АДПЭ'НДЗІЦЬ (адпэ́ндзіць), -у, -іш; *зак. тр.* Адправіць. Пасадзíў сваю Гáнначку на вос і адпэ́ндзіў у Уздý ў сямігóтку. *Цяр.*

АДТУ'РЫЦЬ (аттýрыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Прагнаць, адагнаць. Як аттýрылі нéмцаў ад Масквы́, дык лю́дзі павесялéлі. *Кл.*

А'ДРЫС (áдрыс) *мужч.* Адрас. Каб вéдала ягó а'дрыс, дык ні мяшáла п напісáць пісьмó. *Р. П.*

АДСЯКА'ЦЬ (атсікáць), -ю, -еш; *незак. тр.* Адсякаць. Патрэ́бна паатсікáц' гэ́тыя галíнкі, бо яны́ мяшáюць расьці дрэ́ву. *Узгур.*

АДТА'ЎХІВАЦЬ (аттаўхіваць'), -аю, -еш; *незак. тр.* Адштурхоўваць. А ён як пачаў аттаўхіваць' усіх ад сябе. *Узгур.*

АДТО'П (аттоп) *мужч.* Пасудзіна, у якой адтопліваюць малако. Ты лажыся, дачушка, а я зараз малака табе ў аттопе прынясу. *Р. П.*

АДУ'ЖАЦЬ (адужаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Ачуняць. Ён цяжка хварэў, ледзь адужаў. *Меж.*

АДХАДЗІ'ЦЬ (атхадзіць), -у, -іш; *зак. тр.* Вылечыць. Мой мужык хварэў у тоя лета, ледзьві атхадзілі. *Кам.*

АДХАЛАДЗІ'ЦЬ (атхаладзіць), -у, -іш; *зак. тр.* Супакоіць. Атхаладзіць яго нада, а то разгарачыўся дужа. Вот ужо нейкі шалёны. *Бяс.*

АДХУ'КАЦЬ (атхукаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Выхадзіць, выратаваць. Ледзь-ледзь удалося небараку адхукаць, так хапіла, што аж крычаў — і ногі, гаворыць, баляць, і рукі, і галава. *Бяс.*

АДЫМА'ЛКА (адымалка) *жан.* Ануча, якою адцэджваюць чыгуны. Ня помню, дзе адымалку дзела. *Айг.*

АДЫМА'ЧКА (адымачка) *жан. Гл.* адымалка; тут: брудны, знешнім выглядам падобны на анучу. Ні люблю я Стэфкі за язык, што любя абгаварыць другіх. На другіх усё відзя, а што сама спадніцу адзеўшы, ласьне кажучы адымачку, етага ня відзя. *Заб.*

АД'Я'ДА (ад'яда) *агульн., зневаж.* Надакучлівы чалавек. Во ўжо йдзе гэты ад'яда, трэба ўцячы, бо надаесьць за цэлы вечар. *В. В.*

АЖЫ'ВЕЦ (ажывец) *мужч.* Жывая прынада для рыб. На ажывец хутчэй рыба пойдзе, чым на хлеп. *Чыж.*

АЗДРУБА'ЛАК (аздрубалак) *мужч.* Шчэпка. Нашага дохтара ўночы завезьлі ў бальніцу, аздрубалак адляцеў ад палена і папаў у вока. *Уж.*

АКАЛЕ'ЦЬ (акалець), -ю, -еш; *перан., зак. тр.* Астыць. Ну дзе ты там? Ідзі есьці хутчэй, бо ўжо акалела бульба. *Дубр.*

АКЕ′НЯЧКА (акéнячка) *ніяк*. Ваконца. Паглядзі ў вакéнячка, дзе прадýць дзéвачкі. *Дук.*

АКІСА′ЦЬ (акісáць) *зак. тр.* Скісаць. Малачкó сьвéжанькае, абéдняе, у хáце янó акісáе, а як у кладóвачку вынясу, дык не. *Бяс.*

АКО′НАМ (акóнам ) *мужч.* Панскі аканом. Пáнскі акóнам у палáцы жыў. *Кам.*

АКРА′ЙКА (акрáйка) *жан.* Лента. Ранéй дзяўчáты ў косы такíя прыгóжыя акрáйкі заплятáлі, а цяпéр дык нéйкія стрышкі рóбяць. *Р. П.*

АКРО′ПЧЫК (акрóпчык) *мужч.* Укроп. У гарóдзі ў мінé акрóпчыку шмат. *Кам.*

АКРЫЯ′ЦЬ (акрыяць), -ю, -еш; *зак. тр.* Ачуняць. Мóжа й акрыяе Гáнна. *Цял.*

АЛЬНЯНЫ′ (альняны) *прым.* Ільняны. Альнянáя рубáшка лéтам хóраша. *Ліс.*

АЛЬШЭ′ЎНІК (альшэўнік) *мужч.* Малады альховы лес. Там выгарашча, саўсíм нічóга не раслó, а зáрас альшэўнік разрóсься. *Пільк.*

АНГЕ′ЛЬКА (ангéлька) *жан.* Рахіт. Як анг′éлька (ці знаяш ты, што та ангелька? Эта хварóба дзіцяча — нóшкі слáбянькія, а жывóт вéлькі, рахíт па-вáшаму, па-вýчóнаму), дак як ангéлька нападзé на дзіця, зьбірáюць с крышы зялёнянькі такí мох (але цяпéр тóга мóху й нямá, бо крышы салóмай ні крыюць), пáраць, мая ты, і па пóвяс сáдзяць папáрыцца. *Заб.*

АНДРЭ′ЙКА-САЛАВЕ′ЙКА (андрэйка-салавéйка) *мужч.* Божая кароўка. Падýмаеш, я нядзéлю ўжо знаў, што андрэйка-салавéйка з'явíўся. *Чыж.*

АНО′ДАСЬ (анóдась) *прысл.* Калісьці. Анóдась і Парáска нáша былá маладóй. *Чыж.*

АНТАЛА′К (анталáк) *мужч.* Падваконнік. Пакрáсіла я вяснóй анталáкі ў хáце, а яны ужо і аблупíліся. *Кук.*

АНТО′НЫ (антóны) *толькі мн., бат.* Гатунак яблыкаў. Антóны так дасьпéлі, аш сьвіцяцца. *Кам.*

АНЭ'ГДЫ (анэ́г'дысь, анаг'да́й) *прысл.* Ня́даўна, два-тры дні назад. Анэ́г'ды ўзяла́ яна́ маю пянькоўку, а се́ньня зі́мна, я і сама́ завяза́ла б галаву. *Нав.*

АНЯЖ (аняш) *часц.* Так. «Ты на сход по́йдзеш?»— «Аняш». *Хал.*

АПІ'ННЯ (апі́ньня) *жан.* Рэпутацыя. Заслужы́ў ён тут до́брую апі́ньню. *Граб.*

АПЛЯТА'НІК (апляга́нік, апляця́нік) *мужч.* Збанок, аплецены дротам. Малако́ вазьмі вунь там, у апляга́ніку стаіць. *Бр.*

АПО'ЛКІ (апо́лкі), *адз.* апо́лка. Адыходы, якія атрымліваюцца пры рэзанні дошак. До́шак німа́, дык хоць апо́лкамі трэ́ба накры́ць гэ́ты хлявушо́к. *Бр.*

АПО'НА (апо́на) *жан.* Пакрышка на кола веласіпеда і аўтамашыны. Во, прабі́ла апо́ну, трэ́ба заклеі́ць. *Уж.*

АПРАНІ'ХА (апрані́ха) *жан.* Якая-небудзь верхняя адзежа. Адзе́нь яку́ю-не́будзь апрані́ху, а то но́ччу ш хо́ладна бу́дзя е́хаць. *Дубр.*

АПРУ'К (апру́к) *мужч.* Парсюк. До́бра аткармі́лі апрука́, і кало́ць ужо пара́. *Бяс.*

АПУСНЫ' (апусны́) *прым.* Неахайны. Ну і апусна́я гэ́та Га́нна. У ха́це гра́зна, ку́ры хо́дзюць. *Бяс.*

АПУ'ШЧАНЫ (апу́шчаны), -ая,- -ае, *прым.* Занядбаны; такі, ад якога адвярнуліся людзі. А гэты Язэп (паме́р, небара́ка) быў чалаве́чык, сказа́ць па пра́ўдзе, не́йкі тро́хі апу́шчаны ў ве́сцы, не́йкі быў хто яго ве́дыіць які́. *Зал.*

АПЯЛЮ'ХА (апялю́ха) *агульн.* Глухі. Ён с са́мага нараджэ́ньня апялю́ха, нічо́га ні чу́я. *Кам.*

АПЯРНУ'ЦЦА (апярну́цца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Абаперціся. Дай я аб цябе́ апярну́ся. *Кам.*

АПЯ'РЫЦЬ (апя́рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Адлупіць. Яго апя́рылі пра́вільна, за тое што пе́ршым пале́з у бо́йку. *Гар.*

АРБО'Н (арбо́н) *мужч.* Аўтобус. «Ці ня е́ты арбо́н на Забрэ́зья по́йдзіць?»—«Гэ́ты».—«А кунду́ктар ёсць?

Мóжа ён мне бялéт у арбóне дась?» *Заб.* Чуць пасьпéла узя́ць білéт на арбóн, шóфяр ужо й брацць ні ня́тта хацéў. *Яц.*

АСКАЛО′ЦІНЫ (аскалóціны) *толькі мн.* Кіслае малако. Мы аскалóціны с хлéбам і бу́льбай ядзім, што ш, смáчная ядá. *Мац.*

АСЛАБАНІ′ЦЬ (аслабаніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Вызваліць. А як аслабанілі нас, дык і жыцьцё налáдзілася. *В. В.*

АСМА′ЛАЧАК (асмáлачак) *мужч.* Прыгарачка. Дзéці вéльма лю́бяць асмáлачкі. *Кук.*

АСНО′ВА (аснóва) *жан.* Падэшва лапця. Гэ́тыя лáпці бу́дуць дóўга насíцца, бо аснóва мóцная. *Р. П.*

АСО′БЕННА (асóбенна) *прысл.* Асобна. Ты ж грóшы асóбенна схавáй, а не ўсё рáзам. *Буз.*

АСО′ТЫ (асóты) *толькі мн.* Соты. Пчóлы сáмі асóты рóбяць, чáшачкі такíя клéюць зьвéрху і каля бакóў, гэтыя чáшачкі напаўня́юць мёдам, і каб ён не вылівóўся, заклéюць. *Бяс.*

АСПАДНІ′ЦА (аспадніца) *жан.* Спадніца. Былá янá ў чóрнай аспадніцы і прыгóжай кваціста́й нажу́цы. *Сак.*

АСПАКО′ІЦЦА (аспакóіцца) *зак. тр.* Супакоіцца, уладзіцца. Сьвёкар чорт быў, ня раз я плáкала ад ягó. Тады́, прáўда, нéяк аспакóілася, аспакóілася, перастáлі свары́цца, жыць мóжна стáла. *Яз.*

АСЬМУ′ШКА (асьму́шка) *жан.* Восьмая часць валокі. Гэ́та ш я учóра асьму́шкай ішлá і éта пугаўё нашлá. *Р. П.*

АДРУІ′ЦЦА (атруíцца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Атруціцца. З грыбóў і атруíцца мóжна, калí дрэ́нна звары́ць. *Буз.*

АТСЮ′ЛЕКА (атсю́ліка) *прысл.* Адсюль. Атсю́ліка да шашы́ кіламéтры тры бу́дзе. *Узгур.*

АЎСЯ′НКА (аўся́нка) *жан.* Аўсяныя крупы. Авёс вы́сушуць, тады́ яго аптаўку́ць у сту́пе, насы́пюць у гарш-

чóк, кіпяткóм налівáюць і ў печ. Гэты авёс распáрыцца, а тады выцягаваюць з гаршкá ў рэшата, каб вадá сьцяклá дóбра, а патóм сыпюць на печ і сушуць. Высахне і зрóбіцца як авёс настаяшчы, непáраны. *Акал.*

АЎША'К (аўшáк) *мужч.* Вушак. Ён як стукнуўся аб аўшáк, так і сýмка на пол грýкнула. *Нав.*

АХА'ЯЦЬ (ахáяць), -ю, -еш; *зак. тр.* Прыбраць. Мая цётка сказáла, каб я ахáяла хáту. *В. В.*

АХРА'ПКА (ахрáпка) *жан.* Качарэжка. Мой сáмы малóтшы Улáдзь дык усё крычыць: «Мáма, абрэж мне ахрáпку». *Хац.*

АЧАЛАВЕ'ЧЫЦЦА (ачалавéчыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Ажаніцца. Ачалавéчыўся б ён ужó, а то хóдзіць як блýдны. *Кам.*

АШАВУ'РАК (ашавýрак) *мужч.* Асмалак, а часта і звычайная палка. Як скіня ён сваю капóту (вопратку), як хвáця ашавýрак дый за сабáкам сьлéдам. *Заб.*

АШАРА'ШЫЦЬ (ашарáшыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Здзівіць. Ну і ашарáшыў жа ён мяне, як сказáў, што жэніцца на гэтай дзяўчыне. *Кам.*

АШЛЁ'ПКІ (ашлёпкі) *толькі мн.* Абутак (стоптаны). Што гэта за ашлёпкі ў цябé на нагáх? Бытта купіць чаравікі табé німá за што. *Узгур.*

## Б

БА'БІЧ (бáбіч) *мужч.* Дзіця, што нарадзілася ў прысутнасці бабкі-павітухі. У нас завядзёнка такáя былá — на велькáнац ідзём па яйка да тáтуся хрышчóнага, мáмы хрышчóнай, бабýлі. Дак я рас прышлá (а ў нас нáтта былó мнóга дзяцéй, былó сем дзяцéй), дык эта бабýля мне як наклáла, усім жа сваім гэтым бабічóм як наклáла яек, дак я дамóў ужо й ні прыняслá, пабіла, памяла. *Зал.*

БАБКО'ВЫ ЛІСТ (бапкóвы ліст). Лаўровы ліст. Вáраць расóл, кідáюць туды пéрац, бапкóвы ліст, соль, укрóп, часнóк. Гэтым расóлам залівáюць грыбы і закры-

ва́юць дну́шкай і ста́вяць у склеп. Грыбы́ гато́вы. *Белар.*

БА′БЛЕННЕ (ба́бленьне) *ніяк.* Радзіны. У е́ту нядзелю ў мае́ няве́сткі ба́бленьне бу́дзе. *Р. П.*

БАБО′К (бабо́к) *мужч.* Капытнік. Ідзі́, сын, бабо́к зьбіра́ць, сьві́ньні е́сьці хо́чуць. *Р. П.*

БАБО′ЎКА (бабо́ўка) *жан.* Бульба. Я на сваі́м пляцы́ пасадзі́ла бабо́ўкі. *Р. П.*

БАБУ′НЯ (бабу́ня) *жан.* Бабуля. Бабу́ня Камаро́ўская, ідзе́ця, я з ва́мі рашчыта́юсё, гро́шы адда́м. *Сав.*

БАБЫ′ (бабэ́) *толькі мн.* Цёплыя, доўгія дзіцячыя штаны. Бардзе́й сабіра́йся, я табе́ се́ньня но́выя бабэ́ дам надзе́ць, пашы́ла ўжо́. *Борк.*

БАВАЛЬНІ′ЦА *жан.* Баваўняныя ніткі. Быва́ла, мы пасьці́лкі і з бавальні́цы ткалі, і с ку́жалю, і с тэ́рсні. *Кам.*

БАВЭ′ЛНА (бавэ́лна) *жан.* Гл. бавальніца. Бавэ́лну мы купля́лі на ўток, а на асно́ву ку́жаль. *Цял.*

БАВЭ′ЛЬНІЦА (бавэ́льніца) *жан.* Баваўняная хустка. Гэ́та вось бавэ́льніца, што зало́ўка падары́ла мне, гэ́тка была́ ўжо красі́вая, што цяпе́р хоць і старэ́нька, а від ма́е. *Кук.*

БАДА′К (бада́к) *мужч.* Асот (пустазелле). Калю́чы бада́к заглушы́ў уве́сь ячме́нь, што рабі́ць: пачні́ рваць — ячме́нь сто́пчаш і ру́кі пако́ляш. *Меж.*

БАДА′Й (бада́й) *пабочн. сл.* 1. Магчыма. Бада́й, яна ўжо пашла́ туды́, бо нідзе́ ня віда́ць на дварэ́ ніко́га. *Р. П.* 2. *Каб* у ролі *злучн.* Бада́й ты здо́хла. *Кам.*

БАДЗЮГІ′ (бадзюгі́) *толькі мн.* Асот. Трэ́ба б было́ аста́цца до́ма, бу́льму апкапа́ць, бадзюгі́ парва́ць. *Р. П.*

БАДЗЯ′ЦЦА (бадзяцца), -ю-ся, -еш-ся; *перан., незак. тр.* Валяцца. Па ўсёй ха́це адзе́жа бадзя́іцца. *Цяр.*

БАЁ′ЎКА (баё́ўка) *жан.* Цёплая хустка з байкі. Так сяго́ньня зі́мна, я й кажу́х адзе́ла і баё́ўку ўзяла́, а ўсё адно́ зьме́рзла. *Яц.*

БАЖЭ′ (бажэ́) *ніяк.* Жабо. Суке́нку Ма́ня мне́ пашыла і прыго́жае бажэ́ купі́ла. *Св.*

БА'ЙКАЦЬ (ба́йкаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць. Ці не лепш было́ п, каб вы ні ба́йкалі, а рабілі. *Ліс.*

БАКАВІ'ЦА (бакаві́ца) *жан.* Пакой у хаце (не цэнтральны). У бакаві́цы на ло́жка ўскаці́ўся і ні з ме́сца, тут аж кіпіць усё, а ён у халадку́ адле́жваецца. *Меж.*

БА'ЛА (ба́ла) *прысл.* Бывала. Ба́ла, не то́е, што цяпе́р — да сьне́дання на луку́ зье́джджу і пе́чы пе́ршая вы́палю вярну́ўшыся. *Меж.*

БАЛАБО'Н (балабо́н) *мужч.* Балбатун. Не слу́хай гэтага балабо́на, бо ён табе́ бу́дзе балабо́ніць аж да ве́чара. *Ліс.*

БАЛАБО'СЦІЦЬ (балабо́сьціць), -ч-у, -ц-іш. Гаварыць абы-што. Ве́чна ты балабо́сьціш што папа́ла. *Цял.*

БАЛА'КАЦЬ (бала́каць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць. Сяда́йця, бу́дзям бала́каць. *Кам.*

БАЛЭ'НДА (балэ́нда) *агульн., зневаж.* Чалавек, які вельмі любіць маніць. У нас е́сьць такі́ балэ́нда, атку́ль то́лькі бярэ́ ўсё, хіба́ гэта так было? *Крок.*

БАМБІ'ЗА (бамбі́за) *агульн.* Гультай. Бамбі́за гэты туля́ецца цэлы дзень бяс спра́вы. *Цял.*

БАНЯ'К (баня́к) *мужч.* Гаршчок для вады. Я ў печ ваду́ вам паста́віла ў вялікім баняку́. *Мал.*

БАРВІ'НА (барві́на) *жан.* Паляна, парослая маладымі дрэўцамі. У гэтым ле́се барві́на рэ́тка сустрака́ецца. *Гіл.*

БАРВЯ'К (барвя́к) *мужч.* Баравік. У на́шых ляса́х мно́га барвяко́ў, казяко́ў мно́га, падасі́навікі чырво́нінькія сідзя́ць ку́чкамі, як ля́лячкі. *Мул.*

БА'РЗДА (ба́рзда) *прысл.* Надта. Калі́ хэньць падпа́ла яму́ вучы́цца, дык бу́дзе вучы́цца, а я ба́рзда і ўпра́шваць ня бу́ду. *Борк.*

БАРЗЕ'Й (барзе́й) *прысл.* Лепш. Мой Ва́ська барзе́й за Сяро́шку ву́чыцца. *Кам.*

БАРЛЯ'ЦІ (барля́ці) *адз.* барля́ць. Доўгія жаночыя боты на шнуроўцы. Такія бо́цікі стары́я ў нас то́лькі барля́ці называ́юць, а малады́я і сапо́шкі. *Борк.*

БАСТРЫ'К (бастрык) *мужч.* Рубель, якім уціскаюць снапы, сена, салому. Уцісьніце бастрыкам вос, а то снапкі паскідаюцца, як будзеце канаву пераязджаць. *Р. Ч.*

БАСЭ'ТЛЯ (басэтля) *жан., перан.* Бедная жанчына. Прышоў я да гэтай басэтлі ў прымы. *Кам.*

БАТАРЭ'Я (батарэя) *жан.* Стог. Бывала, батарэі сена стаяць, саломы. *Р. П.*

БАТО'ЎЕ (батоўе) *ніяк.* Бацвінне. На сягоднящні дзень батоўе зварылі, бо закрасы ўжо няма. *Хал.*

БАХІ'ЛЫ (бахілы) *толькі мн.* Глыбокія калошы. У тваіх бахілах так спраўна выглядаюць валенкі, а у маіх валенкі ломяцца. *Меж.*

БА'ХНУЦЬ (бахнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Стрэліць. А тут як бахне раптам, аш у вушшу зазьвінела. *Узгур.*

БАЦВІ'ННІК (бацьвіньнік) *мужч.* Бацвінне. Нарві бацьвіньніку ў гародзе і ўкінь свіньням. *Чар.*

БАЧО'К (бачок) *мужч.* Бідон. Глянь, поўны бачок ягат прынесла, во малайчына. *Ліс.*

БЕРАГУ'ЛЬКА (берагулька) *жан.* Ластаўка, якая робіць гняздо ў беразе ракі. У нас тых ластавак завуць берагулькамі, што ў беразя робяць гняздо. *Дук.*

БІ'БІК (бібік) *мужч.* Сініца. Мы кармушку зрабілі, дык да нас бібікі прылятаюць. *Бар.*

БІ'ЛА (біла) *ніяк.* Верхняя частка спінкі драбін. Зьвесь ногі праз біла, ямчэй будзе сядзець. *Чыж.*

БІЛІТРА'МА (білітрама) *жан.* Аканіца. Мусіт-ка, білітрамы перакрасіць трэба. *Чыж.*

БІРАВІ'К (біравік) *мужч.* Баравік (белы грыб). Што біравікоў у гэтых месцах было летась! Усе як часнок белыя, прыгожыя, а якія смачныя, калі звараш. *Узгур.*

БІ'ТВА (бітва) *жан.* Бойка. Як устроілі бітву, дык ледзь разьнялі. *Граб.*

БЛАКА'ТАР (блакатар) *мужч.* Лакатар. Як едзеш у Мінск, дык нідалёка ад горада блакатары стаяць і крыламі махаюць. *Уж.*

БЛАГІ′ (благі́) *прым.* Худы. Які ты, сынóк, благі́ стаў, адны́ кóсьці. *Уж.*

БЛІЗНЮКІ′ (блізьнюкі́) *адз.* блізьнюк. Блізняты. Нáша дачкá радзíла двух блізьнюкóў, дык вéльма цяшка гадавáць. *Кук.*

БЛІНО′ЎКА (блінóўка) *жан.* Пасудзіна, у якой рашчыняюць бліны. Памы́й, Вáля, блінóўку, а я бáцьку кáйстру зьбярý. *Суц.*

БЛІСКУ′ХА (бліскýха) *жан.* Посцілка з бліскучых нітак. А мае бліскýхі харашэ́йшыя за твае́. *Кам.*

БЛЫ′ТАЦЦА (блы́тацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр., неадабр.* Хадзіць. Дзе ты тóлькі блы́таўся да гэтай пары́. *Райч.*

БЛЮ′ДАЧКА (блю́дачка) *ніяк.* Сподак. Пакладзі вы́ліўкі ў тóе блю́дачка, кýрыца нéшта стáла адны́ вы́ліўкі нéсьці. *Гар.*

БЛЮ′ХНУЦЬ (блю́хнуць) *зак. тр.* Плюхнуць. Як блю́хне дошч, дык усё сéна сапсуе́. *Кам.*

БО′ЛБАЦЕНЬ (бóлбацень) *мужч., зневаж.* Балбатун. Калí ўжо ты, бóлбацень, перастáнеш балбатáць? *Кам.*

БО′ЛІ (бóлі) *прысл.* Болей. Рві я́блыкаў бóлі, у нас яшчэ́ мнóга. *Чар.*

БО′НДА (бóнда) *жан.* Хлеб з ячменнай мукі. Сьпячэ́ш бóнды, дык хлéбу спарнéй, ня трэ́ба за ім бéхчы кóжны дзень. *Няр.*

БО′РЗДЗЕНЬКА (бóрзьдзенька) *прысл.* Хуценька. Бóрзьдзенька сабірáйся ў дарóгу, хóпіць ужо гавэ́ндаць. *Якш.*

БО′ЎТАЦЦА (бóўтацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Круціцца пад нагамі, перашкаджаць каму-небудзь. Чагó ты бóўтаясься пад нагáмі? *Кам.*

БО′ЦЯН (бóцян) *мужч.* Бусел. Бóцян хóдзіць па балóце, шукáе жáбаў. *Уж.*

БРА′ДЗЕНЫ (брáдзяны) *дзеепрым.* Узяты. Гэ́та ні маё рэ́шата, а брáдзяная. *Кам.*

БРАДО'К (брадо́к) *мужч.* Мелкае месца ў рэчцы, якое можна перайсці. Да́лей на рэ́ццы уніс было́ шмат браткоў. *В. В.*

БРА'ЗГАЎКА (бра́згаўка) *жан.* Бразготка. Мой хло́пчык ве́льмі лю́біць бра́згаўкі, накупілі яму́. *Суд.*

БРАЗДЖЭ'ЦЬ (бражджэ́ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Стукаць. Малы́я се́ньня як пачалі́ браздже́ць пад во́кнамі, дык спасе́ньня не было́. *Цяр.*

БРА'МКА (бра́мка) *жан.* Варотцы. Зачыні́ бра́мку з ву́ліцы. *Кам.*

БРА'ТКА-КАНДРА'ТКА (бра́тка-кандра́тка) *мужч. Гл.* Андрэйка-Салавейка. Ага́, пе́ршая ўба́чыла я бра́тку-кандра́тку. *Чыж.*

БРА'ТНЯЯ (бра́тняя) *субст. прым.* Пляменніца. Трэ́ба ў ха́ці тро́шка прыбра́ць, бо на е́тай нядзе́лі бра́тняя к нам прые́дзе. *Р. П.*

БРАХА'ЦЬ (браха́ць), -у, -аш; *незак. тр., лаянк.* Гаварыць без толку, нецэнзурна. Вось ужо брэ́ша, дык брэ́ша, як у яе то́лькі язы́к паваро́чваецца. *Кам.*

БРАЦІ'ХА (браці́ха) *жан.* Братава жонка. Браці́ха ў мяне́ блага́я была́, ве́чна сварылася. *Р. П.*

БРА'ЦЦА (бра́цца) *незак. тр.* Надыходзіць. Яму́ ўжо пат сто гот бярэ́цца, ён шмат чаго́ ве́дая. *Кам.*

БРАЦЕ'ЛЬНІК (браце́льнік) *мужч.* Дваюрадны брат. На сьвя́та браце́льнік мой ме́ўся прые́хаць, але це́тка, яго́ ма́ці — сястра́ майго́ ба́цькі, прыхварэ́ла і прышло́ся заста́цца зь ёю. *Узгур.*

БРУ'СНІК (бру́сьнік) *мужч.* Шафер. Бру́сьнік сядзі́ць каля жаніха́, заво́дзіць гу́льні, пе́сьні. *Р. П.*

БРЫДА' (брыда́) *агульн., зневаж.* Дрэнны, надакучлівы чалавек. Ідзі́ адгэ́туль, брыда́. *Уж.*

БРЫЛЬ (брыль) *мужч.* Выступ у печы, утвораны радам цэглы. Калі́ няма́ на брылю́ сьпі́чак, то шука́й у скры́нцы. *Чыж.*

БРЫ'НДА (бры́нда) *жан.* Брудны, неахайны чалавек. Хо́дзіш тут, бры́нда, адно́ мяша́еш тут. *Уж.*

БРЫ'НДЗЫ (бры́ндзы) *толькі мн.* Абтрапаныя краі адзення. Але ж вот страпа́ў палітó — усе пóлы ў бры́ндзах. *Рачч.*

БРЭ'НКАЦЬ (брэ́нкаць), -ю, -еш. Бразгаць. Я вось табе́ за́раз брэ́нкну дзвяра́мі, і ты тады́ палу́чыш. *Меж.*

БРЭХ (брэх) *мужч.* Чатырохвугольны стог сена, агароджаны коламі, на якіх ляжыць страха. Прыста́ла я сёньня, се́на ў брэх склада́лі. *Кам.*

БУ'ДА (бу́да) *толькі мн.* Калёсы. Пае́хала я на Узду́, ды купі́ла бу́ду, каня́. *Кам.*

БУ'ДАЧКА (бу́дачка) *жан.* Будан. Не́мцы ха́ту спалі́лі, хлеў спалі́лі, каро́ву спалі́лі, аста́вілі безь нічо́га. Пчо́лы спалі́лі, усё спалі́лі. Як вярну́ліся зь ле́су — адны́ камін́ы. Убі́лі ко́лікі, зрабі́лі бу́дачку і жылі́ так да во́сені. *Белар.*

БУЛЬБА'ШНІК (бульба́шнік) *мужч.* Бульбоўнік. Бульба́шнік даўно́ ўжо ско́шаны. *Нар.*

БУЛЬБЕ'ННІК (бульбе́ньнік) *мужч.* Бульбоўнік. Бульбе́ньнік гэ́ты такі́ ўжо паро́с, ня бу́дзя бу́льбы. *Бяс.*

БУНТАНІ'НА (бунтані́на) *жан.* Блытаніна. Ну і бунтані́на ў вас тут, што канца́ не зно́йдзеш: усё заблы́тана. *Меж.* Блытаніна. Зноў бунтані́на вы́йшла з гэ́тымі гра́шамі. *Узгур.*

БУРАКАВІ'ННЕ (буракаві́ньне) *ніяк.* Бацвінне. Ускоч на ве́сьнікі, набяры́ буракаві́ньна і ўкінь тро́ху пара́сяці. *Узгур.*

БУРКАВА'НЫ (буркава́ны) *дзеепрым.* Брукаваны. Вы па но́вай буркава́най даро́зе е́халі? Там до́бра е́хаць на машы́не. *Няр.*

БУРЦА'К (бурца́к) *мужч.* Пячэнне, спечанае з мукі на алеі. Ну, ма́ці, бурцакі́ ў цябе ўдалі́ся. *Пал.*

БУСА'К (буса́к) *мужч.* Узгорак. Бяжы́, яны ўжо на буса́к падніма́юцца. *Даўг.*

БУХА'Н (буха́н) *мужч.* Абаранак. Ко́лісь цуке́рак такі́х не было́, то́лькі буха́ны пяклі́, але ш і яны́ былі́ сма́чныя. *Бяс.*

БУЦЯ'Н (буця́н) *мужч.* Бусел. На страсе́ буця́н зноў зьвіў сабе́ гняздо́. *Узгур.*

БЫДЛЯ'ЧЫ (быдля́чы), -ая, -ае; *прым.* Кармавы (бурак). Ці паве́рыш, на́ват былі́ быдля́чыя буракі́, віда́ць, мно́га навязьлі́. До́бра, што схадзі́ла. *Яц.*

БЭНСЬ (бэньсь) *мужч.* Дзіця, народжанае дзеўкаю да замужжа. Гэ́та, ка́жуць, бэньсь у яе́, а сто́лькі ж го́нару, недатро́га, а цяпе́р зь лю́ляю займа́ецца. *Узгур.*

БЭ'РЛЯЦЦА (бэ́рляцца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Перабіраць ежу, капацца ў ёй, шукаць лепшага. Чаго́ яму ні паста́ў, ўсё ро́ўна бэ́рляецца. *Кам.*

БЭ'КАЦЬ (бэ́каць), -ю, -еш; *незак. тр., неадабр.* Дрэнна чытаць. Міха́лка не чыта́е, а бэ́кае, але ка́п се́сьці ды павучы́ць тро́хі — ня хо́ча. *Хал.*

БЭ'ЙБУС (бэ́йбус) *мужч., неадабр.* Лянівы чалавек (у адносінах да маладых людзей). Ну і бэ́йбус. Ко́лькі яму не кажы́, а да яго́ не дахо́дзіць. *Кам.*

БЭ'ЙСЮР (бэ́йсюр) *мужч.* Байструк. Гаўры́лава дзе́ўка бэ́йсюра радзіла. І як е́та лю́дзям у во́чы глядзе́ць. *Р. Ч.*

БЯЗЛА'ДЗІЦА (бязла́дзіца) *жан.* Беспарадак. Така́я ужо ў яе бязла́дзіца, уся́ гаспада́рка ху́тка разва́ліцца. *Кам.*

БЯЗРУ'ЧЧА (бязру́чча) *ніяк., зневаж.* Няспрытны, няўдалы ў рабоце. За́рас вазьму́ ро́згу дый па рука́х. Бязру́чча гэ́нае, усё ў яго з рук па́дая. А́бы за што ўзя́ўся, так і паб'е́. *Бяс.*

БЯРЭ'ЗАНЬ (Бярэ́зань) *жан.* Беразіна. Хто ба́чыў, на Бярэ́зань аўто́бус ішоў ці не? *Чыж.*

БЕРАЗАВІ'К (бяразаві́к) *мужч., збор.* Бярозавыя дровы. Я сабе́ і бяразавіку́ прывязу́, на што мне гэ́ты а́сіньнік. *Кам.*

БЯСКЛЁ'ПАЧНЫ (бясклё́пачны) *прым., неадабр.* Няўважлівы. Такі́ ўжо бясклё́пачны мой чалаве́к, ня ба́чыць, што пад но́сам ро́біцца. *Дук.*

БЯССЛО'ЎНЫ (бяссло́ўны) *прым.* Маўклівы. Як

трэ́ба гавары́ць, дык ён зусі́м бяссло́ўны: маўчы́ць бы вады́ набра́ўшы. *Граб.*

ВА'ДЗІЦЦА (ва́дзіцца), -дж-у-ся, -дз-іш-ся; *незак. тр.* Сварыцца. Як ва́дзіліся тады́, дык і цяпе́р не размаўля́юць. *Зап.*

ВАДЗЯНІ'К (вадзяні́к) *мужч.* Вялікая драўляная конаўка. Ма́ці, дзе наш вадзяні́к, памы́цца трэба. *Р. Ч.*

ВАЖДА'ЦЦА (важда́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Вазіцца. Нашто́ мне важда́цца з гэ́тымі па́калкамі. *Кам.*

ВАЖКІ' (вашке́) *толькі мн.* Лейцы. Пацягні́ вашке́, не ба́чыш ці што: конь зварача́е куды́ хо́ча. *Р. Ч.*

ВАКА'НЦА (вака́нца) *жан.* Вакансія. Як бу́дзя вака́нца, то устро́іцца на рабо́ту. *В. В.*

ВАКУРА'Т (вакура́т) *прысл.* Своечасова. Мы прышлі́ вакура́т, не спазьні́ліся. *Кам.*

ВАЛАВО'Д (валаво́т) *мужч.* Вяроўка, на якой водзяць жывёлу. Дзе ён то́лькі гэ́ты валаво́д дзеў? Каро́ву трэ́ба ве́сьці. *Зап.*

ВАЗЯ'ЦЬ (вазя́ць), -му, -меш; *незак. тр.* Узяць. Во, вазяла́ кні́гу і ні́чо́га ве́дацць ня хо́ча. *Кузьм.*

ВАЛАЧА'Й (валача́й) *зневаж.* Валацуга. Дзе гэ́та ты па нача́х шля́ешся, валача́й? *Узгур.*

ВАЛАЧЫ'ЦЦА (валачы́цца), -ч-у-ся, -ч-ыш-ся; *незак. тр.* Хадзіць дзе-небудзь без ніякай мэты. Це́тка Юзэ́фа дык вало́чыцца ат ха́ты да ха́ты, бы́ццам у свае́й ха́це ня́ма́ чаго́ рабі́ць. *Сям.*

ВАЛБУ'ХА (валбу́ха) *жан.* Балячка, прышч. На но́сі не́йкая валбу́ха ўсьсе́ла, балі́ць во. *Бяс.*

ВАЛТУ'ЗІЦЦА (валту́зіцца) -дж-у-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Займацца. Валту́зілася, валту́зілася зь і́м ды і кі́нула, бо зрабі́ць не магу́ ні́чо́га. *Раўч.*

ВАНГО'Р (ванг'о́р) *мужч.* Вугор. Пры мне, я якра́с старажы́ў се́ткі на берагу́, дык упуска́лі е́тых ванг'о́раў (іх сійча́с называ́юць угры́, а тады́ называ́лі ванг'о́ры). *Пап.*

ВА'РА (ва́ра) *жан.* 1. Вараная ежа. Як я ні пад'ем

ва́ры, дак гало́дная хаджу́. *Уж.* 2. Агароднiна, якую вараць (буракi, капуста, морква i г. д.). Ва́ра ў агаро́дзе вы́расла до́брая, бу́дзе што вары́ць зiмо́й. *Мац.*

ВАРО'К (варо́к) *мужч.* Ларок. Няма́ чаго́ iсьцi, варо́к закры́ты на абе́т. *Вiшн.*

ВАРСА'ЦЬ (варса́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Зацягваць аборы ў лапцi. Трэ́ба ла́пцi заварса́ць. *Р. Ч.*

ВА'РЫВА (ва́рыва) *нiяк.* Вараная страва. Дзе́ўкi, у пе́чы ва́рыва стаiць, калí е́сьцi захо́чацца, бяры́ця е́сьця. *Р. П.*

ВА'ТНIКI (ва́тнiкi) *толькi мн.* Ватовыя штаны. Адзе́нь ва́тнiкi, а то хо́ладна се́ньня. *Чар.*

ВАЎЧО'К (ваўчо́к) *мужч.* 1. Ерш. Налавiў ры́бы, адны́х ваўчко́ў, а што зь iмi рабíць? Я не ўме́ю нiчо́га. *Чыж.* 2. Фiгурка, якую прымацоўваюць на самы высокi край даху. Глядзiце, i Iва́н на сваю́ ха́ту ваўчо́к прыбiў. *Чыж.*

ВА'ЦIКI (ва́цiкi), *адз.* ва́цiк. Боцiкi з нiзкiмi халяўкамi. Быў адзíн у нас дурнава́ты, пасвары́ўся з ма́ткай, адзе́ў ва́цiкi i ў даро́гу. *Р. Ч.*

ВЕ'ДАЦЬ (ве́даць), -ю, -еш; *незак. тр.* Умець. Ой, ба́пка, я нi ве́даю каро́ў даiць. *Кам.*

ВЕДЗЯРКО' (ведзярко́) *нiяк.* Вядзерца. Дзет вадзiцы ўзяў ведзярко́, глядзiць — ля кало́цца ляжы́ць цялу́шачка. Ен i гэту цялу́шачку забра́ў дамо́ў. *Луб.*

ВЕ'ДЫМА (ве́дыма) *прысл.* Вядома. Ве́дыма, што вучо́ны чалаве́к гаво́рыць гла́тка, цiка́ва, красíва. *Узгур.*

ВЕ'ЛЬКI (ве́лькi) *прым.* Вялiкi. Ве́лька вёска тая, што за тым узго́ркам. *Бяс.*

ВЕ'ЛЬМА (ве́льма) *прысл.* Вельмi. Ве́льма пат ста́расьць ко́сьцi баля́ць. *Кам.*

ВЕ'РМА (ве́рма) *прысл.* 1. Вельмi. Ве́рма яна́ ўсё да галавы́ бярэ́. *Кам.* 2. Лясная сцяжынка. Бу́дзеце iсьцi даро́гай, по́тым напра́ва, а там ве́рмачка бу́дзе, от па ёй i iдзiце. *Р. Ч.*

ВЕРХАЛА'З (верхала́с) *мужч., асудж.* Лёгкадумны

чалавек. Увосень верхалас прыяжджаў мой. Што зь яго радасьці? *Хож.*

ВЕ'ЧКА (вечка) *жан.* Накрыўка, якой накрываюць гаршкі і збаны. Здымі вечка вунь с таго збана ды зьбяры трохі сьмятаны. *Крок.*

ВІД (віт) *мужч.* Твар. Ён давай ваду ды на віт, памыўся, ды прайшоў яго сон. *Мядз.*

ВІ'ДНЫ (відны) *прым.* Прыгожы. Была яна відная жанчына. *Кам.*

ВІДО'ЧНА (відочна) *прысл.* Відавочна. Ні я, дык ён, відочна, зойдзе да цябе. *Нар.*

ВІ'ДУЧЫ (відучы) *прысл.* Увачавідкі. Вільгаці зь вясны хватала, а яшчэ сонца,— відучы ўсё йшло ўгару. За ноч картошка на паляц падрастала, каліўе лапушыстае адразу ў калена стала. *Белар.*

ВІЖАВА'ЦЬ (віжаваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Сачыць. Во еты чалавек праслявіўся на ўсю веску. І вы думаеце чаму? А таму, што ён любіў віжаваць за другімі і яго зльвілі. *Р. Ч.*

ВІСКІ' (віскі), *адз.* вісок. Скроні. Е'та ж як дась мне ў віскі, аш у галаве пацямнела. Думала не выжыву, але нейк ачуняла. *Р. П.*

ВІТУ'ШКА (вітушка) *жан.* Матавіла, прылада, на якую наматваюць пражу. Спрадзём на калаўрот пралі, на вітушкі саўём, гэтыя вітушкі дзьве саставім, дзьве нітачкі з вітушак пачэпім на столь і снуём на сьцяну. *Пап.*

ВО'БРУЦЬ (вобруць) *жан.* Лейцы. Даў суседу вобруць, а ён усё ні прыносіць. *В. В.*

ВО'ГНІК (вогнік) *мужч.* Тэрмометр. Пашукай там у прыскрынку фігулкі ад вогніка. *Борк.*

ВО'ЖКІ (вошкі) *толькі мн.* Лейцы. Твае вошкі чуць ліпяць, баюся, што парвуцца, не будзе чым кіраваць. *Неж.*

ВО'ХВАТ (вохват) *мужч.* Чорт. Як малая была, дык ўсё вохватам страшылі. *Р. Ч.*

ВО'ПАЧКА (во́пачка) *жан.* Вешалка ў паліто. Во́пачку адарва́лі, паліто́ ве́шалі. *Н. Д.*

ВО'ТЧЫМ (во́ччым) *мужч.* Айчым. Глядзіць чужы́х дзяце́й, як сваі́х, во табе́ й во́ччым. *Ліс.*

ВО'СЕЦЬ (во́сіць) *жан.* Мера лёну; колькасць снапкоў лёну, якія ўмяшчаюцца ў будынку-сушылцы. Ране́й ко́жная мя́лка па тры во́сіці вымiна́ла лёну за во́сінь, а ціпе́рака й калаўро́ты павыкі́дывалі. *Аўг.*

ВУ'ГАЛ (ву́гал) *мужч.* Дом. Тут у мяне́ ву́гал харо́шы і жыве́цца до́бра, але ш у Пліцівішчах ле́пей было́. *Р. П.*

ВУГНЯ'ВІЦЬ (вугня́віць), -ю, -іш; *незак. тр.* Гугнявіць. Вугня́віць, што нічаге́нечкі не разьбярэ́ш. *Ліс.*

ВУДАВЕ'Ц (вудаве́ц) *мужч.* Удавец. Жо́нка яго як паме́рла, дык ён вудаўцо́м жыў уве́сь час, паку́ль сам не паме́р. *Р. П.*

ВУ'КСУС (ву́ксус) *мужч.* Воцат. Схава́й ву́ксус ад дзяце́й, а то патру́цяцца. *В. В.*

ВУЛДЫ'Р (вулды́р) *мужч.* Гуз. Ну і сту́кнулася, што аж вулды́р усхапі́ўся. *Граб.*

ВУ'ЛКА (ву́лка) *жан.* Праход з асноўнай вуліцы. Бягучы́ па ву́ліцы, яны звярну́лі ў ту́ю ву́лку, што паўз Анто́нчыкава́й сядзі́бы ідзе́. *Узгур.*

ВУМ (вум) *мужч.* Розум. Атку́ль ты такі вум ма́еш і скуль ты ўзя́ўся: усе мо́гуць пара́іць, а вось зрабі папро́буй. *Узгур.*

ВУ'ПАР (ву́пар) *мужч., неадабр.* Упарты чалавек. А ён такі ву́пар, ніко́лі не паслу́хае, хоць распрасі́ся. *Уж.*

ВУСА'Ч (вуса́ч) *мужч.* Ячмень. Кало́сься вусача́ по́ўныя-по́ўныя, ужо зусім пасьпе́лі. *Мал.*

ВУШНЯ'К (вушня́к) *мужч.* Вушак. На вушнякі Васіль кра́скі купі́ў. Трэ́ба бу́дзе пакра́сіць. *Бяс.*

ВУША'Т (вуша́т) *мужч.* Цэбар. Была́ ў мяне́ каро́ва, папа́ла у вуша́т сьцякло́, а яна́ ўзяла́ ды вы́піла і здо́хла. *Кук.*

ВЫБІРА'ЦЬ (выбіра́ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Выра-

заць па дрэве. Дзяцька вельмі ўжо хораша выбірае на дрэве расцом узоры. *Гіл.*

ВЫ'БУХАЦЬ (выбухаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Выліць (неэканомна расходаваць). І калі ж ты пасьпеў гарачую ваду выбухаць? Яшчэ ўся работа наперадзе ды і смаліць яшчэ не закончылі. *Меж.*

ВЫ'БУШАВАЦЬ (выбушаваць), -ю, -еш; *зак. тр.* Выкінуць. За тры гадзіны ўвесь гной выбушавалі с хлява. *Пап.*

ВЫВЕ'РТКІ (выверткі), -ая, -ае, *прым.* Вёрткі. Быў кавалер і ў мяне. Цымбаліст. Выверткі быў хлапец: рвік за бок адну, скуб другую — усе ад яго ўцякалі. *Пуз.*

ВЫГАГО'ЙЛА (выгагойла) *агульн.* Вымагальнік. Выгагойла яна, твая Маруська: колькі не давай, а ўсё мала. *Граб.*

ВЫГАНЯ'ЦЬ (выганяць), -ю, -еш; *незак. тр.* Зарабіць. Трактарысты вясною па 300 рублёў за месяц выганяюць. *В. В.*

ВЫ'ДАЦЬ (выдаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Адлупцаваць. Хай лепяй ні паказуяцца, бо я яму выдам добра. *В. В.*

ВЫ'ДУРЫЦЬ (выдурыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Абдурыць. Да сям'і тут далека, як да неба. Адно вядома: выдурыць ён яе, пакіне голую як ліпку і айда. *Неж.*

ВЫЖАНЯ'ЦЬ (выжаняць), -ю, -еш; *незак. тр.* Выганяць. Ты ж, дзіцятка, выжанеш карову. *Кам.*

ВЫ'КАПАНЫ (выкапаны) *дзеепрым.* Выліты, падобны. А Валік твой — выкапаны бацька! *Бр.*

ВЫ'КАТ (выкат) *мужч.* Дэкальтэ. Спачатку выраж выкат, а тады ўжо і пройму. *Чар.*

ВЫ'КЕШКАЦЬ (выкешкаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Ачуняць, паправіцца. Ранены быў, рука пачала гнісьці. Жылы былі відаць. Каб левая балела, то можа памёр бы, а то правая,— неяк выкешкаў. *Бяс.*

ВЫ'КІНУЦЦА (выкінуцца) *зак. тр.* Вырасці, з'явіцца. За ноч столькі грыбоў выкінулася, што як пайшоў у

лес, дык во́чы разьбяга́юцца, не ве́даеш като́ры і браць. Пасьля́ дажджу́ баравікі́ паві́нны вы́кінуцца. *Неж.*

ВЫ'МАГЛЯВАЦЬ (вы́маг'ляваць), -юю, -еш; *зак. тр.* Выпрасаваць у маглях. Хай сабе́ й прасава́ць амаль што ні трэ́ба, ма́г'лі вы́маг'люють, але ш дзьве́сьця пяцьдзеся́т штук і пяцьдзеся́т каўняро́ў! *Паг.*

ВЫПУЛА'ГАЦЬ (выпула́гаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Выбіваць. Ці мо́жна так выпула́гаць адзе́ньне? Яно́ ху́тка парве́цца. *Р. П.*

ВЫ'ЛУПІЦЬ (вы́лупіць), -л-ю, -іш; *зак. тр.* Адлупцаваць. Бу́дзеш дурэ́ць — ба́цьку скажу́, дык вы́лупіць ён цябе́. *Гіл.*

ВЫ'ПАРАЦЬ (вы́параць), -у, -аш; *зак. тр.* Знайсці. Цукерку дзе якую вы́пара, усё з'есць. *Кам.*

ВЫ'ПАРАЦЬ У КНІ'ЗЕ. Вычытаць у кнізе. Гэ́та я ў кнізі вы́парала, тро́ха ж умею чыта́ць. *Кам.*

ВЫПЯВА'ЦЬ (выпява́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Спяваць. Дрост так хо́раша выпява́я, аж заслу́хаясься. *Кам.*

ВЫ'РАЎНЯ (вы́раўня) *жан.* Капец. А ў про́шлым го́дзе было́ сто́лькі бу́льбы, што ў сто́пку не ўле́зла, дык мы ў вы́раўню закапа́лі. *Кук.*

ВЫРЫ'ЎНЯ' (вырыу́ня) *жан.* Хлеў. Малады́я ка́жуць хлеў, а мы вырыу́ня́. *Р. Ч.*

ВЫРО'СТАЦЬ (выро́стаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Вырастаць. Трава́ тут выро́стае аж па по́яс. *Кам.*

ВЫ'РУБ (вы́руп) *мужч.* Зруб. Во, Максім хату́ ско́ра ко́нчыць — вы́руб ужо гато́вы. *Бяс.*

ВЫРЭ'ЗНА (вырэ́зна) *прысл.* Выразна. Наш стары́ дык яшчэ́ на́тта вырэ́зна размаўля́е. *Папл.*

ВЫ'СМЕГНУЦЬ (вы́сьмегнуць) *зак. тр.* Выкіпець. Чаго́ гэ́та ён гамо́ніць? У мяне́ і вада́ ў чыгуне́ вы́сьмегла. *Суц.*

ВЫСТРЭ'НЧВАЦЬ (выстрэ́нчваць), -аю, -еш; *незак. тр.* Дагаджаць. Ну дык вы прывы́клі, каб вам усё выстрэ́нчваць, а я ужо́ стара́я, не магу́. *Райч.*

ВЫСЫПА'ЛЬНІКІ (высыпа́льнікі) *толькі мн.* Пер-

шыя грыбы. Ужо высыпáльнікі зьявіліся ў нáшым лéсі. *Кам.*

ВЫЦІРА'ЛЬНІК (выцірáльнік) *мужч.* Ручнік. Па тутэ́йшаму звы́чаю для гасьцéй прынóсіцца чы́сты выцірáльнік. *Узгур.*

ВЫЦЬ (выць), -ю, -еш; *незак. тр.* Плакаць. Чагó ты вы́еш, як па пакóйніку, нідзé яны́ ні дзéнуцца, гэ́тыя хлóпцы: паéзьдзяць, пáезьдзяць і вéрнуцца. *Узгур.*

ВЫ'ШКІ (вы́шкі) *толькі мн.* Прыстасаванне на ўзроўні столі, на якое можна класці збожжа ці сена. Гэ́тае сéна складзём на вы́шкі, яго ж нямáла зьмéсьціцца, калí закладзём аж да стóлі. *Узгур.*

ВЫХВАЛЯ'КА (выхваля́ка) *агульн., зневаж.* Хвалько. Выхваля́ка, узяў бы лéпей вéнік, ды і трóхі махану́ў. *Хож.*

ВЫ'ХВАТКІ (вы́хваткі), *адз.* вы́хватка. Бліны. На сьнéданьне вы́хваткі с ты́ўкаўкай. *Дуб.*

ВЫ'ЦУХМАЛІЦЬ (вы́цухмаліць), -ю, -іш; *зак. тр.* Запэцкаць. Ні пасьпéла надзéць нóвай сукéнкі, як вы́цухмаліла ўсю́. *Кам.*

ВЫЦЯГА'НКА (выцягáнка) *жан.* Саматканая посцілка з выцягнутымі ніткамі. Ка мне ш з Масквы́ прыязджáлі, дзьве выцягáнкі на фáбрыку забрáлі. *Кам.*

ВЫ'ЧХАЦЦА (вы́чхацца) *зак. тр.* Страціць рэзкі пах. Хрэн жа зусім мáла пастая́ў, а зусім вы́чхаўся. *Гар.*

ВЫЯ'ЎНА (выя́ўна) *прысл.* Выразна. Гавары́ выя́ўна, бо я не разьбірáю, што ты кáжаш. *Цяр.*

ВЭ'НДЗАЦЦА (вэ́ндзацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.; неадабр.* Хадзіць без справы. Нямá чагó рабíць, дык вэ́ндзаецца с кутка ў кут, а каб рáшку вы́несьці — ня мóжа. *Райч.*

ВЭНЬ (вэнь) *часц.* Вунь. Вэнь стаíць вядрó, схадзí вазьмí і прынясí вады́. *Узгур.*

ВЭ'НЯКА (вэ́някa) *часц.* Вунь. Вэ́някa там вазьмí нóвую хýстку. *Дук.*

ВЯГА'ЛА (вягáла) *жан.* Мянтуз. Лавíць ры́бу люб-

лю, а есьці так сабé. Аднá тóлькі мне да смáку — вягала: і пóліўку люблю зь яе і мяса. *Ст. В.*

ВЯРО′ПАЎКА (вярóпаўка) *жан., лаянк.* Тоўстая непрыгожая жанчына. Што ты, вярóпаўка, вярзéш? *Кам.*

ВЯРСТА′ (вярстá) *жан.* Капа сена. Цэлых дзьве вярсты сéна сёньня табé наклáлі, а ты кáжаш, што мáла. *Р. Ч.*

ВЯРТЛІ′ВЫ (вяртлíвы), -ая, -ае, *прым.* Вёрткі. Мужыкі падýмалі, што я здáўся тамý барцý, а не тóя тут было. Вяртлíвы быў я вéльмі. Зноў выварнуўся і ўжо як сеў на ягó, так не зьлес, пóкуль ён ні здáўся. *Белар.*

ВЯРТУ′Н (вяртýн) *мужч.* Жвавае дзіця. Ну і вяртýн, ні мінýты не пасядзíць на мéсцы. *Бяс.*

ВЯЧЭ′РАШНЯЕ (вячэрашняе) *прым.* Вячэрняе. Я, знáяце, малачкó стáўлю ў халóдную вадý, каб не скісла. Гляньце, учарáшняе вячэрашняе, а ня скісла. *Белар.*

ВЯША′К (вяшáк) *мужч.* Вешалка. Трэба палітó на вяшáк павéсіць, а ты што кінуў ягó? *Нар.*

ВЯШНЯ′К (вяшняк) *мужч.* Вясновае парася. У мянé парасяткі вешнякі. *Кам.*

## Г

ГАБЕ′ЛАК (габéлак) *мужч.* Гэблік. Е′тым габёлкам шчэ дзет мой габлявáў. *Р. П.*

ГАБЛЯНУ′ЦЬ (габлянýць), -у, -еш; *зак. тр.* Напісаць на скорую руку. Узялá і габлянýла пісьмó, ні падýмаўшы. *Кам.*

ГАВЭ′НДА (г′авэнда) *жан.* Грамада. Цэлая г′авэнда людзéй на вýліцы, бáчыце? *Борк.*

ГАВЯ′ДА (гавяда) *жан.* Буйная рагатая жывёла. Ён наняўся гавяду пáсьвіць. *Уж.*

ГАЗУ′ЛЕЧКА (газýлечка) *жан.* Газовачка. Мае два браты хадзілі ў шкóлу, тут была валаснáя чатырохклáсная шкóла. Карасíну не былó, газýлічку ету мáма запáліць, яны пад гэнай газýлічкай сьлéпяцца. *Бяс.*

ГАЙЦА'ЦЬ (гайца́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гойсаць. А ён гайца́е, як дурны́. *Уж.*

ГАЛАВА'СЦІК (галава́сьцік) *мужч., зневаж.* Чалавек з вялікай галавой. От ужо галава́сьцік, ну і галава́ ш у яго. *Мядз.*

ГАЛАВА'Ч (галава́ч) *мужч.* Галавень. Учóра ён налавіў шмат галавачóў. *Р. П.*

ГАЛАВЯ'ЗКА (галавя́зка) *жан.* Любая хустка. Мары́лька сабе́ газóўку купіла, а мне каб якую галавя́ску прасіла прыве́сьці. *Борк.*

ГАЛАГУ'Н (галагу́н) *мужч.* Певень. Вот гэ́ны галагу́н, кóжную ра́ніцу пабу́дзіць. *Кам.*

ГА'ЛДА (га́лда) *агульн.* Гультай. Дзе́ці ляну́юцца працава́ць, са́ма ста́рша га́лда така́я, увесь дзень бе́гае па ву́ліцы. *Р. Ч.*

ГАЛЕ'НЬ (гале́нь) *мужч.* 1. Венік без лісцяў. Каля га́нка валя́ецца гале́нь пад нага́мі, то прынясі сюды́. *Хац.* 2. Дзяркач. Нідзе́ гальня́ не знайду́, за́ўтра сьвя́та, падлóгу трэ́ба памы́ць. *Р. Ч.* Ці ж с такім у ба́ню хадзіць, гале́нь, а не ве́нік. *Чар.*

ГАЛЁ'КАЦЬ (галёкаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Крычаць. Чагó ты галёкала сёньня? *Кам.*

ГАЛЬЕ'СКО (галье́ско) *ніяк.* Прас. Іржа́ пабіла галье́ско, німа́ чым прасава́ць. *Уж.*

ГАМО'НКА (гамóнка) *жан.* Гутарка, размова. Ну і зашла́ тут гамóнка така́я, хто як, але ўсе вы́казаліся. *Турэц.*

ГАМУ'З (гаму́с) *мужч.* Шум. Такі гаму́с паднялі, што аж на ву́ліцы чутнó. *Ліс.* Паднялі такі гаму́с, што хоць з ха́ты цяка́й. *Уж.*

ГАНЬБО'ВЫ (ганьбóвы) *прым.* Які мае недахоп. Я тагó пла́цьця ня купіла, бо янó ганьбóвая і на яго зьніжана цана́. *Дук.*

ГАНЯ'ЦЬ (ганя́ць), ю-, -еш; *незак. тр.* Акучваць. Брыгадзір каня́ ня доў ганя́ць бу́льму, бо на рабóту ма́ла хадзіла. *Р. Ч.*

ГАНЯ'ЛКА (гаця́лка) *жан.* Акучнік. Трэ́ба ганя́лку ўзяць і абагна́ць бу́льму, а то перарасьцэ́. *Р. П.*

ГАПЕ'ШЫЦЬ (гапе́шыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Лупцаваць. Ну, браты́ і пайшлі́ с кала́мі, прыбяга́юць на гумно́, глядзя́ць, а там пад плíто́й вуж, яны дава́й яго́ гапе́шыць кала́мі. *Р. П.*

ГАРАВА'ЦЬ (гарава́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Настойліва, цяжка працаваць.Ране́й лю́дзі зіму́ і ле́та гарава́лі з ра́нку да ве́чара, сьпі́ны гну́лі. *Сям.*

ГАРБУЗЯ'НКА (гарбузя́нка) *жан.* Каша з гарбузоў з прасянымі крупамі. Гарбузя́нка сма́чная е́жа, калі́ вы́берыш сало́ткі гарбу́с, да яшчэ́ даба́віш са́хару, тады́ па́льчыкі аблі́жаш. *Бяс.*

ГАРДЗІЁН (гардзіён) *мужч.* Акардыён. Мая мало́чшая вот хо́раша на гардзіё́ні гра́е. *Ліс.*

ГАРДЗІ'СЫ (гардзі́сы), *адз.* гардзіс. Карнізы ў акне. Бува́ла, гардзі́сы ўкраша́лі, каб было́ прыгажэ́й глядзе́ць на во́кны. *Р. П.*

ГАРМО'НЯ (гармо́ня) *жан.* Гармонік. Палажы́ла на гармо́ню буке́т цьвято́ў, каб гармані́ст ахво́тней ігра́ў. *Ліс.*

ГАРМУ'ШКА (гарму́шка) *жан.* Хлеб, пакрышаны ў салодкую ваду. Ле́сік лю́біць гарму́шку, яму́ абы́ сало́ткая была́. *Кірк.*

ГАРО'Д (гаро́т) *мужч.* Агарод. Каб вы ве́далі, ко́лькі цяпе́р рабо́ты на гаро́дзі: і гра́ды рабі́ць, цыбу́лечку садзі́ць, і пад гуркі́ гато́віць ме́сца. *Узгур.*

ГАРО'ХАЎКА (гаро́хаўка) *жан.* Гарохавы суп. Вы́цягні вілáмі сага́н з гаро́хаўкай, навары́ла сё́ньня, як прасі́лі. *Дубр.*

ГАРСЭ'Т (гарсэ́т) *мужч.* Накідка на падушкі. Даўне́й э́тых гарсэ́таў не было́, а за́раз дык у ко́жнай ха́це. *Р. Ч.*

ГАРЦА'ЦЬ (гарца́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Шпарка ездзіць. Гарца́лі на стае́нных ко́нях па по́лі. *Ліс.*

ГАРЭ'ШНІК (гарэ́шнік) *мужч.* Арэшнік. Ко́лькі ў нас гарэ́шніку, а арэ́хаў няма́. *Кам.*

ГАРУ'МКІ (гару́мкі) *толькі мн.* Насенне гароху. Гару́мкі заўжды ўзо́йдуць, былі́ п у іх здаро́выя расткі́. *В. В.*

ГАФТ (гафт) *мужч.* Вышыўка на адзенні. Не забу́дзь для га́фта купі́ць цвятны́х ні́цяў. Трэ́ба ж зако́нчыць капта́н — хай дзіця́ но́сіць. *Узгур.*

ГА'ФТАВЫ (га́фтавы) *прым.* ад гафт. Вышываны. Чыя́ гэ́та дзе́ўчына у га́фтавым каптане́? Як снягу́рачка размалява́ная. *Узгур.*

ГАРШЧЭ'НАК (гаршчэ́нак) *мужч.* Гаршчок. Я грыбы́ перабра́ла, а по́тым загатава́ла гаршчэ́нак ва́ру, загатава́ла ва́рам, ускі́нула на скаваро́тку. *Мал.*

ГАРШЧЭ'ЧНІК (гаршчэ́чнік) *мужч.* Прыстасаванне, якім вымаюць гаршкі з печы. А я ж стара́ ўжо, а чыгуны́ с пе́чы ця́шкія цяга́ю, а не ба́чу ўжо. Быва́е, гаршчэ́чнікам зачаплю́ за бок і бяда́, хоць с ха́ты ўця́кай. *Р. Ч.*

ГАТО'ВІЦЦА (гато́віцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Рыхтавацца. Да каля́даў яны заўсе́ды гато́віліся, а гэ́ты раз го́ра вялі́кае — нічо́га не ро́бяць, як і сьвя́та не сьвя́та. *Граб.*

ГА'ЧАК (га́чак) *мужч.* Булаўка англійская. Некато́ры дзяўча́тка і цяпе́р на га́чках но́сяць ю́пкі, ляні́цца ўшыць аплічо́к і так і зно́сіць. *Р. Ч.*

ГА'ЧКА (га́чка) *жан.* Матыка. Віда́ць, на по́ля пашлі́, бо Га́нька з га́чкай і жалязьняко́м. *Заб.*

ГА'ШТАР (га́штар) *мужч.* Флёкс. Люблю́, калі́ каля́ ха́ты га́штар цьвіце́. *Мац.*

ГЕ'СТКА (ге́стка) *жан.* Блюзка. Я ўчо́ра набра́ла мульта́ну на ге́стку. *Дук.*

ГІБЗО'ВЫ (гібзо́вы), -ая, -ае, *прым.* З гіпсу зроблены, гіпсавы. Далі́ мне каранда́ш, гібзо́выя пальча́ткі, гібзо́вы пярэ́днік кругом надзе́ты з рукава́мі і паста́вілі разры́ўныя грана́ты, што кі́даюць, от такі́я ма́лянькія, от як буты́лачка такі́я ма́лянькія, правяра́ць. *Паг.*

ГІЛЯВА'ЦЬ (гілява́ць) *незак. тр.* Бегаць, насіцца (аб жывёле). Се́ньня го́рача, бу́дуць каро́вы гілява́ць. *Гар.*

ГІ'РКАЦЬ (гіркаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць злосна. Чагó ты гіркаеш, як на сваё? *Прудз.*

ГІЧА'ННЕ (гічáнё) *ніяк.* Бурачнік. Схаджý канюшы́нкі трýсікам нарвý. А мóжа й ні пайдý ў канюшы́нку, гічáня падкіну. *Сав.*

ГЛУБАЧЭ'Й (глубачэ́й) *прысл.* Глыбей. Паткапáй глубачэ́й я́мку, бу гэтак мéлка карэ́ньне не памéсьціцца. *Ліс.*

ГЛУ'МІЦЦА (глýміцца) *незак. тр.* Псавацца. Навары́ла кáшы, а ніхтó ні éсьць, дак сэ́рца баліць, што глýміцца. *В. В.*

ГЛУХА'Я СЦЯНА' (глухáя сьцянá) *будаўн.* Сцяна з суцэльных бярвенняў, без вокан і дзвярэй. Бáчыш, хату пастáвіў глухóй сьцянóй на вýліцу, разгарадзіў перагарóткай на дзьве палавíны. *Белар.*

ГЛУХІ' ГРЫБ (глухі грып). Невядомы. Глухія грыбы́ ні зьбірáйця, іх жа ні мóжна éсьці, бо патрýціцяся. *Р. П.*

ГНІЛЯ'К (гніля́к) *мужч., неадабр.* Хваравіты. Так усё жыцьцё гніляко́м пражы́ў, чагó тóлькі не рабілі. *Зап.*

ГНУ'ШКА (гнýшка) *жан.* 1. Днушка. Ні стаў скаварадý на настóльніцу, вазьмі гнýшку і пастáў. *Кам.* 2. Падстаўка пад чыгуны. Давáй сюды́ гнýшку, скварадý не хачý на стол стáвіць, гарáчая вéльмі. *Кірк.*

ГНЯЗДО' (гняздó) *ніяк.* Выемка на канцы бервяна, у якую кладуць другое бервяно, каб вылажыць вугал будыніны. Рóўна кладзі бервянó, а то вýгал скры́віш. *Бяс.*

ГО'ВАР (гóвар) *мужч.* Размова, гаворка. У нас зь ім зусім другі гóвар бýдзя пра гэту спрáву. *Так.*

ГО'ЙСАЦЬ (гóйсаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Шпарка хадзіць, ездзіць. Кап ён ні гóйсаў на лісапéдзі па вýліцы так, усё былó б дóбра. *Р. П.*

ГО'НЯ (гóня) *жан.* Доўгая палаcа жыта. Даўнéй як вы́ганеш пятнáццаць гóней, так утóмісься, што й нох не павалачы́. *Р. Ч.*

ГО'ПНУЦЬ (гóпнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Упасці. А ён гóпнуў, дак нагý і зламóў. *Р. П.*

ГО'РЫН (го́рын) *мужч.* Мулінэ. Суке́нка ў мае́й дачкі го́рынам вы́шыта. *Кам.*

ГРА'БІЦЬ (гра́біць), -бл-ю, -іш; *незак. тр.* Грэбці. Адзі́н раз на казьбе́ пан і па́рабак гра́білі се́на. Пан награ́біў пласт і ка́жыць: «О гэ́та мае́й каро́ве, бо я малако́ п'ю зь яе». *Мік.*

ГРА'МАЦЬ (гра́мацъ) *жан.* Грамата. Ране́й дык не вучы́лі до́бра гра́маці, кап то́лькі распіса́цца ўме́лі — і ўсё тут табе́. Усё ро́ўна про́стаму мужыку́ іншай рабо́ты не было́, а то́лькі ара́ць, се́яць, жаць, нашто́ та́я гра́мацъ. *Бяс.*

ГРАЦКО'ВАЯ КРУПА'. Грэчневыя крупы. Учо́ры ў Мінск е́зьдзіла ды купі́ла грацко́вай крупы́. *Бяс.*

ГРУ'ЦКА (гру́цка) *жан., памянш.* ад груца. Трэ́ба кап капу́стачка ўпрэ́ла ды гру́цка ўвары́лася — вось тады́ бу́дзе і на ра́ніцу і на абе́т. *Пал.*

ГРЫБАВО'ЧАК (грыбаво́чык) *мужч.* Грыбнік, які ведае, дзе растуць грыбы. Грыбаво́чык ён до́бры, але ж кап каму́ друго́му сказа́ць... *Хал.*

ГРЫ'ВЕНЬ (гры́вень) *мужч.* Манета ў 10 кап. Хаце́ла купі́ць ко́хту, але не хапі́ла аднаго́ гры́ўня. *Кук.*

ГРЭ'БЕНЬ (грэ'бінь) *мужч.* Прылада часаць лён. Жме́нькі мя́тага лё́ну тады́ чэ́шым. Такі́я дрыўля́ныя грабяні́ былі́, з дубо́вых пла́шак паро́бляны, у гэ́ту пла́шку ўбі́ты дубо́выя зубы́, і мы чэ́шым пе́рвы рас. Гэ́та атнімаю́цца камлі́ і вярхі́: вярхі́ го́ршыя, камлі̀ ле́пшыя. *Пап.*

ГРЭ'ЙКА (грэ́йка) *жан.* Грэлка. У вас мо́жа грэ́йка е, а то так зуб балі́ць. *Св.*

ГУГНІ'ВЫ (гугні́вы) *прым.* Гугнявы. Ёсьць у нас на сяле́ гугні́вы Я'шка, дык нічо́га не разабра́ць, што ён гаво́рыць. *Кук.*

ГУЛЯ'ЦЬ (гуля́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Заляцацца. Ме́ньшы да а́рміі не жані́ўся, гуля́ў то́лькі зь дзе́вачкай. Вярну́ўся, забра́ў яе і жыве́ цяпе́р. *Бяс.*

ГУННО′ (гуннó) *ніяк.* Гумно. Вот жы́та ўрадзіла сягóлета, цэ́лае гуннó снапоў наклáлі. *Р. Ч.*

ГУНО′РНАЯ (гунóрная) *прым.* Ганарлівая. Бач, якáя гунóрная, як паéхала ў гóрат, дык і нос задрáла. *Бяс.*

ГУ′НЬКА (гýнька) *жан.* Дзяруга. Гýнькай лóшкі засьцілáем у бýдны дзень. *Уж.*

ГУНСПО′Д (гунспóт) *мужч.* Вешалка ў паліто (у мове старэйшых). Пальтó ў яе прыгóжае, а гунспóд адарвáны і прышы́ць ня мóжа. *Мал.*

ГУ′РА (гýра) *жан.* Гара. У нас німá гýраў, а ў другíх мястáх дак і гýры вялíкія і камéньняў мнóга. *Р. П.*

ГУРКО′ЎНІК (гуркóўнік) *мужч.* Агурочнік. Гуркóўнік пасóх, гуркóў не бýдзе. *Чар.*

ГУ′СКІ (гýскі) *толькі мн. Гл.* бабок. На тым балóці мнóга гýсак расьцé. *Р. П.*

ГУСЦЕ′РАЗНЫ (гусьцéражны) *прым.* Вельмі густы. Прыгóжая былá дзеўка і кóсы ў яе гусьцéражныя былí. *Кам.*

ГУСЦЯРНЯ′К (гусьцярня́к) *мужч.* Густы падлесак. Чагó-чагó, а я́гат хватáя. Кругóм жа ляс́ы. Пóйдзіш за рэ́чку, трóхі пóля — і лясóк. Або з гэ́тага канцá. Вýліца канчáіцца — і адрáзу гусьцярня́к. *Белар.*

ГУ′ТА (гýта) *жан.* Шклозавод. Каля мóгілак гýта стая́ла, зáраз янá развáленая. *Стар.*

ГЛЫТ (глыт) *мужч.* Глыток. Адзін глыт вады́ глынýла сёньні, у рóця ўжо перасóхла. *Р. Ч.*

ГЭ′ЙСЯ (гэ́йся) *займ.* Гэта. Нá гэ́йсю хýстку надзéнь, а ў мянé другáя ёсіка. *Мац.*

ГЭ′НДЗЯ (гэ́ньдзя) *прысл.* Там, у тым месцы. Сяць, дачкá, пісáць гэ́ньдзя, на тóе крэ́сла, там сьвятлéй,— німы́сная і вáша рабóта: і дзяцéй вучы́ і да стары́х прыхóдзь. *Яц.*

ГЭ′НУДЫ (гэ́нуды) *прысл.* Туды. Дзе гэ́та Ю′зік? Няўжó гэ́нуды пайшóў? *Мац.*

ГЭ'САЛЬ (гэ́саль) *мужч., зневаж.* Прайдзісвет. Гэ́ны гэ́саль па усёй зямлі́ дзяцёй мае́. *Кам.*

## Д

ДАБРАВІ'ТЫ (дабраві́ты) *прым.* Добры. А ён чалаве́к дабраві́ты, няма́ чаго́ і каза́ць. Што не папрасі́ — усё зро́біць. *Хож.*

ДАБРА'К (дабра́к) *мужч.* Баравік. Пайду́ць дажджы́, дак бу́дзем дабракі́ зьбіра́ць і сушы́ць. *Р. Ч.*

ДАВЕ'ДКІ (даве́ткі) *толькі мн.* Наведванне. Як пашла́ ўчо́ра ў даве́ткі — і сёньня німа́. *Ліс.*

ДАГЛЯДА'ЦЦА (даглядá́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Рабіць хатнюю работу. Мае́ дзе́ткі, німа́ мне часу́, трэ́ба ш яшчэ́ даглядá́цца ісьці́. Вы прыдзі́ця пазьне́й, дак я мо́жа што ўспо́мню і раскажу́ вам. *Бяс.*

ДАЖДЖУ'ЙКІ (дажджу́йкі) *толькі мн.* Кароткія гумавыя боты. Дажджу́йкі абува́й на бало́та і на дошч. *Борк.*

ДАЛЁ'ЗНА (далёзна) *прысл.* Вельмі далёка. Мы ў грыбы́ рэ́тка калі́ хо́дзім, бо да ле́су далёзна. *Дук.*

ДА'ЛІ (да́лі) *прысл.* Далей. Атайдзі́ тро́хі да́лі, а так мне нічо́га не віда́ць. *Кам.*

ДА ПО'СЛЕДКУ (да по́сьлетку) *прысл.* Да канца. У яго ніко́лі не хапае цярпе́ньня даве́сьці пра́цу да по́сьлетку. *В. В.*

ДАРМО' (дармо́) *прысл.* 1. Нічога. Дармо́, не шкаду́й ты гэту пабі́тую шкля́нку. *Дубр.* 2. Добра. Наш стары́ ўжо дармо́ сябе́ атчува́е, а то такі́ быў, **лець хадзіў.** *Суц.* 3. Добры. Хло́пцы яны дармо́ — ве́льмі паслухмя́ныя. *Кац.* 4. Дарэмна. Дармо́ паўстава́лі з ра́ніцы, дошч такі́ ўлупіў, ні вы́йсьці. *В. В.*

ДАСЦІПНА'Я (дасьціпна́я) *субст. прым.* Добрая гаспадыня. Ат сусе́ткі ніякай жы́зьні няма́. Ка́жа, што яна дасьціпна́я. Дзе ж яна́ дасьціпна́я, калі́ мужыка́ давяла́ да таго́, што паве́сіўся. Не мог ужы́цца зь ёй. *Бяс.*

ДАЎБІ'НА (даўбíна) *жан., зневаж.* Высокая худая жанчына. Сястрá мая́ худáя былá, дык усе казáлі: «Вот даўбíна». *Бяс.*

ДАЎМІ'ЦЦА (даўмíцца) *зак. тр.* Дадумацца. Даўмілася такóю халадзíнаю без пальтá выпраўля́ць. *Ліс.*

ДАЎНЕ'Й (даўнéй) *прысл.* Даўжэй, больш. І не вéдаю, што табé расказáць. Не такáя ш яшчэ́ й старáя я, другíя ш больш вéдаюць, даўнéй жылí, мóжа б вы да кагó с старэ́йшых схадзілі. *Белар.*

ДВАРЫ'ШЧА (дварышча) *ніяк.* Падворак. У іх усягды́ дварышча чыста вымецена і прыбрáна. *Пільк.*

ДВУХПУЦЯВЫ' (двухпуцявы́) *прым.* Двухкалейны. Цяпéр усюды двухпуцявáя жалéзная дарóга, а бывáла паязды́ разьмінáюцца на разьéздах, або павінен перачакáць на стáнцыі, пакá другі разьмінéцца. *Белар.*

ДЖА'БКА (джáпка) *жан.* Матыга. Вазьмý джáпку і пайдý вéчарам крыхý агарóт папалю. Сóнца схавáлася, у галавý пéкчы не бýдзе. Я заўсёды вéчарам палю. *Р. Ч.*

ДЖМЫ'ХНУЦЬ (джмы́хнуць), -у, -еш; *зак. тр.* 1. Чмыхнуць. Янá так мóцна джмы́хнула, што ўсе агляну́ліся. *Бяс.* 2. Уцячы. Дзе там іх злóвіш: як джмы́хнуць у кусты́ — тóлькі іх і бáчылі. *Чар.*

ДЖУПЛЯВА'ЦЬ (джуплявáць), -ю, -еш; *незак. тр.* Рваць. Нv і наджуплявáлі вы кветак. *Кам.*

ДЖЫГІ'Р (джыгíр) *мужч.* Ёрш. Мой дзя́цька злавíў на вýдачкv двух джыгірóў. *В. В.*

ДЖЭ'ГАЦЬ (джэ́гаць), -ю, еш; *незак. тр.* Ківаць. Не джэ́гай лáўку, сядзí спакóйна. *Кам.*

ДЗЕ'ЎКА (дзéўка) *жан.* Дзяўчына. Пóмню, на тáнцы мы ў другýю дзярэ́ўню хадзілі, у Гаяны́, а там за дзявóк білі нас, каб мы ня адбівáлі ў íхніх хлóпцаў. Як нас мнóга, то яны́ ня лéзуць, а як астáўся хто ў дзéўкі, то так усы́плюць, што ён ледзь назáт прыпаўзé. *Белар.*

ДЗЁР (дзёр) *мужч.* Адзёр. У той год усе дзéці вéс-

кі перахварэлі на дзёр, так часаліся, чырвоныя вочы былі. *Граб.*

ДЗІРЭ'КТАРКА (дзірэктарка) *мужч.* Дырэктар. Кажуць, учора прыехаў новы дзірэктарка школы. *Узгур.*

ДЗВЯГА'ЛКА (дзьвягалка) *жан.* Будынак, дзе знаходзіцца дзвіжок. У нас даўно дзьвягалка свая, яна дае сьвет і другім вёскам. *Кам.*

ДЗЕТАВО'ДУХА (дзетаводуха) *жан.* Куранятніца. Вот гаткая дзетаводуха, зусім не глядзіць куранят. *Р. Ч.*

ДЗЕ'ТУХА (дзетуха) *жан.* Квактуха, якая водзіць куранят. Вой, дзетуха зьвяла недзе кураняты. *Р. Ч.*

ДЗЕРАВЯ'ШКІ (дзеравяшкі) *толькі мн.* Абутак на драўлянай падэшве. Куды ты паперлася ў дзеравяшках. Ногі наб'еш, покуль сходзіш у тую вёску. *Р. Ч.*

ДЗЕРВЯНЕ'ЦЬ (дзервянець) *незак. тр.* Дранцвець. Сядзела, покуль ногі не пачалі дзервянець. *Чар.*

ДЗЁ'РЦІ (дзёрці), -у, -эш; *незак. тр.* Драць, таркаваць. Заўтра рана пабуджу, панімаяш што, і ты будзяш дзёрці (бульбу), а я буду пячы (бліны).— А як яе дзёрці?— А вот так! *Мік.*

ДЗЯВО'ЧЧЫНА (дзявоччына) *жан.* Дзявочасць, дзявочыя гады. Раскажу пра сваю дзявоччыну. Ждалі мы калят. Тады жанілі Цярэшку. У Цярэшца станавіліся с аннаго боку дзеўкі, з другога — хлопцы. А давалі каму роўную пару, каму няроўную, хоць і ні хацеў, але старога давалі. Сьмеху было. *Луб.*

ДЗЯВО'ШЧА (дзявошча) *ніяк.* Маладосць. Я дзявошча свайго і не ўбачыла. Вышла ў шаснаццаць год замуж за такога, што й рабіць ня ўмея нічога, сама заўсёды ўперадзі, а ён за маімі плячамі жыве. *Бяс.*

ДЗЯЙНІ'К (дзяйнік) *мужч.* Сметнік. Занясі банкі на дзяйнік, ды сядай дранку есьці. *Мац.*

ДЗЯЛЯ'НЬКА (дзялянька) *жан.* Участак лесу, прызначаны для вырубкі. Вызначылі ў нас дзяляньківі, дык вельмі многа лесу будзе выраблена. *Гіл.*

ДЗЯРНО′ (дзярно́) *ніяк.* Дзёран. Трэ́ба іці нарэ́заць дзярна́ ды апкла́сьці клу́мбу. *Чар.*

ДЗЯРУНЫ′ (дзяруны́) *толькі мн.* Бульбяная бабка. Настружы́ карто́шкі по́ўную міску, дзяруны́ бу́ду пячы́. *Кук.*

ДЗЯЦЁ′ (дзяцё) *ніяк.* Дзіця. Мы даўне́й ці гэ́так жылі́. І трэ́ба было пра́сьці, і дзіцё трэ́ба калыха́ць. Адна́ нага́ ў по́чапца, а другой калаўро́т цісьніш. *Сцеш.*

ДНА (дна) *ліч.* Адна. Дажыва́ю я свой век дна. *Кук.*

ДО′ГЛЯДЫ (до́гляды) *толькі мн.* Агледзіны. Ме́лася да мяне́ жанчына́ прыйсьці́ ў до́гляды. *Кам.*

ДО′ДНЕЧКАМ (до́днечкам) *прысл.* Досвіткам. Ве́даяш, мо́жа ні забы́лася Макры́на, ко́лькі трэ́ба было́ напра́сьці на дзе́вяць гу́бак верацяно́м? Ды пра́лі не дня́мі, а вечара́мі і до́днечкамі, а цэ́лы дзень малаці́лі жы́та цапа́мі ды на кулі́ ператраса́лі. *Пал.*

ДО′ЙНІЦА (до́йніца) *жан.* Дайніца. Уве́чара надаіла по́ўную до́йніцу. *Р. Ч.*

ДОЙСЦЬ (дойсьць) *прысл.* Досыць. Што тады́ было́?! Мох учы́цца папо́ў сын, пано́ў сын, папо́ва дачка́, па́нава дачка́, яшчэ хто бага́ты — мох учы́ць — і дойсьць. А цяпе́р усё перавярну́лася. *Мік.*

ДО′РЖНІК (до́ржнік) *мужч.* Спецыяльны загон у двары для хатняй жывёлы. К сьвя́ту трэ́ба до́ржнік прыбра́ць, найпе́рш сабра́ць вы́сахшы гной, папрыбіва́ць лясін, запра́віць ве́сьнічкі, бо ўжо ж закрыва́юцца і каро́ва з це́лям выхо́дзіць на падво́рык. *Меж.*

ДОС (дос) *прысл.* Дастаткова. Дос ужо вам зу́бы тачы́ць. *Узгур.*

ДО′СТКА (до́стка) *жан.* Купі́ў до́стак на пол, ды мно́га асталося. *Ліс.*

ДО′ЎНІШНЯЕ (до́ўнішняе) *прым.* Старое, былое. Вы, віда́ць, хо́чаце ве́даць до́ўнішняе, бо ўсю́ды хо́дзіце і ўсё распы́тваеце. *Р. Ч.*

ДО′ЎНЯ-РАЗДО′ЎНЯ (до́ўня-раздо́ўня) *прысл.* Даўным-даўно. Ба́ба до́ўня-раздо́ўня пра́ла та́льку. *Р. П.*

ДРА́БА (дра́ба) *жан.* Кляча. Хіба ж на мыла здаць дра́бу гэ́ту. *Нар.*

ДРА́НКІ (дра́нкі) *толькі мн.* Бліны з таркаванай бульбы. Хазяйка этай картошкі надра́ла і пячэ́ць бліно́ў, дра́нкі, а тады́ нальле́ць сьмята́ны, е́сьця. Уку́сна. *Мік.*

ДРА́НКІ (дра́нкі) *толькі мн.* Коўдра. Быва́ла, дзе́тачка, і дра́нкам былі́ ра́ды, бо пад і́мі це́пла спаць, цяпе́р на іх на́ват не глядзя́ць, усе ма́юць адзія́лы. *Р. Ч.*

ДРАНЬ (дрань) *жан.* 1. Галінкі, расшчэпленыя на дзве палавіны. Трэ́ба мне надра́ць дра́ні на ко́шык. *Гіл.* 2. Дранка. Яе ха́та пакры́та дра́ньню. *Р. Ч.*

ДРА́ЧКА (дра́чка) *жан.* Тарка. Дзе гэ́та на́ша дра́чка? Трэ́ба бу́льму драць, яе няма́. *Ліс.*

ДРУЖЫ́НА (дружы́на) *жан.* Родныя маладых. Дружы́ны мно́га прые́хала: і ма́ці, і ба́цька, і це́тка, а ха́тка мала́, а разьмясьці́ць усіх на́да. *Р. Ч.*

ДРУ́КІ (дру́кі) *толькі мн.* Прыстасаванне для сушкі сена. Там каля то́ку стая́ць высо́кія сасно́выя дру́кі, ба́чыце? *Пільк.*

ДРЫ́ЖНІК (дры́жнік) *мужч. Гл.* дзяйнік. Ну як жа ты глады́ш разьбіла? Вы́нясі яго́ на дры́жнік. *Нав.*

ДРЫ́НДА (дры́нда) *жан.* Тоўсты сагнуты дрот, на які́м катаюцца зімой дзеці. Калі́ са́нак няма́, дык дзе́ці дры́нды ро́бяць ды ката́юцца. *Борк.*

ДРЫ́НКАЦЬ (дры́нкаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Брынчаць. Ат, дры́нкае не́шта, як ні сваі́мі рука́мі. *Ліс.*

ДРЫ́НЬКА (дры́нька) *жан.* Пуня. Да зімы́ лю́дзі гато́вы: по́ўныя дры́нькі се́на і сало́мы назапаса́лі. *Борк.*

ДРЭ́НЧЫЦЦА (дрэ́ньчыцца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Капрызіць. Такі́ пал падня́ўся ў мало́га, усю но́чаньку дрэ́ньчыўся, чуць ра́ніцы дажда́ліся. *Заб.*

ДУБАЛЬТО́ЎКА (дубальто́ўка) *жан.* Вялікая суконная хустка фабрычнага вырабу. Каб дубальто́ўку ўзяла́, то і ў пле́чы цяпле́й было́ п. *Н. Д.*

ДУЖАВА'ТЫ (дужава́ты) *прым.* Вялікі. Яны́ ўжо былі дужава́тыя хло́пцы, але яшчэ́ нічо́га не панімáлі. *Ліс.*

ДУЖЭ'Й (дужэ́й) *прысл.*, вышэйш. ступень ад дужа. Горай. З вульля́ вы́ліцелі пчо́лы, як нaкі́нуліся на міне́, ста́лі жа́ліць. Я ськінуў ма́йку, нача́ў ей маха́ць, но пчо́лы разазьліліся йшчэ дужэ́й. От быў мне сма́шны мёд, чуць ні памёр. *Белар.*

ДУ'ЛЯ (ду́ля) *жан.* Від грушавага дрэва. Пра́ма пад акно́м расла́ ду́ля, ох гру́шкі былі́ — сма́чныя, сма́чныя. *Узгур.*

ДУ'НДЗІЦЬ (ду́ндзіць) *незак. тр.* Ссаць. Ён, як бычо́к наш, усё ду́ньдзя і ду́ньдзя. *Гар.*

ДУНДУ'К (дунду́к) *мужч.*, *неадабр.* Хмуры, невясёлы чалавек. Чаму́ ты заўсёды хо́дзіш такі дунду́к? *Р. Ч.*

ДУПЛЯ'НКА (дупля́нка) *жан.* Разнавіднасць вулея. С трына́ццаці гадо́ў займа́юся з гэ́тымі пчо́ламі, за свой век ба́чыў ро́зныя ву́льлі. І дупля́нкі ў мяне́ былі́, але цяпе́р дупля́нак няма́. У дупля́нках яны там сабе́ хазеява́, до́бра пчо́лкам у дупля́нках. *Белар.*

ДЫГА'ТЫ (дыга́ты) *прым.* Цыбаты. От пяту́х дыга́ты ў На́сьці. *Нар.*

ДЫ'ГАЦЬ (ды́гаць) *незак. тр.* Моцна біцца (аб сэрцы). Як тро́хі параблю́, так і ды́гае сэ́рца, так і ды́гае. *Бр.*

ДЫ'ГУСЬ (ды́гусь) *прым.* Вялікі. Ну і ды́гусь твой сыно́чак. Яшчэ́ пятна́ццаці няма́, а за ба́цьку вышэ́йшы. *Граб.*

ДЫМАКУ'Р (дымаку́р) *мужч.* Дымар. Я шчэ малы́ быў, але, по́мню, ве́льмі любіў мёд. А тады́ мёд быў ого які сма́чны, бо ўво́лю яго́ не было́. Я, по́мню, узяў дымаку́р, налажы́ў шчэ́пак і парашы́ў сам даста́ць мёду з вульля́. *Белар.*

ДЭ'РБЫ (дэ́рбы) *адз.* дэрба. Рэбры. Вы́сахла, адны́ дэ́рбы тарча́ць, як мо́жна, і куды́ ма́тка глядзе́ла. *Рашч.*

## Е, Ё

ЕКАТА'ЦЬ (екатáць), -у, -аш; *незак. тр.* Гаварыць. За сцянóй нéхта глýха екатáў: камýсьці пагражáў, другíх угавóрваў. *Узгур.*

Е'СТАНЬКІ (éстанькі) *памянш.* ад есці. Е'станькі хацéла, жыць хацéла, ні бáцькі ні мáцяры ні былó, хáта згарэ́ла, вярнýцца ні былó кудьі, гóра застáвіла, рóзуму дадалó. Ні с кім ні рáдзячыся самá самýю ўладкóўвала ў жы́зьні. *Паг.*

Е'СТЫ (éсты) *займ.* Гэты. Я ўсё падрáт круцíла з éстага бóку, а палóсы застаюцца на экрáне. *Чыж.*

Ё'СІКА (ёсіка) *дзеясл.* Ёсць. Такí нож і ў мянé ёсіка, бáцька з гóраду прывёс. *Мац.*

Ё'МКА (ёмка) *прысл.* Добра, хораша, трапна. Мне спадабáўся той хлóпец. Так ёмка ямý аткáзваў, што тамý й пярэ́чыць не былó як. *Р. Ч.*

## Ж

ЖАБЕ'НІЦЦА (жабéніцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Раздумваць. Нáдта ты спакóйны, мнóга яшчэ́ складáць што ў чамадáн трэ́ба, а ты жабéнісься: аднó гавóрыш, то зусíм íншае. Зьбірáйся скарэ́й і пайдзём. *Граб.*

ЖАКЕ'Т (жакéт) *мужч.* Пінжак. А гэ́ты во жакéт мой Кóля аддáў бáцьку, яму шчэ дóбра бýдзе каля хáты насíць. *Р. Ч.*

ЖА'ЛАВАЦЬ (жáлаваць), -ую, -еш; *незак. тр.* Шкадаваць. Нямá за што жáлаваць яе, зарабíла дóбра, і не бéдная самá. *Неж.*

ЖАЛЯ'ЗКА (жаля́ска) *ніяк.* Лязо ў гэбліку. Сáшкова жаля́ска зусíм ступíлася, нямá чым дóскі габлявáць. *Кам.*

ЖАНА'ЦІК (жанáцік) *мужч.* Жанаты мужчына. Усхадзíўся наш жанáцік, ні аднóй вечарьі́нкі ні прапýсьціць. *Ліс.*

ЖАЎНА' (жаўна́) *жан.* Дзяцел. Галава́ ў жаўны́ дужава́тая. *Кам.*

ЖА'РНУЦЦА (жа́рнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Стукнуцца. З разьбе́гу так жа́рнуўся, аж увачч́ў пацямне́ла. *Узгур.*

ЖА'РНУЦЬ (жа́рнуць), -у, -еш; *зак. тр.* 1. Моцна ўдарыць. А ён як жа́рнуў мяне́ па галаве́, дык аж у вача́х пацямне́ла. *Кухц.* 2. Стукнуць. Як жа́рня ў акно́, дык шы́бы і паляце́лі. *Кам.*

ЖА'ТКА (жа́тка) *жан.* Жняярка. Перш у нас жы́та жа́лі ўручну́ю, пасьля паявілася жа́тка, а цяпе́р і зусім до́бра — канба́йн і сажне́ й змало́ця. *Бяс.*

ЖА'ХАЦЬ (жа́хаць) *незак. тр.* Грымець. Няда́ўначка як жа́хнуў гром, дык адра́зу двух жараб́ятак забі́ў. *Р. Ч.*

ЖА'ХНУЦЬ (жа́хнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Моцна ўдарыць. Як жа́хнула яна́ мне па руцэ́, чуць рука́ не атвалілася. *Чар.*

ЖБАНО'К (жбано́к) *мужч.* Збанок. Га́ля, пада́й другі́ жбано́к, а то ў гэ́ты малако́ ўжо ні ўла́зіць. *Бяс.*

ЖНІ'ЎНІК (жні́ўнік) *мужч.* Ржэўнік. Ты, уну́чак, за́рас сьпі, а калі со́нца высо́кае пады́мецца, тады́ ты і пры́дзеш, на жні́ўнік каро́ў паго́нім. *Р. П.*

ЖНЯЯ'Р (жняя́р) *мужч.* Механізатар, які абслугоўвае жняярку. Быва́ла, по́йдзім жаць, жняяры́ малы́я снапкі́ кіда́юць, а як разазьля́цца, дык кіда́лі мно́га сало́мы. А нам гэ́тыя ку́чы трэ́ба было́ і зьвяза́ць, і паста́віць, і знасі́ць. *Бяс.*

ЖО'ЛАБ (жо́лап) *мужч. Дук. Жыр. Цял.* Прыстасаванне ў выглядзе скрынкі, куды кладуць сена карове. Цялу́шка вы́расла, і ёй жо́лап вялі́кі трэ́ба зрабі́ць. *Кам.*

ЖЫВУ'ТКІ (жыву́ткі) *прым.* Жывы. Нічо́га, нічо́га, жыву́ткі бу́дзеш, яшчэ́ і ў акаме́дзію (акадэмію) вучы́цца пае́дзеш. *Св.*

ЖЫ'ГАЎКА (жы́гаўка) *жан.* Крапіва. У ле́се зале́зьлі ў жыгаўке́, усе но́гі паапяка́лі. *Узгур.*

ЖЫ'ДКІ (жы́ткі) *прым.* 1. Гнуткі. О, гэ́ты дубе́ц жы́ткі, мне такі́ і патрэ́бны. *Луц.* 2. Слабы. Ён жа зусі́м яшчэ жы́ткі, глядзі́, як хіста́ецца пад ме́хам. *Луц.*

ЖЫ'ПСКА (жы́пска) *жан.* Суп з мясам. Зда́ецца, каб жы́пскі пад'е́сьці, а то ўсё сухо́е ядзі́м. *Бяс.*

ЖЫ'ЗНЯ (жы́зьня) *жан.* Жыццё. Цяпе́р така́я харо́шая жы́зьня. *Кам.*

ЖЫКУ'ЧКА (жыку́чка) *жан.* Крапіва з дробным лісцем. Ру́кі мае́ гара́ць агнём, гра́ды пало́ла, дык жыку́чкай абжы́кала. *Р. Ч.*

ЖЫ'ЛА (жы́ла) *агульн., неадабр.* Скупы. Ну і жы́ла, сваймý ро́днаму пашкаду́е, а ўсё ў кладо́ўцы зава́лена ро́зным дабро́м. *Граб.*

ЖЫ'ЛЛЕ (жы́льля) *толькі мн.* Жылы. Так мо́жна і жы́льля падарва́ць. *Чар.*

ЖЭ'МКА (жэ́мка) *жан.* Тэмпература. Вой, якая жэ́мка высо́кая ў дзіця́ці, і дахтары́ хо́дзюць, усё ро́ўна нічо́га не памага́е. *Бяс.*

## З

ЗАВАЛІ'ЦЬ (заваліць), -ю, іш; *зак. тр.* Закрыць (дзверы). Патрэ́бна заваліць істо́пку, бо но́чы цёмныя, мо́гуць жу́лікі забра́цца. *Узгур.*

ЗАВА'ЛЬНАЯ (зава́льная) *прым.* Старая, трухлявая. Е'йна ха́тка стаі́ць така́я зава́льная. *Р. Ч.*

ЗА'ВІДКІ (за́віткі) *толькі мн.* Зайздрасць. За́віткі с сярэ́дзіны чалаве́ка з'ядаюць. *Буз.*

ЗАВА'ДЛІВЫ (заві́длівы) *прым.* Зайздросны. На́ш сусе́т на́тта ш зава́длівы. *Клет.*

ЗАВІ'ДНІК (заві́днік) *мужч.* Зайздросны чалавек. Заві́днік гэты заві́дуе ўсямý чужо́му, а ка́п сваё нажы́ць, дык ляну́ецца. *Бяс.*

ЗАВІХА'ЦЦА (завіха́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Спяша́цца працава́ць. А ні я завіха́ўся, а ні я бу́ду завіха́цца. *Хал.*

ЗАГАНУ'ЦЬ (загану́ць), -н-у, -н-еш; *зак. тр.* Загадаць. Я вам магу́ загану́ць зага́тку, дак і ня ве́даеце што. *Так.*

ЗАГАРНУ'ЦЬ (загарну́ць), -у, -еш; *зак. тр.* Завязаць. Дай я табе́ ху́стачку загарну́. *Кам.*

ЗАГРАЗНІ'ЦЬ (загразьні́ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Забрудзіць. Бывала ш, як по́йдзем танцава́ць, дык хло́пец во́зьмя ў ру́ку плато́чак, і ру́ку, што на сьпіне́, абгарне́ плато́чкам ды так і танцу́я, кап пла́цьця ні загразьні́ць. *Бяс.*

ЗАГРАХАТА'ЦЬ (заграхата́ць) -у, -аш; *зак. тр.* Загрукаць. Не́хта мо́цна заграхата́ў на падло́зе: шум, скры́пнулі палаві́цы. *Узгур.*

ЗАГУБІ'ЦЬ (загубі́ць), -л-ю, -іш; *зак. тр.* Згубіць. Загубі́ла сшы́так, ня ве́даю, дзе і шука́ць. *Крок.*

ЗАГУ'СЛА (загу́сла) *прысл.* Згусцела. Кру́пнік зусім загу́с, няма як е́сці. *Узгур.*

ЗАДЛЯКА'ЦЦА (задляка́цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Загаварыцца. Ой, кап ты згарэ́ла, задляка́лася я з ва́мі, а сьвіня́ ўлезла ў агаро́т. *Цял.*

ЗАДО'ЎЖЫЦЦА (задо́ўжыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Затрымацца. Трэ́ба было́ лячы́цца, а я задо́ўжылася. *Кам.*

ЗАДРЫМА'ЦЬ (задрыма́ць), -л-ю, -л-еш; *зак. тр.* Задрамаць. Здае́цца, ледзь задрыма́ў, а ўжо і падніма́цца пара́. *Узгур.*

ЗАДУША'ЦЦА (задуша́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Задыхацца. Так сэ́рца балі́ць, што як ідзе́ш, аш задуша́ешся. *Кам.*

ЗАДУ'ЦЬ (заду́ць), -ю, -еш; Затушыць. Заду́й аго́нь, се́на ж блі́ска, загарэ́цца мо́жа. *Узгур.*

ЗАДЗЁ'РА (задзёра) *агульн.* Задзіра. Ну і задзёра ж Іва́наў сын: ко́лькі ні прасі́лі, каб ні чапа́ў яну́шкаўскіх хло́пцаў, дык не, ні вы́дзяржаў і пале́с у дра́ку. *Бяс.*

ЗАЕ'СЦА (зае́сца), -м-ся, -і-ся; *зак. тр.* Раззлавацца. Ну чаго́ зае́ўса так? Зьбіра́йся барджэ́й ды пае́дзем, Пятро. *Кузьм.*

ЗАЖА'ЛІЦЬ (зажáліць) *зак. тр.* Насадзíць джалаў. Я кінуў дымакýр і наўцёкі, а пчóлы за мнóй! Ляцéлі за мной і жáлілі, зажáлілі мянé ўсягó. Я пайшóў ік мáмцы, іна мне павыцягáла жáлы. *Бяс.*

ЗАЗУ'БІЦЦА (зазýбіцца) прарасці. Ужо жы́та даўнó зазýбілася. *Р. П.*

ЗАІКА'ТЫ (заікáты) *прым.* Заіка. У нас два брáты ёсьць заікáтых, дык так цяшка іх слýхаць. *Папл.*

ЗАІКЛІВЫ (заіклівы) *прым. Гл.* заікаты. Ну й заіклівы, слова ня скажа! *Кальч.*

ЗАЙСЦІ'СЯ (зайсьцíся), ду-ся, -сь-ся; *зак. тр.* Зайсці. Ты паглядзí, Раíначка, якáя цяпéр жысь пáнская. Як зóйдзісься да любóга ў хáту, як у пакóі пáнскія. *Пал.*

ЗАЙСЦІ'СЯ АД ГОРА (зайсьцíся ад гора). Многа пераж‌ыць. Бацькí зайшлíся ад гора, не вéдалі, што ім рабíць. *Мядз.*

ЗАКАНДЫ'БАЦЦА (заканды́бацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Унадзіцца. Закандыбалася лісá да нáшых хутарáн. *Бар.*

ЗАКЛО'КАЦЬ (заклóкаць) *зак. тр.* Заквактаць. Заклóкала кýра, трэ́ба пасадзíць, а то ня бýдзе цыпляня́так. *Р. Ч.*

ЗАКРА'ДКА (закрáтка) *жан.* Паліца. Мо ты, дзет, закрáткі папрыбівáяш? *Кам.*

ЗАКУ'ТАЦЬ (закутаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Зачыніць. Дзіця́тка, закýтай дзьвéры. *Кам.*

ЗАЛАВІ'ЦЬ (залавíць), -ул-ю, -іш; *зак. тр.* Злавіць. Ішлá я с пóля, а мянé ў дарóзі дошч залавíў і вы́мачыў усю́. *Кам.*

ЗАЛАТО'ЎКА (залатóўка) *жан.* Манета ў 15 капеек. Я сёньня знайшла залатóўку. *Кук.*

ЗАЛЯЙЦА'ЦЬ (заляйцáць), -аю, -еш; *зак. тр.* Запрэгчы. Што ш ты за хлóпец, што ня мóжаш каня́ заляйцáць. *Гіл.*

ЗАМАЦАВА'ЦЦА (замацавáцца), -ю-ся, -еш-ся; *зак.*

*тр.* Добра ўладкавацца. Калі ёсьць у начальстві свая рука, то ў горадзі можна замацавацца. *Кам.*

ЗАМАНУ'ЦЦА (заманўцца) *зак. тр.* Захацецца. Заманўлася, дый пашла ў горат, кап купіць чаго-нёбудзь на сукёнку. *В. В.*

ЗАМЭ'НЧЫЦЬ (замэнчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Замучыць. Прыехалі нёмцы і сагналі ў склеп. Некаторых адразу замэнчылі, а мяне адзін вельмі моцна біў такой рызінкай з булдой. Лёдзьве вытрывала. *Бяс.*

ЗАМКА'ЦЦА (замкацца) *незак. тр.* Замыкацца. Замкайся і больш мы цібе ні тронем. *Кам.*

ЗАПІНА'ЛКА (запіналка) *жан.* Занавеска. Койка сястры за запіналкай стаіць, а я тут сплю. *Кл.*

ЗАПЛЯНТА'ЖЫЦЬ (заплянтажыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Затаптаць, забрудзіць. Так заплянтажылі падлогу, як была вечарынка, што чуць дамылася. *Уж.*

ЗАПО'ВІНЫ (заповіны) *толькі мн.* Заручыны. Учора ў нашай Марылі заповіны былі, замуш дзёўка пойдзе. *Р. Ч.*

ЗАПО'РЦІЦЦА (запорціцца), -ч-у-ся, -ці-ш-ся; *зак. тр.* Захварэць. Нядаўна мая карова запорцілася, думала здохне, а яна выжыла. *Р. Ч.*

ЗАПЭ'НДЗАНЫ (запэндзаны) *дзеепрым.* Недагледжаны. Для таго ж запэндзаны хлопяц — ледзь ногі цягне. *Алях.*

ЗАРО'БІЦЬ (заробіць), -ю, -іш; *зак. тр.* Зарабіць. Сёлета на палявых ён зарабіў шмат. У нас плацяць добра не толькі штатніку. *Меж.*

ЗА'САЎКА (засаўка) *жан.* Месца ў плоце, праз якое можна пралезці ў агарод. Во праз засаўку лесь. *Кал.*

ЗАСЛО'Н (заслон) *мужч.* Услон. Уперат у хатах стаялі заслоны, а ціпёрака ва ўсіх стулы ёсьцяка. *Кам.*

ЗАСМУГО'ЛІЦЬ (засмуголіць), -ю, -іш; *зак. тр.* Забрудзіць. Вот ужо засмуголіў касьцюм, што і ні адмыць ніяк. *Бяс.*

ЗАСО'ВАЛКА (засо́валка) *жан.* Зашчапка. Гэ́та вакно́ не закрыва́ецца, засо́валка сапсава́лася. *Кук.*

ЗАСТАЛА'ЧЫЦЦА (застала́чыцца), -ус-я, -ыш-ся; *зак. тр.* Забегацца. За гэ́тымі каро́вамі застала́чылася, аш но́гі забале́лі. *Кам.*

ЗАСТАЛУ'ЧЫЦЬ (засталу́чыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Засланіць. Атхініся, ні засталу́чуй сьвет. *Кам.*

ЗА'СТУВАЦЬ (застуваць), -ю, -еш; *зак. тр.* Засланяць святло. Ні за́ступі, а то я ні магу́ нітку ўцягну́ць у іго́лку. *Цял.*

ЗАСТЫ'ЛІЦА (засты́ліца) *жан.* Халоднае. Мой, быва́ла, заб'е сьвіньню́ пат каля́ды. Пато́м нава́рым засты́ліцы з нох сьвіны́х, галавы́ і ядзім з бульбай. *Р. Ч.*

ЗАСУ'НУЦЬ СЕ'НЦЫ. Заперці. Не буць, Ва́ня, до́ўга, бо засу́ну дзьве́ры. *Кам.*

ЗАСУКА'ЦЬ (засука́ць), -ч-у, -ч-аш; *зак. тр.* Закасаць. Засука́й мне руба́шку, ды крэ́пка, каб не атсука́лася. Буду́ ру́кі мыць. *Ліс.*

ЗАСЦІЛА'НКА (засьці́ланка) *жан.* Самаробны палавік. Ма́ці на́ша ўме́е ткаць засьцíла́нкі. *Мац.*

ЗАТО'ХНУЦЦА (зато́хнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Задыхнуцца. Праве́тры ха́ту, а то зато́хнуцца мо́жна. *Ліс.*

ЗА'ТЫЧАК (за́тычак) *мужч.* Запечак. Як узьле́зеш на за́тычак, то там і це́пла, і до́бра, так і цэ́лы дзень там прася́дзіш. *Р. Ч.*

ЗАЎСЮ'ДЫ (заўсю́ды) *прысл.* Заўсёды. Ні ве́даю чаму́, але́ ён заўсю́ды такі невясе́лы быў. *Нар.*

ЗАЎСЯГДА' (заўс'агда́) *прысл.* Заўсёды. Ну і непасе́да, заўсягда́ не́куды бяжы́ць. *Граб.*

ЗАЎЧЭ'СНЕ (заўчэ́сьня) *прысл.* Загадзя, своечасова. До́бра, што пасе́ялі заўчэ́сьня жы́та, а то ціпе́р і ча́су німа́. *В. В.*

ЗАШЫ'ЦЦА (зашы́цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Не справіцца з работай. Рабо́ты было́ шмат і яна́ зашы́лася зь ёй. *Кам.*

ЗАЧЫ'НАК (зачы́нак) *мужч.* Пяколак. Стань на стул, зь яго ўзьлесь на зачынак, а тады́ і на печ. *Чар.*

ЗАЯ'ДА (зая́да) *жан., неадабр.* Сварлівы, заядлівы. Як шчэ́пяцца, то ні разьве́сьці — аба́я ла́дныя зая́ды. *Ліс.*

ЗБЛАЖА'ЦЬ (зблажа́ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пахудзець. І чаго́ гэ́та ты так зблажа́ла, як пугаўё станчэ́ла: мо́жа хво́рая, ці з ім, му́жам, дачу́шка, нява́жна жыве́цца? *Узгур.*

ЗБОЖ'Е (збож'е) *зборн.* Збожжа. Мы ш пасьля́ вайны́ збо́ж'я ні палуча́лі. *Кам.*

ЗБАГАЦЕ'ЦЬ (збагаце́ць), -ею, -еш; *зак. тр.* Разбагацець. Гэ́ны ўжо як збагаце́ў, дык на лю́дзі і во́чы не ка́жа. *Гіл.*

ЗБА'ЯЦЬ (зба́яць), -ю, -еш; *зак. тр.* Расказаць казку, байку. Ба́бушка, збай ба́сьню, а не дык ка́зку. *Хож.*

ЗБІЦЬ (зьбіць), -ю, -еш; *зак. тр.* Зваляць. Саб'юць валёнкі до́бра ў сусе́дзяў, у нас не так палуча́ецца. *Гіл.*

ЗБРЫСЦІ' (збрысьці́), -д-у, -дз-еш; *зак. тр.* Сыйсці. Ве́шаім мы на ко́няй бляша́нкі ат кансе́рваў, каб яны не збрыда́лі, а то ў нас ко́ні брыду́чыя. Як збрыдзе́ куды́, дык не найсьці́, паку́ль сам не пры́дзя. Адзі́н рас як збрыў у нас конь, дык цэ́лую нядзе́лю не было́. *Белар.*

ЗБЭ'РСАЦЬ (збэ́рсаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Звязаць. Ці ско́ра ты гэ́тыя наскі збэ́рсаеш? *Кам.*

ЗВЕ'ДАЦЬ (зьве́даць), -ю, -еш; *незак. тр.* Ведаць. До́бра ці́пер жыву́ць, мно́га чаго́ ма́юць, дык вось яна не зьве́дае, што надзява́ць. *Р. Ч.*

ЗВЕКАВА'ЦЬ (зьвекава́ць), -ю,- еш; *зак. тр.* Пражыць жыццё. Мая ма́ма зьвекава́ла, а ў бальні́цы не была́. Што за чалаве́к: зьвекава́ў, а ро́зуму не набра́ўся. *Н. К.*

ЗВЕ'РГНУЦЬ (зьве́ргнуць) *зак. тр.* (аб жывёле). Нарадзіць раней тэрміну. Ле́тась на́ша каро́ва зьве́ргла. *Цял.*

ЗВУЧЫ'ЦЦА (звучы́цца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Пры-

вучыцца. Звучылася ты, дзе́ўка, на ба́цькавай шыі сядзе́ць. *Ліс.*

ЗВЯРЦА'ДЛА (зьвярца́дла) *ніяк.* Люстэрка. Паглядзіся ў зьвярца́дла, пе́кная, нічо́га і́ншага не ска́жаш. *Вішн.*

ЗВЯТА'ВАЦЬ (зьвята́ваць), -у-ю, -у-еш; *зак. тр.* Разлічыцца, аддаць доўг. Зьвяту́й сусецці і больш не бяры. *Св.*

ЗГАЛЕ'ЦЬ (згале́ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Выглядаць нядобра апранутым. Без ма́ці зусім згале́лі дзе́ці: усё ў рва́ні, мурза́тыя і гало́дныя. *Меж.*

ЗГАМБАВА'ЦЬ (згамбава́ць), -ую, -еш; *зак. тр.* Зганьбіць. Такі́я я́блыкі згамбава́ў, а яны ж румя́неньківя, сьве́цяцца ўсе́. Ле́пшых не зно́йдзе. *Граб.*

ЗГАНДЛЯВА'ЦЬ (згандлява́ць), -ю-ю, -ю-еш; *зак. тр.* Купіць. Згандлява́ў мне ба́цька бярве́ньне на дом, а калі́ пачалі́ будава́ць дом, дык бярве́ньне аказа́лася трухля́вым. *Гіл.*

ЗГАРУ'СЦІЦЬ (згару́сьціць), -у, -іш; *зак. тр.* Выціснуць, пусціць. Цяпе́р і малада́я на вясе́лі ніво́днай сьлязінкі ні згару́сьціць — сьмяе́цца, на маладо́га ды на камо́рку пагля́дае. *Суд.*

ЗГО'МТАЦЬ (зго́мтаць), -аю, -еш; *зак. тр.* Прыбіраць (неакуратна). Пакі́даў усё, зго́мтаў у адну́ ку́чу. Ня́ма́ кап хоць раз зрабі́ў убо́рку як сьлет. *Граб.*

ЗГРУНТАВА'ЦЬ (згрунтава́ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Збудаваць. Вярну́ліся мы зь ле́су — дзярэ́ўні няма́, пагарэ́ла ўсё. Сын старэ́йшы с а́рміяй на́шай пашо́ў немца біць, а мы ж жо́нкай удваі́х згрунтава́лі зямля́нку й жылі, пака́ сын прышо́ў з вайны́. *Белар.*

ЗГРЭ'БСЦІ (згрэ́псьці), -у, -еш; *зак. тр.* Забраць. Не́мцы яго згрэ́блі і павялі́. *Сав.*

ЗДА'ЦЦА (зда́цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Вельмі стаміцца. Ён ужо саўсі́м здо́ўся, ляжы́ць і ні ўстае́. *В. Р.*

ЗДЭ'ЧНЫ (здэ́чны) *прым.* Тутэйшы. Яна ні здэ́чная, а с-пат Магіле́ва, а сюды́ за́муш вы́шла. *Кам.*

ЗЕ'БЛІЦЬ (зе́бліць), -ю, -іш; *незак. тр.* Зябліць. Пасьля́ ле́та зе́бляць жы́тнішча. *Р. В.*

ЗЕ'ЛЛЕ (зе́льля) *толькі адз.* Водарасці. Ране́й рэ́чка чы́стая была́, цяпе́рака ўся зарасла́ зе́льлям. *В. В.*

ЗЖА'ГЦІ (зжа́хці), -у, -еш; *зак. тр.* Спаліць. Не́мцы ўсю на́шу ве́ску зжа́глі. *В. В.*

ЗЛАДЗІ'НА (зладзі́на) *мужч.* Злодзей. Вось які зладзі́на е́ты чалаве́к быў, кап то́лькі ўле́сьці апкра́сьці чалаве́ка. *Р. Ч.*

ЗЛА'ПАЦЬ (зла́паць), -ю, -еш; *зак. тр.* Злавіць. Не́мцы яе ў на́шай ве́сцы і зла́палі. *Белар.*

ЗМАХНУ'ЦЬ (змахну́ць), -у, -еш; *зак. тр.* Салгаць. Ен сыча́с выма́іць блакно́т, запі́сываіць маё імя, фамі́лію. Я хацеў перш змахну́ць, запіса́ць Іва́н Пятро́віч Міха́йлаў і ідзі́ шука́й міне́, ды ду́маю, не, так дзе́ла ня по́йдзіць. Дазна́іцца, зна́іш, бу́дзіць у шку́ру. *Мік.*

ЗМЯНІ'ЦЦА (зьмяні́цца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Пераапрануцца. Мы парціза́нам е́сьці дава́лі і зьмяні́цца. *Кам.*

ЗНАЦЬ (знаць) *незак. тр.* Відаць. Бураке́ пасадзілі даўно́ і ратке́ знаць. *Кам.*

ЗНЕЎДАЛЕ'ЦЬ (зьнеўдале́ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Захварэць. У іх хло́пчык, маладзе́й ад майго́ на два гады́, знеўдале́ў і яго́ ў бальні́цу пакла́лі. *Мядз.*

ЗНІ'ЦЕЙКУ (зьні́цейку) *прысл.* Зняна́цку. Зьні́цейку наступі́ў на касу́ і парэ́заў нагу́. *Ліс.*

ЗРА'ЗАЧКУ (зра́зачку) *прысл.* Адразу. Не буць там до́ўга, ідзі зра́зачку дамо́ў. *Кам.*

ЗУБАСКА'ЛЬ (зубаска́ль) *мужч., неадабр.* Асоба, якая без прычыны смяецца. Ну і зубаска́ль ты бесталко́вы, памаўча́ў бы хоць, паку́ль старэ́йшыя гаво́раць. *Граб.*

ЗУ'НДАЛЬ (зу́ндаль) *мужч., неадабр.* Маўклівы чалавек. Што ў яго не пыта́ліся, гэты зу́ндаль ня вы́мавіў ні сло́ва. *Крок.*

ЗЫГАВА'ЦЬ (зыгава́ць) *незак. тр.* Гізаваць. Гады́ са два наза́т заступі́ў я цяля́т па́сьвіць. Хай іх хале́ра

во́зьме, гэ́та ўжо ні скаціна. Як пачне́ зыгава́ць, хвасты́ ўгару́ і хто куды́. Хай яны пы́лам по́йдуць с тако́й скаці́най. *Белар.*

ЗЫГУ'ТА (зыгу́та) *жан., лаянк.* Дзыбатая жанчына. Зыгу́та гэ́та то́лькі пла́ча, што ў яе няма́ дапамо́гі, але спраўля́ецца. *Ліс.*

ЗЫКАВА'ЦЬ (зыкава́ць) *незак. тр.* Гізаваць. Каро́вы як пачалі́ зыкава́ць, дык хоць ты плач. *Чар.*

ЗЯВА'ЦЬ (зява́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Пазяхаць цэлы дзень. Се́ньня не́шта зява́ецца, віда́ць, дождж по́йдзе. *Ліс.*

ЗЯЛЕ'ЗНІЦА (зяле́зьніца) *жан.* Жалезны грэбень з зубамі-цвікамі часаць лён. Ма́ці, быва́ла, по́сьля за́зімку, падрабі́ўшыся на хазя́йсьцьві, зды́міць з запе́чку по́сьцілку з лё́нам, уняcе́ць зяле́зьніцу і чэ́шыць. А тады й я памага́ць ста́ла. Але паку́ль наўчы́лась, дык усё ру́кі абдзіра́ла на цьвякі́ ў зяле́зьніцы. Лён густы́, во́зьміш па́сму, на руку́ накру́ціш, ды па зяле́зьніцы хвасто́м лёну́, а цьвякі́ во́стрыя, тарку́чыя — усе, быва́ла, ру́кі крыва́віла аб зяле́зьніцу. *Пап.*

ЗЯЛЕ'НУХА (зяле́нуха) *жан.* Недаспелыя ягады. Нае́ўся зяле́нухі і кача́ецца жыватом. *Ліс.*

ЗЯРО'ДЫ (зяро́ды) *толькі мн.* Азярод. Зяро́ды ў нас саўсі́м благія, здаецца, што вось-вось разва́ляцца, не будзе на чым се́на сушы́ць. *Р. П.*

ЗЯРО'Д (зяро́т) *мужч.* Азярод. Нясі бульбо́ўнік на зяро́д раскладзі́. *Чыж.*

# I

ІЗМЭ'НЧЫЦЬ (ізмэ́нчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Замучыць. Так яго ізмэ́нчылі не́мцы, ама́ль да са́май сьме́рці. *В. Р.*

ІМША'РЫНА (імша́рына) *жан.* Месца, дзе расце толькі арэшнік. У нас імша́рынай заву́ць ме́сца, дзе расьце́ адзі́н арэ́шнік. *Р. Ч.*

ІМШАРЭ'ЦЬ (імшарэ́ць) *незак. тр.* Шарэць. Ды гэта як імшарэ́я трэ́ба ісьці ў лес. *В. В.*

І'ННЫ (і́нны) *займ.* Іншы. І'нны рас я не магу́ рабіць. *Дук.*

ІСК (іск) *мужч.* Новы рой. Дзьве́ сям'і ня мо́гуць быць у ву́льлі, яны бо́руюцца — като́ра като́ру вы́гане. Тады́ ма́тка пакіда́е ву́лей, калі́ іск но́йдзе до́брае ме́сца. Абы́чна ў ле́се, на стары́м дзе́раве з дупло́м, лю́бяць гніль, запах. *Белар.*

І'ХІ (і́хі) *займ.* Іх. І'хі хло́пец ве́льмі до́бры. *Дук.*

ІСПО'ДНІК (іспо́днік) *мужч.* Жаночая кашуля з белага паркалю. Га́нна дык заў́се́ды іспо́днік з кару́нкамі шы́я. *Мац.*

# К

КАБЛУ'К (каблу́к) *мужч.* Вертыкальны абруч у кошыку, за які бяруцца рукамі. Адзі́н каблу́к ужо́ гато́вы. *Гіл.*

КАБЫ'ЛЫ (кабы́лы) *толькі мн.* Грыбы. Кабы́лы мо́жна атва́рваць і марынава́ць. *Ліс.*

КАБЫЛЯ'НЯЦ (кабыля́няц) *мужч.* Апендыцыт. Палажы́лі яго́ ў бальні́цу, зрабі́лі апера́цыю і вы́разалі кабыля́няц. *Кам.*

КАВЕ'НЯ (каве́ня) *жан.* Прылада для адграбання попелу ў печы. Была́ каве́ня, але не́як усу́нула ў са́мы жар, дык яна палаві́ну адгарэ́ла. Мужыка́ німа́, дык яшчэ́ й не зрабі́ла нова́е кавяні́шча. *Бяс.*

КАГАМЕ'Т (кагаме́т) *мужч.* Качалкі. Даўне́й узя́ў кагаме́т ды пакача́ў, што табе́ трэ́ба, а цяпе́рака ўжо́ уцю́х. *Р. Ч.*

КА'ДРАЛЬ (ка́драль) *жан.* Кадрыля. Бывáла, былі́ мы маладу́я, по́йдзім на віча́ры́нку альбо́ сва́дзьбу. Маладзё́ш танцу́іць ва́льсы, по́лькі, кракавя́к, ка́драль; адзе́ўшыся красі́ва, хто гуля́я, хто шпацыру́я... *Мік.*

КАДЗЁ' (кадзё́) *прысл.* Толькі што. Кадзё́ пяць ча-

соў было́, а ўжо сем! Дык калі́ ж гэ́та я пасьпе́ю ўсё зрабі́ць? *Лыс.*

КАДО'ЎБЕЦ (кадо́ўбец) *мужч.* Бочка. Га́ннaчка, бяры́ ваду́ ў тым кадо́ўпцы, што пад вакно́м стаі́ць. *Р. Ч.*

КО'ЖАН (ко́жан) *займ.* Кожны. Ко́жан рас по́зна дамо́ў прыхо́дзіць. *Р. Ч.*

КАЗА' (каза́) *жан.* 1. Мерка для вымярэння плошчы, у выглядзе́ лі́тары А (2 метры). Каза́ не́дзе пад паве́цьцю, вазьмі́ і по́йдзем ме́раць со́ткі. *Меж.* 2. Сагнуты дрот, на які́м дзеці катаюцца на лёдзе. Ката́ўся мо́й Ко́лька на казе́, звалі́ўся, дык уве́сь нос абадра́ў. *Кук.*

КАЗЁ'Л (казёл) *мужч.* Грыб масляк. Казло́ў мно́га, але́ не́шта чарві́выя. *В. В.*

КАЗЁ'НКА (казёнка) *жан.* Сяке́ра. Дай ты казёнку, твая́ ж во́страя, не стой, ба́чыш, час ідзе́. *Слаб.*

КАЗЯНЯ' (казяня́) *мужч.* Казляня. Казяня́ быў ужо вялі́кі, сам піў малако́. *Хал.*

КАЙРО'Т (кайро́т) *мужч.* Кола ў калаўроце. Я пра́ла, а ён, бе́днянькі, руку́ ў кайро́т усадзі́ў. Без рукі́ аста́ўся, яна ё, да не рабо́тае. *Р. Ч.*

КАЛАМУ'Т (каламу́т) *мужч.* Вір. У на́шуй рэ́цы нямно́га каламу́таў, але́ што ёсць, дак вялі́кія. *В. В.*

КАЛАТУ'ШКА (калату́шка) *жан.* Драўляная прылада, якой раскалочваюць муку. Я старо́му гавары́ла, каб зрабі́ў калату́шку, а то няма́ чым параcя́ці муку́ раскалаці́ць у гара́чай вадзе́. *Р. Ч.*

КАЛДО'БА (калдо́ба) *жан.* Выбоіна. Ну і калдо́ба зрабі́лася на даро́зе, ні прае́хаць. *Суд.*

КАЛЯЯ' (каляя́) *жан.* 1. Чыгунка. Філе́на як рабі́ла на каляі́ ў Маскве́, прысыла́ла Стэ́фца ні́так на пірабі́ранікі. Усяля́кіх прысыла́ла. *Фал.* 2. Чарга пасвіць кароў. Я'сік, ты ж глядзі́, за́ўтра на́ша каляя́ на па́сту. *Мац.*

КАЛІБЕ'ЛЬ (калібе́ль) *жан.* Дзіцячая калыска. Быва́ла, пало́жыш дзіця́ ў калібе́ль, а сам по́йдзеш на рабо́ту, яно цэ́лы дзень і праляжы́ць. *Р. Ч.*

КА′ЛІВА (ка́ліва) *прысл.* Крыху. Дай ты мне хоць ка́ліва арэ́хаў, а то сварьі́цца бу́дзем. *Хац.*

КАЛІ′ЎЕ (калі́ўе) *ніяк.* Бульбоўнік. Уво́сень дык жжа́лі і ссушы́лі на зі́му калі́ўе. *Хац.*

КАЛО′ДА (кало́да) *жан. Гл.* ядзерка. Кало́да, кало́да, што за́ўтра бу́дзе — дождж ці паго́да? *Уж.* Тоўстая непаваротлівая жанчына. Стаі́ць, як кало́да, хай бы памагла́ рабі́ць. *Цял.*

КАЛЫМА′ЖКА (калыма́шка) *жан.* Тачка. Уну́к мне дро́вы на калыма́шцы прыве́с. *Р. Ч.*

КАЛЫ′СКА-ПАЛАТНЯ′НКА (калыска) *жан.* Палатняная калыска накшталт заплечнай ношкі, у якой клалі дзіця. А як по́йдзем у по́ле, дык мало́я за пле́чы ў калы́ску-палатня́нку ды яду́ перад сабо́й, за тры кіламе́тры на ву́зенькую ні́ўку жаць да по́ту. *Пал.*

КАЛЫ′СКА (калы́ска) *жан.* Паглыбленне ў адным бервяне, у якое кладуцца іншыя, каб не раскачваліся пры перавозцы. Глядзі ж, Міко́ла, кап калы́ска была́ няме́лкая. *Чыж.*

КАЛЫХА′НКА (калыха́нка) *жан.* Гушкалка. Паве́сілі калыха́нку на дрэ́ва ды гушкаюцца. *Кам.*

КАЛЯВІ′НА (калявíна) *жан.* 1. Каляіна. Ты па гасьці́нцы едзь, а то на той даро́зе адны́ калявíны. *Заям.* 2. Мокрая сенажаць. Лён яны́ заўсе́ды ў калявíне сла́лі. *Заям.*

КАЛЯ′НКІ (каля́нкі) *адз.* калянка. Кавалачкі бульбы ў супе. Парася́ткі каля́нкі павыбіра́лі, а ю́шку кінулі. *Чыж.*

КАМЕ′ШНІК (каме́шнік) *мужч.* Куточак пры печы. Каме́шнік малы́ і цымя́ны, а ён усё туды́ ле́зе. *Хал.*

КАН (кан) *мужч.* Бітон. Я′ня, ты ні ві́дзяла, я ту́така кан на малако́ ішчо́ адзі́н ста́віла? Хто гэ́та сяго́дня дзяжу́рыць? Мо́жа ён ві́дзяў? *Яц.*

КАНТА′К (канта́к) *мужч.* Прылада для перакручвання калоды на месцы пры пагрузцы. Бяру́ць канта́к і падклада́юць яго́ пат кало́ду, тады́ і грузі́ць ляхчэ́й. *Гіл.*

КАНЧЫ′ЦЬ (канчы́ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Скончыць, закончыць. Я прыхо́джаю ро́біць, а ён ужо хлеў канчы́ў. *Чыж.*

КАПАНІ′ЦА (капані́ца) *жан.* Лапата. Ці мо́жаце вы даць мне на не́йкі час капані́цу сваю́, у мае́й ру́чка злама́лася, а зрабі́ць ру́чку няма́ каму́, час бяжы́ць, не вы́капаеш карто́плю, дажджо́м зальé. *Меж.*

КАПА′ННІК (капа́ньнік) *мужч.* Той, хто капае бульбу. Ко́лькі капа́ньнікаў бу́дзець звацьТэ́кля? Глядзі́, кап хапі́ла, бо наза́ўтра каня́ не даду́ць і карто́пля застане́цца. *Меж.*

КАПТУ′Р (капту́р) *мужч.* Частка печы над топкай. Капту́р зарудзе́ў, трэ́ба ў субо́ту пабялі́ць. *Чыж.*

КАРАГА′Ч (карага́ч) *мужч.* Ручнік. Мая́ ма́ма мне но́вы ружо́вы карага́ч купі́ла. Ба́чыш? *Ст.*

КАРАНІ′К (карані́к) *мужч.* Вулей. У нас то́лькі адзі́н карані́к стаі́ць, вунь пчо́лы зь яго ляця́ць. *Борк.*

КАРТО′ПЛЯ (карто́пля) *жан., зборн.* Бульба. Ці мно́га засталóся выбіра́ць карто́плі, марозэ́ ш напіра́юць. *Меж.*

КАРЧЫ′СТЫ (карчы́сты) *прым.* Кусцісты. Рэ́тка се́ялі бу́льбу і сьпе́е така́я карчы́стая. *Буз.*

КАСАВА′ЦЬ (касава́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Крэсліць. Пі́ша і сам касу́е, пі́ша і касу́е, а чаго́? *Буз.*

КАСМАВЕ′ШКА (касмаве́шка) *жан.* Галавешка. Да затушы́ касмаве́шку, дымі́ць жа. *Слаб.*

КАСЫ′НКА (касы́нка) *жан.* Кішэчны тлушч. Вунь ко́лькі касы́нкі надзе́рлі, дам і табе́. *Гіл.*

КАСЯ′К (кася́к) *мужч.* Касынка. Вунь які стро́йны кася́к павяза́ла. *Нар.*

КАЎГАНУ′ЦЬ (каўгану́ць), -у, -еш; *зак. тр.* Штурхануць. Ён мне як каўгану́ў у пле́чы, я так на плот і павалі́лася. *Ар.*

КАЎЗА′ЦЦА (каўза́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Слізгацца. Усе дзе́ці на перапы́нку вы́йшлі каўза́цца на лёт. *Хут.*

КА'ЎКА (ка́ўка) *жан.* Галка. На по́лі вясно́й заўсё-ды ка́ўкі мітуся́цца. *Бар.*

КАЎМЕ'Р (каўме́р) *мужч.* Каўнер. Каўме́р таксáма трэ́ба ўгада́ць прышы́ць. *Нав.*

КАЛЬБЕ'ЛЬ (кальбе́ль) *жан.* Калыска.Ране́й каль-бе́лі з кары́ рабілі, а ціпе́р купля́юць. *Кап.*

КАЛЯСНІЧО'К (калясьнічо́к) *мужч.* Няпоўны воз сена. У яго́ яшчэ́ застáўся калясьнічо́к се́на. *Р. Ч.*

КАЛЯШЫ'ЙНІК (каляшы́йнік) *мужч.* Шарф муж-чынскі, звязаны з суконных нітак. Завяжы́ каляшы́йнік, ма́ці так стара́лася для цябе́, ды і хо́ладна. *Мац.*

КАМАКІ' (камакі́) *толькі мн.* Бульбяная каша, пюрэ. Гаспада́р заўсёды мо́ўчкі есьць ці то камакі́, ці то квас, уся ро́ўна. *Кузьм.*

КАМО'РКА (каморка) *жан.* Кладоўка. Прынясі́ с ка-мо́ркі са́ла, ключ у кішэ́ні майго́ каптана́. *Р. Ч.*

КАМЫ' (камы́) *толькі мн.* Гарохавы суп. Еў камы́ і хвалі́ў, а я яшчэ́ ру́лі сма́чныя зрабіла. *Масц.*

КАМЯКІ' (камякі́) *толькі мн.* Бульбяная каша. У Чу-ры́лаві дык на ка́шу з карто́плі ка́жуць камякі́. *В. В.*

КАМІНА'Р (каміна́р). Чалавек, які чысціць коміны. Ну і зама́заўся ты, як каміна́р які́, то́лькі во́чы і блі-шча́ць. *Бяс.*

КАМЯНІ'ЦА (камяні́ца) *жан.* Куча каменняў. Мы адра́зу паедзем да той камяні́цы, што адра́зу за вёскаю. *Кам.*

КАНА'ФА (кана́фа) *жан.* Дыван. Кана́фа — гэ́та вя-лі́кая і шырачэ́зная карва́ць з дрэ́ва з высо́кай сьпі́нкай і пяры́ламі. На ёй мо́жна сядзе́ць і спаць, матра́с пала-жы́ўшы. *Акал.*

КАНДУ'Ш (канду́ш) *мужч.* Сяннік. Усе кандушы́ ў вугле́ скла́лі, по́тым разьбяру́цца. *Кузьм.*

КАНДЫБА'ЦЬ (кандыба́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Ісці павольна. Вунь стара́я Насту́ля кандыба́я па ву́ліцы. *Кам.*

КАНСЕ'РВЕННЫ (кансе́рвянны) *прым.* Кансервава-

ны. Назьбíралі чарвéй кансéрвяннную бáнку — і на рыбу. *Кам.*

КА'НТАР (кáнтар) *мужч.* Чэпчык. Ета ж гóрача было́, дык я кáнтар на галаву́ адзéну і сóнца не так пячэ́. *Р. Ч.*

КАПАНІ'ЦА (капанíца) *жан.* Жанчына, якая капае бульбу. Дзе ж гэта нáша капанíца? Мóжа да сястры́ пайшла́ капáць? *Суд.*

КАПЕРАЦІ'Ў (каперацíў) *мужч.* Магазін. У наш каперацíў прывязьлí шмат ху́стаў, плю́шавікаў, сачкóў. *Заб.*

КАПТУ'Р (капту́р) *мужч.* 1. Высокая прычоска з доўгіх валасоў. І што цяпéр за мóда! Зрóбіць капту́р на галавé, што бу́сел гняздó. *Уж.* 2. Дзіцячы галаўны ўбор. Надзéнь малóму капту́р. *Цяр.*

КАПЦО'ЎКА (капцóўка) *жан.* Ранняя бульба. Вазьмí, Варывóн, каня́: сёньня трэ' капцóўку паганя́ць. *Р. Ч.*

КАРАВА'ЦЬ (каравáць) *жан.* Ложак. Калí яму зрабілася дрэ́нна, то дзéці пяранéсьлі ягó на каравáць. *Р. В.*

КАРА'ВЫ (карáвы) *прым.* Брудны. Памы́йся, ні хадзí карáвы. *Цял.*

КАРАДНІ'К (караднíк) *муж.* *Гл.* каранік. А вунь, відзіш, караднікí с пшчóлкамі стая́ць. Калí ні бу́дзіш мянé слу́хаць, уну́чак, пшчóлка ўку́сіць цябé, янá ўсё чу́іць, што ты рóбіш. *Яц.*

КАРАНДА'Ш (карандáш) *мужч.* Малое дзіця. Не шуміце тут, карандашы́, а то з-за вас нічóга не чувáць у хáце. *Р. Ч.*

КАРАНІ'К (каранíк) *мужч.* Каранніk, разнавіднасць вулея. Я не змаглá п жыць у гóрадзе, там жа лю́ду, як пчол у каранікý, так шмат. *Хож.*

КАРАСІ'Н (карасíн) *мужч.* Газа. У крáмі ні было́ карасíну, дык мне прышлóся іcьцí ў сусéдняю вёску. *В. В.*

КАРА'ЧЫК (карáчык) *мужч.* Вялікі палец на назе. А маё ты дзіця́тка, дзе ш ты зьбíла карáчык? Ідзí, я дам табé трáпачку, прамы́й, а ў бутэ́ляццы ёт ё, зальём. *Р. Ч.*

КА'РКІ (ка́ркі) *толькі мн.* Павозка. Раней мо́ладзь весялей жыла́, сабяру́цца, пася́дуць на ка́ркі ды ў лес. *Бяс.*

КАРО'ВА БРА'ЖНАЯ *лаянк., перан.* Чаго́ ты лётаеш, як каро́ва бра́жная? Што я табе́ благо́га зрабіла? Ці я твой уча́стак запаха́ла? *Бяс.*

КАРО'НКІ (каро́нкі) *толькі мн.* Карункі. Апшы́ла я сабе́ ко́хту каро́нкамі. *Кук.*

КАРТА'К (карта́к) *мужч.* Мужчынская безрукаўка. Пашы́ла я сваймý Ляксáндру карта́к цёплы на зімý. *Кук.*

КАРТУ'ЛЬ (карту́ль) *мужч., лаянк.* Чалавек малога росту. А мой брат, като́ры на вайне́ загі́нуў, вот жа малы́ быў. Мы на яго́ так брахáлі: «Карту́ль, карту́ль». *Бяс.*

КАРЭ'МЫСЕЛ (карэ́мысял) *мужч.* Каромысла. Яна́ не́сла вадý на карэ́мысьле. *В. Р.*

КАЎБУ'Х (каўбу́х) *мужч.* 1. Свіны страўнік. Начыню́ каўбу́х мя́сам, а зімо́й усё за малі́нку по́йдзе. *Н. К.*; 2. *перан.* жывот. Іш ты яе, набіла каўбу́х, дык і не паве́рнеццца. *Н. Д.*

КАЎГА'РКА (каўга́рка) *жан.* Кружка. Прынясі́ мне каўга́рку, ды хуччэ́й, бо лю́дзі чака́юць, каб воды́ напіцца. *Р. Ч.*

КАЧА'НІК (кача́нік) *мужч.* Арэх. Хадзілі ў качаны́, дык цэ́лую то́рбу кача́нікаў прыне́сьлі, а ў адны́м ме́сцы было́ мно́га рассы́пана мінулаго́дніх кача́нікаў, відáць, вавёрчыны. *Граб.*

КАЧКЕ'Т (качке́т) *мужч.* Шапка. Уну́чак, чамý ш ты качке́т не надзе́ў, а то ву́шы адме́рзнуць. *Р. Ч.*

КА'ША З МАСЛЁ'НІКАМІ (ка́ша з масьлёнікамі). Бульбяная каша з канапляны́мі клёцкамі. Таўку́ць з бу́льбы ка́шу і сы́пяць гэ́тыя масьлёнікі ў ка́шу. Гэ́та і ёсь ка́ша з масьлёнікамі. *Рад.*

КАШЭ'ЛЬ (кашэ́ль) *мужч.* Кошык. Пайшла́ і насабіра́ла по́ўны кашэ́ль дзікіх ігру́ш. *В. Р.*

КВАСЬ (квась) *жан.* Квас. Цэлы збан квасі нарабіла, а за два дні і нямá. *Бяс.*

КВАРТО'ЎКА (квартóўка) *жан.* Паўлітровая бутэлька. Стаяць квартóўкі дзве на паліцы. *Р. Ч.*

КВАСО'ЛЬ (квасóль) *жан.* Фасоля. Квасóль выпалала, а гарóх так і астáўся. *Ліс.*

КВА'ШАНКА (квáшанка) *жан.* Кіслае малако. Бярыце, дзяўчáткі, квáшанку. Янá не вéльма шчэ кіслая. *Р. Ч.*

КВІТ (квіт) *мужч.* Квітанцыя. Лясьнічы аддáў маймý гаспадарý квіт на рýкі. *Гіл.*

КВО'ХАЦЬ (квóхаць) *незак. тр.* Квактаць. Кýрыца квóхала нéдзе за кустáмі. *Ліс.*

КЕ'МКІ (кéмкі) *прым.* Кемлівы. Кéмкая яна ў нас, дóўга гаварыць і ня трэба. *Хож.*

КІ'ДКА (кітка) *жан.* Вялікі ахапак сена. Дзяцька нóччу кідку прыцягнýў. *Кірк.*

КІДЭ'РМА (кідэрма) *жан.* Клін у адзенні. А ты пашый у кідэрмы андарáк, бýдзе выглядней. *Р. Ч.*

КІЁ'ЎКА (кіёўка) *жан.* Галоўкі чарота. Вунь каля бéрага ў вадзé кіёўкі растýць. *Мац.*

КІ'ЛБА (кілба) *жан.* Рыба пячкур. Нáшы рыбалóвы кілбы налавілі, нáват ванг'óр папáўся. *Бар.*

КІНДЗЮ'К (кіндзюк) *мужч.* Страўнік. У нас карóва дóбрая, малакá мнóга, дык я давáла малакó аннамý сасéду. Ён быў хвóры, палавíну кіндзюкá выразалі ямý, éсьці нічóга не мох. *Бяс.*

КІ'ПЯЦЕНЬ (кіпяцянь) *мужч.* Вар. Трэба ш ісьці мукý кіпятнямі запáрыць. *Кам.*

КІРМАШО'ВЫЯ (кірмашóвы) *прым.* Верхнія пярэднія зубы. Нáша бабýля ўсё хвáліцца, што ў яе кірмашóвыя зýбы захавáліся. *Хал.*

КІ'СНУЦЬ (кіснуць), -у, -еш; *незак. тр.* Смяяцца. Чагó ты кісьнеш бес прычыны? *Кам.*

КЛАЧА'НКА (клачáнка) *жан.* Коўдра, сшытая з двух саматканых посцілак. Хýценька кладзіся і накрывáйся клачáнкай. *Ган.*

КЛІНЫ′ (кліны́) *толькі мн.* Прарэх у штанах. Ужо такі ён чалавéк, вéчна з рашпілянымі клінáмі хóдзя. *Гар.*

КЛО′ПАЛКА (клóпалка) *жан.* Квактуха. Ранéй не былó чáсу глядзéць за клóпалкай, кінеш яе, дык палавіны кураня́т і нямá. *Р. Ч.*

КЛЫ′НДА (клы́нда) *жан.* Страва з ільнянога семя. Упéрат я любіла гэ́тую клы́нду, а ціпéр нéшто ні хóчацца яе éсьці. *Кук.*

КЛЫ′НДЫ (клы́нды) *толькі мн.* Ногі. Нахадзілася за дзень: і за канём схадзіць, і плушкá расстарáцца. Вéдама, без мушчы́ны жыву́. Клы́нды ледзь цягáю. Ля́жу ў пасьцéль — аж млéюць. *Р. П.*

КЛЫГУНІ′ХА (клыгуніха) *жан., неадабр.* Жанчына, якая ўсё стогне. Янá кóлькі жывé, стóлькі стóгне, клыгуніха гэ́та. *Бяс.*

КЛЫ′ШКА (клы́шка) *жан.* Замочак. У мянé янó й нічóга нямá ў ім, палатнá ё скру́тачак і паркáль бéленькі ляжы́ць, ды я й павéсіла клы́шку, а то дзéці вы́мажуць рукáмі, вядóма, са дварá. *Р. П.*

КЛЯНО′ЎНІК (клянóўнік) *мужч.* Участак лесу, дзе расце клён. На тым мéсцы упéрад рос непрахóдны клянóўнік, а зáраз вы́рубілі. *Гіл.*

КНА′ТКА (кнáтка) *жан.* Цэўка. Крóсны ткáла ўвесь дзень, а дзяцéй застаўля́ла кнáткі круціць. *Бяс.*

КО′ЛІЯ (кóлія) *жан. Гл.* калея. Учóра ў пóле ганя́ў карóў Савэ́рка, а сéньня прыйшлá кóлія мнé. Папрасіла я свайгó ўну́ка, каб адбы́ў кóлію, а самá пайшлá жаць траву́. *Кор.*

КО′НСКІ ВОЎК (кóнскі воўк). Вялікі сівы воўк ростам з жарабя. На ўзлéсьсі бáчыў кóнскага ваўкá. *Кам.*

КО′ЛЬКА (кóлька) *прысл.* Колькі. Кóлька я знахóдзіў такіх гнёздаў у лéсі. *Кам.*

КО′ПКА (кóпка) *жан.* Месца, дзе ставяць скавароды. Пайду́ трóха падбяру́ ў кóпцы, а то абы-чагó панастаўля́лі, што і скаварóд нямá дзе падзéць. *Бяс.*

КО'РПАЦЦА (ко́рпацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Рабіць павольна. Ко́рпаяцца цэ́лы дзень, а рабо́ты той ні віда́ць. *В. В.*

КОТ (кот) *мужч.* Вечарынка. Ве́чарам бу́дзям гуля́ць ката́. *В. В.*

КО'ЎЗАЦЦА (ко́ўзацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Варочацца. Я доўга ко́ўзалася ў пасьце́лі, по́куль засну́ла. *В. В.*

КО'ЎЗАНКІ (ко́ўзанкі) *толькі мн.* Катанне з ледзяной гары. То́лькі празьвіне́ў звано́к, як мы з усі́х нох пабе́глі на коўза́нкі. *Бяс.*

КО'ЎТУХ (ко́ўтух) *мужч.* Катух. Загані́, сыно́к, парсю́ка ў ко́ўтух. *Уж.*

КО'ТАНКА (ко́танка) *жан.* Расліна, якая скошваецца для сіласу. Папа́сьцілі тро́шкі цяля́т на кле́віры, а тады́ ўзаралі і пасе́ялі гаро́х на ко́шанку.

КРАКО'ВІК (крако́вік) *мужч.* Кракавяк. Я, як была малада́я, мазу́рку любі́ла танцава́ць, крако́віка ў чаты́ры па́ры хадзі́лі, кадры́лю танцава́ць. Мяне́ й цяпе́р, стару́ю, як яка́я гуля́нка, бяру́ць танцава́ць. *Бяс.*

КРА'ЛЯ (кра́ля) *жан., неадабр.* Ганарлівая дзяўчына, якая любіць ўпрыгожвацца. Паду́маеш, кра́ля така́я знайшла́ся: як пашы́та, так і зно́сіцца, а гэ́тыя хвальбо́ны і сама даро́біць. *Рудн.*

КРАМЯ'НЫ (крамя́ны) *прым.* Худы. І хто яе ве́дая, чаго яна така́я крамя́ная, і есьць до́бра, а ўсё ніччо́га. *В. В.*

КРАСЁ'ННАЕ (красё́ннае) *прым.* Вытканае на кроснах. У мяне́ ўжо́ усё красё́ннае зво́дзіцца, такса́ма бо́лей магазі́ннага. А я так прывы́кшы да красё́ннага. *Фал.*

КРА'СІЦЦА (кра́сіцца), -у-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Ужываць касметыку для твару. Уста́ласьці на яе́ няма́. Кра́сіцца, што аж бры́тка глядзе́ць. Усё ры́ла закры́та, як скары́нкаю. *Узгур.*

КРА'СКІ (кра́скі). Хатнія кветкі. Быва́ла, зо́йдзеш у ха́ту, а ў яе кра́скі ўсю́ды стая́ць. *Р. Ч.*

КРАСНЯ'К (красьня́к) *мужч.* Падасінавік. Се́лята

по́вен лес уся́кіх грыбо́ў: і лісі́чак, і ба́бачак, і кра́сьнякоў. *Кам.*

КРАСУ′ЛЯ (красу́ля) *жан.* Радуга. Як красу́ля на не́бе, ка́жуць, дошч тры дні бу́дзе. *Р. Ч.*

КРАХМАЛЁ′ЎКА (крахмалёўка) *жан.* Ва́дкая страва з малака, яек, крухмалу, тлушчу. Ніко́лі крахмалёўку ня е́ла? То сяда́й з на́мі. *Суц.*

КРУГЛЬ (кругль) *мужч.* Фундамент. Ста́ршы аддо́ў прыка́с і рабо́чыя ху́тка зрабілі кругль для гэ́тага до́ма. *Р. Ч.*

КРУГЛЯ′К (кругля́к) *мужч.* Трава з круглымі лістамі. Ні асака́, а кругля́к, то і со́хня до́бра. *Кам.*

КРУЦЕ′ЛКА (круце́лка) *жан.* Гарэзлівая дзяўчына. Ну і круце́лка ж у цябе́ дачка́: на месцы і міну́ты не ўсядзі́ць, то тут, то там, усё ска́ча. *Узгур.*

КРЫВУ′ЛІ (крыву́лі) *толькі мн.* Прычэп да воза, што выкарыстоўваецца пры перавозцы доўгіх бярвенняў. Як ні круці́, хло́пцы, а крыву́лі да во́за трэ́ба. *Чыж.*

КРЫВЫ′ (крывы́) *прым.* Зайздросны. Га́нна вельмі ж крыва́я, кап пры́ме́ла, дык усё п загрэ́бла сабе́. *В. В.*

КРЫ′ЗКІ (кры́скі). Махры. У міне́ яшчэ́ адна́ ху́стка засталá́ся с кры́скамі. *Кам.*

КРЫКСУ′Н (крыксу́н) *мужч.* Крыклівае дзіця. Ну і крыксу́н, у каго́ ён уда́ўся. *Чар.*

КРЫ′САЧКІ (кры́сачкі) *толькі мн.* Збо́рачкі. Я сваю суке́нку бу́ду шыць у кры́сачкі. *Р. Ч.*

КРЫЖЫ′ (крыжы́) *толькі мн.* Прылада для разматвання маткоў пражы. Уну́чак, пада́й мне крыжы́, буду разма́тваць пражу́. *Р. Ч.*

КРЭ′СКА (крэ́ска) *жан.* Рыска. Завязьлі́ мы гэ́нуую канюшы́ну на база́р у Даўгі́нава, прадалі́ і купі́лі мне пе́кную таку́ю ху́стку квя́тамі вялікімі чырво́нымі і крэ́сачкі чо́рныя. *Яз.*

КУБА′РКА (куба́рка) *жан.* Кубак з бляхі, з прыкручанай драцянай ручкай. Ле́пей вазьмі́ куба́рку і налі́ мне ў саго́н вадзі́цы, по́йдзім цялу́шачку паі́ць. *Яц.*

КУБА'РКА (куба́рка) *жан.* Коўш драўляны з кароткай ручкай. Калі́ ваду́ хо́чаш, то вазьмі̀ вунь куба́рку ды набяры́. *Калод.*

КУ'БЕЛ (ку́бел) *мужч.* Кацёл, чан. Наняла́ся бялі̀зну мыць. Чаты́ры ку́блы стая́лі: ле́тняя вада́, гара́чая вада́, хало́дная вада́, прахла́дная вада́,— э́та чаты́ры ку́блы з вадо́й. *Паг.*

КУБЁ'ЛАК (кубё́лак) *мужч.* Кубелец. Быва́ла, наробя́ ра́жак, кубё́лкаў, бо́як, узло́жа на плё́чы сабе́ штук дзе́сіць, Фядо́сцы сто́лькі ж — і папё́рлі ў Плё́шчаніцы. *Мал.*

КУГА'ШКА (куга́шка) *жан.* Пасудзіна, якой чэрпаюць у лазні ваду. За куга́шку не было́ як узя́цца го́лай руко́й, гэ́так яна́ нагрэ́лася. *Хац.*

КУ'ДЛА (ку́дла) *жан., пагардж.* Распусніца. Скруці̀лася саўсі́м дзе́ўка, ку́длаю ста́ла. *Бр.*

КУЛІ'НА (кулі̀на) *жан.* Спакойная затока ў рацэ. На на́шай Бяро́зе ад адно́й Чыжа́хі да Перавo̗зу тры кулі̀ны. *Чыж.*

КУ'ПЛЕНЫЯ (ку́плены) *прым.* Прыезджыя. Ту́бельцы дру́жна жыву́ць, а ку́пленых людзе́й стара́юцца хоць як-не́будзь зьнява́жыць. *Бяс.*

КУ'РА (ку́ра) *жан.* Курыца. Шафёр е́хаў на машы́не і ва́шу ку́ру забі̀ў. *Кам.*

КУ'РАВА (ку́рава) *ніяк.* Пыл. У ха́це ўжо ку́рава мно́га, бо я на рабо́це, а бабу́ля ўвесь час сьпіць на ляжа́нцы. *Кузьм.*

КУРА'ЛЬ (кура́ль) *мужч.* Лучына. Бы́ва́ла, уста́ніш, ды ні па часа́х, а па пятуха́х, ды ні за ля́мпачкай, а за куралё́м, у часы́ чаты́ры, ды трэ́ба ў сту́пя таўкачо́м гру́цы натаўчы́, пасушы́ць на пры́пячку ў по́лымі, звары́ць ды сяме́йку пакармі̀ць. *Пал.*

КУ'РНІК (ку́рнік) *мужч.* Месца, дзе сядзяць куры. Усе ку́ры ў ку́рнік пасе́лі? Зажані́ яшчэ́ вунь адну́. *Гіл.*

КУРО'ДЫМІЦЦА (куро́дыміцца) *незак. тр.* Дыміц-

ца. Не́йкія дзьве́ галаве́шкі куро́дымяцца ў пе́чы, заліць трэ́ба. *Бяс.*

КУРО'САННЕ (куро́саньне) *ніяк.* Курасадня. Мае́ ку́ры ўжо даўно́ на куро́саньні сядзя́ць, а чаго́ е́та ты сваіх ня заганя́яш? *Р. Ч.*

КУРЫ'ЦЬ (куры́ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Вэндзіць. Суседзі ко́жны гот ку́рацъ кумпя́к, не́як і мы рас папро́бавалі, панра́вілася. *Бяс.*

КУСА'ННІКІ (куса́ньнікі) *тольк мн.* Аб'едкі. Скажы́, дзе гэ́тыя куса́ньнічкі дзява́ць? *Кам.*

КУСА'ЧЫ (куса́чы) *прым.* Кусліва. Про́шлы гот у нас рой узьня́ўся. Сеў у садо́чку, на галінку се́лі пчо́лы. Я'блынька мале́нькая, я дзяржу́ яе за ко́ньчык, каб саўсім ні злама́лася. А пчо́лы ніч́ога, ні пакуса́лі. А мо́жа гэ́та сорт такі́, што някуса́чыя. *Бяс.*

КУ'ФАР (ку́фар) *мужч.* Шафа. Пла́цьця но́выя ў ку́фры віся́ць. *Р. В.*

КУФА'ЙКА (куфа́йка) *жан.* Фуфайка. Надзе́ла п куфа́йку, дык і це́пла было́ п. *Чар.*

КУ'ХАЛЬ (ку́халь) *мужч.* Кружка. Была́ ў ле́се сасьмя́гла, прыйшла́ дадо́му, дык цэ́лы ку́халь вады́ вы́піла. *Кук.*

КУ'ХЦІЦ (ку́хціц) *мужч.* Сундук. Мае по́сьцілкі ляжа́ць у ку́хціцу. *В. В.* Не́мцы як прышлі́ з во́быскам, дык ма́ці запе́рла яе ў ку́хціц. *Кам.*

КУ'ЦЬКА (ку́цька) *жан.* Кавалак рафінаду. Я люблю́ піць чай с ку́цькаю, а сало́ткага не люблю́. *Р. Ч.*

КУЧКАВА'ЦЦА (кучкава́цца) *незак. тр.* Збірацца ў чароды. Што гэ́та тако́я, што бацяны́ кучку́юцца? Шчэ ш ім ра́на. Што гэ́та яны ўжо во́сянь ско́рую чу́юць, ці што? *Каб.*

## Л

ЛА'ВА (ла́ва) *жан.* Вялікі кавалак зямлі. Се́ньня апало́ла таку́ю вялі́кую ла́ву бурако́ў. *Кам.*

ЛАГ (лах) *мужч.* Жэрдка, якую прыстаўляюць да ваза. Лáгі прыстаўлáюць да вóзу і кóцяць па іх дрэ́вы. *Гіл.*

ЛАГЧАВІ'НА (лахчавíна) *жан.* Лагчына. І якрáз жа во тут во, на кладбíшчы, за гэ́тымі во пáмятнікамі, Сóкалаў з атрáдам засéў, у гэ́тай во лахчавíне, і як далі прыкáс, парцізáны як чхнýлі с усіх старóн, то хвацíла там і паліцáям, і нéмцам. *Мік.*

ЛАДЫ'ШКА (лады́шка) *жан.* Збанок без ручкі. Ямý што, лады́шку малакá вы́піў і на двор пабéх. *Бр.*

ЛАЖБЕ'НЬ (лажбéнь) *мужч., лаянк.* Гультай. Лажбéнь ты, вазьмíся за рабóту, а то нічóга ні зарóбіш на зíму. *Кам.*

ЛАЖБЕ'Й (лажбéй). Гультай. Вот нéйкі лажбéй, сабáк ганя́е, а нічы́м не зóймяцца. *Кам.*

ЛАЛЭ'Й (лалэ́й) *агульн., абраз.* Чалавек з вельмі тоўстымі губамі. Гýбы ў яго тóўстыя і крýглыя, як у сапрáўднага лалэ́я. *Крок.*

ЛА'ПАЦЬ (лáпаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Чапаць. Не лáпай мянé, бо дам. *В. В.*

ЛАПАТУ'Н (лапатýн) *мужч., неадабр.* Чалавек, які многа гаворыць. Ну і лапатýн жа еты Андрэ́й, нагавóрыць, нагавóрыць, а зрабіць ня зрóбіць. *Р. Ч.*

ЛА'ПІК (лáпік) *мужч.* Плямачка. На памідóры лáпік зялёны, гэ́та ён бýдзе псавáцца. *Чар.*

ЛА'ПІНКА (лáпінка) *жан.* Пустое месца на полі, не пакрытае гноем. Бáцька ўсё крычы́ць на нас: «Растрасáйце дóбра гной, кап лáпінкі нідзé не асталóся!» *Бяс.*

ЛАСКАТА'ЦЬ (ласкатáць), -у, -аш; *незак. тр.* Балбатаць. Сабярýцца і ласкóчуць, і ласкóчуць, калі яны ўжо сьцíхнуць? *Р. Ч.*

ЛАТУХЕ'Я (латухéя) *жан.* Драная бульба. А латухéю хто зьдзёр? Нікамý дзéла да éтага нет. *Р. Ч.*

ЛАТУ'ШКА (латýшка) *жан.* 1. Драўляная лыжка. У нас шчэ дзеравя́нныя латýшкі ест, íмі éсьці лепш — не гóрача. *Р. Ч.* 2. Гліняная міска. Даўней такíх мíсак не былó, а былі анны́ латýшкі з гліны. *Р. Ч.*

ЛАТУ'ШНІК (латýшнік) *мужч.* Каша з яец і пшанічнай мукі. Цэ́лы чыгýн латýшніку наварыла. *Р. Ч.*

ЛАЎЧЭ'Й (лаўчэ́й) *прысл.* Лепш. Лаўчэ́й было́ п, кап ты не цягáўся ўсю ноч, а лёх ды спаў. *Ліс.*

ЛАХМА'НІК (лахмáнік) *мужч.* Блузка. Адзін лахмáнік адзéла, дык хóладна, трэ́ба ісьці цяплéй адзéцца. *Кам.*

ЛА'ХТА (лáхта) *агульн., неадабр.* Чалавек, які хутка і без толку гаворыць. З гэтай лáхтай і спрачáцца ня трэ́ба было́, сэ́нсу нямá. *Кірк.*

ЛЕВАРУ'КІ (леварýкі) *мужч.* Ляўша. Леварýкі, а піша прáваю. *Граб.*

ЛЕ'ДЗВІ (лéдзьві) *прысл.* Ледзь. Лéдзьві ні заблудзіла сéньня ў лéсі. *В. В.*

ЛЕКАТА'ЦЬ (лекатáць), -ч-у, -ч-аш; *незак. тр.* Дрыжаць ад холаду. Не лекачы́ — ідзі́ апранíся, стáне цяплéй і ты супакóішся. *Меж.*

ЛЕ'СКА (лéска) *жан.* Лесвіца. Вазьмі у Рыгóра лéску, трэ́ба на гарý злáзіць. *Кам.*

ЛЕ'СКІ (лéскі) *толькі мн.* Лесвіца. Чамý з агарóда лéскі не прынéсла? Мне ж на гарý сéна занéсьці нáда. *Луц.*

ЛЕ'ТНІ (лéтні) *прым.* Чуць цёплы. Вадá астыла, чуць лéтненькая. *Ліс.*

ЛЕ'ТНІК (лéтнік) *мужч.* 1. Жаночы лёгкі жакет без падкладкі. Бывáла, мы лéтнік адзяём, як ідóм у цэ́ркву, а тады́ зноў зьнімáем. *Р. Ч.* 2. Шлях, па якім ездзяць толькі ўлетку. Ты пытáла, дзе мае дзéці падзéліся, а яны́ вунь па лéтніку ў лес пайшлі. *Р. Ч.*

ЛЁ'ТАЧКА (лётачка) *жан.* Ляток. Стары́ дóбра даглядáў пчóлак. На зíму аблóжа пчол картаплáньнікам, сéнам, пакіне адкрытай лётачку, каб ды́хаць ім мóжна было́. *Бяс.* Малáя дзірачка, праз якýю пчóлкі вылятáюць, завéцца лётка. *Там жа.*

ЛЕ'Я (лéя) *абраз.* Тоўстая жанчына. Тáя лéя ізнóў мае гуркі патаптáла. *Кам.*

ЛЁ'ПАЛКА (лёпалка) *жан.* Прылада для знішчэння

мух. Сто́лькі мух развяло́ся, што ні лёпалка ні памага́е, ні што другóе. *Кам.*

ЛЁ'ТАМ (лётам) *прысл.* Бягом. Ве́чна ўсё лётам ды лётам, няма́ калі́ пасядзе́ць ні міну́ты. *Бяс.*

ЛЁ'ХА (лёха) *жан.* Адтуліна ў падмуроўцы. Лёхі на зі́му затыка́юць, кап пол не настыва́ў. *Бр.*

ЛІДА'ІК ((ліда́ік) *мужч.* Ташната. Гэ́та ж трэ́ба так мно́га калыха́цца, што прышо́ў ды й гаво́рыць: «Ма́ма, мне ве́льмі пло́ха, ліда́ік ве́рне». *Р. Ч.*

ЛІПНЕ'Г (ліпне́х) *мужч.* Сушанае лісце ліпы. Ліпне́х тожа́ е́лі з го́ра. *Бяс.*

ЛІСА'ВЫ (ліса́вы) *прым.* Ласкавы, тактоўны. Ён такі́ ліса́вы, усягды́ пагаво́рыць с чалаве́кам, пасьмяе́цца. *Цяр.*

ЛІСТАНО'ШКА (лістано́шка) *жан.* Лістаношка газэ́ты нясе́, пастаю забяру́. *Заб.*

ЛО'ЖА (ло́жа) *жан.* Ложак. Я ні даю́ сваю́ ло́жу закрыва́ць ка́пай, ні люблю́. Ко́лісь у мо́дзе было́ лажы́ць на ло́жу паду́шак цэ́лую гару́, наве́рх я́сікі. *Фал.*

ЛОЙ (лой) *мужч.* Авечы тлушч. Зарэ́залі аве́чку, дак натапілі дзьве міскі ло́ю. *В. В.*

ЛО'КША (ло́кша) *жан.* Локшына. У кра́му ло́кшы прывязьлі, ба́бы маме́нтам расхвата́лі. *Заб.*

ЛО'ПАТ (ло́пат) *мужч.* Шум. Надае́лі гэ́тыя гу́сі, такі́ ш ло́пат паднімуць, што хоць ву́шы затыка́й. *В. В.*

ЛО'ПАЦЕНЬ (ло́пацень) *мужч., асудж.* Жанчына, якая многа і без толку гаворыць. Мая́ сусе́тка такі ўжо лопаце́нь, лапо́ча, лапо́ча без канца́ і ўсё бес то́лку. *Бяс.*

ЛОЎЖ (лоўш) *мужч.* Куча веццяў. І што толькі ў гэтым лесе нарабілі? На кожным кроку ляжыць лоўш, нельга прайсьці. *Цяр.*

ЛУ'ТЫ (лу́ты) *толькі мн.* Лыка. Быва́ла, як спляце́ш ла́пці з лу́ты, дык хо́дзіш у іх усю́ды, бо адзе́ць больш ніч́ога не было́. *Р. Ч.*

ЛУЧНІ'К (лучні́к) *мужч.* Дзірка. То́лькі сёньня адзэ́-

ла нóваю вóпратку, а як паглядзéла ў люстэрка, дак у ёй тóлькі адны лучнікé. *Р. Р.*

ЛЬГА (льга) *прысл.* Магчыма. Зрáзу дык былó льга жыць, а пóтым стáла зусíм нéльга. *Кухц.*

ЛЭ'ГУР (лэ́гур) *мужч.* Парадак. Ясі ты без нія́кага лэ́гуру. *Цял.*

ЛЮБО'СЦІ (любóсьці) *толькі мн.* Любошчы. Аднóйчы мы йшлí прас канóплі дахáты і ні знáлі, што наш размавóр патслу́хваюць нáшы дзяцюкì. Усе дзеўкі раскáзываюць пра сваé любóсьці, ну й мянé нячы́сьцікі за язы́к пацягну́лі расказáць пра Даніпáта. *Пуз.*

ЛЮСТЭ'РКА-ТРАЯ'К (люстэ́рка-тра́як) *ніяк.* Трыльяж. Зайдзì ў кóжнага хáту — вы́малявана, вы́крашана, у любóга дóбрага люстэ́ркі-траякí, рáдзівы, целявìзары. Што гэ́та, шуцéйная дзéла — такáя жысь. *Мік.*

ЛЯ'ДА (ля'да) *прысл.* Дрэнна. Мой уну́к ля́ды пíша, усé цятрáдзі заму́рзаныя і сам заму́рзаны. *Р. Ч.*

ЛЯДА'ТЫ (лядáты) *прым.* Стары чалавек. Лядáты, а які́ яшчэ́ жвáвы. *В. В.*

ЛЯЖА'ЙКА (ляжáйка) *жан.* Ляжанка. Напалìла ляжáйку, узьлéзла нáнач, вы́гралася, дак і кáшаль пырастóў. *Цял.*

ЛЯЖА'К (ляжáк) *мужч.* Разнавіднасць вулея. Рáмачныя ву́леі ў гэ́тым гóдзе прадалá, нямá каму́ даглядáць, асталìся калóды-ляжакì, ляжáць пад я́блынямі ў агарóдзе. *Бяс.*

ЛЯ'ЗАЦЬ (ля́заць), -аю, -еш; *незак. тр.* Лазіць. Глядзí, сынóк, не ля́зай абы́ куды́. *Якш.*

ЛЯЗГАТА'ЦЬ (лязгатáць), -ч-у, -ч-аш; *незак. тр.* Крычаць, лаяцца. Пярастáнь ты лязгатáць на ўсё сялó. *В. В.*

ЛЯКАТА'ЦЬ (лякатáць), -у, -аш; *незак. тр.* Дрыжаць. У дзьвёркі сту́каюць, а я сяджу́ і лякачу́. *Св.*

ЛЯНУ'ХА (ляну́ха) *жан.* Вадкая страва са свежай капусты. Сягóньня на абéт у нас ляну́ха, як прасíлі. *Масц.*

ЛЯ'ПАЦЬ (ля́паць), -ю, -еш; *зак. тр.* Гавары́ць абышто. Ён цэ́лы вéчар ля́паў абы-штó. *Р. Р.*

ЛЯ'ПАЦЬ (ля́пацць), -ю, -еш; *незак. тр.* Стукаць. Усё ля́пая і ля́пая па сталé, ні супакóіцца. *В. Р.*

ЛЯ'ПАЦЬ КІ'ШКАЙ (ля́пацць кíшкай). Галадаць. Стара́йцяся вы́браць картóплю, а то бýдзяця зімóю ляпаць кíшкай. *В. В.*

ЛЯ'ПНУЦЬ (ля́пнуць), -у, -еш; *зак. тр., перан.* Сказаць абы-што. Вось ля́пнула, дык ля́пнула, і слýхаць бры́тка. *Уж.*

ЛЯСЁ'НКА (лясёнка) *жан.* Торбачка. Пóўную лясёнку яды́ набра́ла. *Р. Ч.*

ЛЯ'СКАЦЬ (ля́скаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Стукаць. Прышóў увéчары з гульні́ і дава́й ля́скаць у дзьвéры. *В. В.*

ЛЯТУНЫ' (лятуны́). Хлопцы-аднагодкі, падлеткі. Вот гэ́тыя лятуны́, вам спакóю ні даю́ць. *Кам.*

ЛЯ'ХА (ля́ха) *ніяк.* Рэха. Ціха́ ў лéсі, тóлькі ля́ха адгука́еццa. *Р. В.*

## М

МАГАЗІ'НШЧЫЦА (магазíншчыца) *жан.* Прадаўшчыца. Нéкалі як Ба́йдурыха была́ магазíншчыцай, мнóга тава́раў былó, а цяпéр як дзéўкі ста́лі таргава́ць, дык німа́ нічóга. *Белар.* Цэ́льны дзень магазíн закры́т, ма́быць, магазíншчыца ў гóрат паéхала. *Там жа.*

МА'ГЛІ (ма́глі) *тольк мн.* 1. Прыстасаванне для прасавання вымытай бялізны. Трэ́ба бялізну пацíга́ць, выраўнава́ць, тады́ ў ма́г'лі вы́маг'ляваць. Ма́глі такíя от ік у нас крóсны, Ма́нька. Палóжыш на э́тыя от як крóсны, закрýціш — і гла́дзінькая бялíзна выхóдзіць с каткóў, ва́лікаў такìх. *Паг.* 2. Пранік і качалка. Трэ́ба ўзяць у Ма́ні ма́глі і пакача́ць настóльнікі. *Борк.*

МАДЭ'ДА (мадэ́да) *жан.* Модніца (у адносінах да жанчыны, якая любіць модна апранацца). Гля́ньце, лю́дзі, што гэ́та мадэ́да са сваéй спаднíцаю нарабíла: паначапля́ла істýшкаў, панашыва́ла гýзікаў, на́ват там і дзе не трэ́ба. *Меж.*

МАЗГАВІ'НА (мазгавіна) *жан., зневаж.* Галава. Зараз як дам гэтай сеткай па гэтай дурной мазгавіне. *Кам.*

МАЗЕ'ЛІК (мазелік) *мужч.* Подмазка. Бывала: «А каб цябе коршун». Кот мазелік панёс, што патэльню мазаць. А цяпер во сала ляжыць, і кошка не бярэць. Скажаш, ніпраўды? *Мік.*

МАЗЕ'ПА (мазепа) *агульн., неадабр.* Размазня (аб чалавеку). Нашто ш ты на яго мазепа сказала? *Буз.*

МА'ЙТКІ (майткі) *толькі мн.* Штаны. І сам ён хлопец модны, і майткі ў яго модныя. *Мал.*

МАКЕ'РКА (макерка) *жан.* Бляшаная баначка. У макерку даўней грошы складалі на хранене. *Р. Ч.*

МАКРЫ'ЦА (макрыца) *жан., бат.* Пустазелле, якое расце на вільготных месцах. Макрыцу натта добра рваць. *Цяр.*

МАЛЕ'НЧЫЦЦА (маленчыцца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Паводзіць сябе, як малыя дзеці. Вялікія дзеўкі, а маленчацца. *Кам.*

МАЛЬДАВА'ЦЬ (мальдаваць), -ую, -еш; *незак. тр.* Адзначаць. Чаго ты не прыйшоў? Перат сходам усіх прысутных мальдавалі. *Бар.*

МАНЕ'РКА (манерка) *жан.* Чашка. Купіла я ўчора ў магазіня манерачку, цяпер буду зь яе чай піць. *Кук.*

МАНЮ'К (манюк) *мужч., зневаж.* Ілгун. Каму што надумае змане, толькі усьпівай яго слухаць, вот манюк. Усе на весцы завуць яго манюк. *Бяс.*

МАЛО'ЦЬ ЯЗЫКОМ *перан.* Гаварыць што папала. Слухай яе, што яна языком меля. *В. В.*

МАНІ'ЦЫ (маніцы) *толькі мн.* Спелыя каноплі. Раней сеялі каноплі, дык як яны пасьпеюць, іх называюць маніцамі. *Цяр.*

МАНЮ'КА (манюка) *агульн.* Ілгуння. Была нявестка праўдзіва і жонка манюка. От пякуць алаткі, а дзет на печы сядзіць і злазіць не хоча. Нявестка гавора дзеду: «Я табе дам анну алатку і анну скварку». Скажа так і дасьць, як сказала. Як жонка пячэ алаткі, тожа гавора:

«Я табе́ дам анну́ ала́тку і ск元ва́рку». Ска́жа так, а сама́ дасць анну́ ала́тку і дзьве́ сква́ркі. Так дзет і гаварыў, што ў яго́ няве́стка праўдзіва, а вось жо́нка манюка. *Белар.*

МАРМУ'ЛЬ (марму́ль) *мужч.* Негаваркі чалавек. Такі ўжо́ марму́ль, сло́ва зь яго́ не вы́цягнеш. *Бяс.*

МАРЫНА'РКА (марына́рка) *жан.* Пінжак. Падляці ў кра́му, там фа́йныя марына́ркі прывязьлі́. Ка́жуць, зра́ньня й ясе́нкі былі́. *Заб.*

МАСЛЁ'НКІ (масьлёнкі) *толькі мн.* Тоўчанае льняное семя з соллю. Навару́ шаймо́раў по́ўны чыгу́н бу́льбы, вы́сыплю на стол, дзе́ці мака́лі імі ў масьлёнкі і е́лі. *Бяс.*

МАСЛІНО'К (масьліно́к) *мужч.* Баці́стовая хустка. Уну́чка прыве́зла мне масьліно́к і я яго адра́зу завяза́ла на галаву́. *Р. Ч.*

МАТАНУ'ЦЬ (матану́ць), -у, -еш; *зак. тр.* Махнуць. Матану́ў конь хвасто́м чуць ні па вача́х. *Ліс.*

МА'ТКА (ма́тка) *жан.* Ласкавы зварот да жанчыны. У нас гаспада́р ласка́вы, да ўсіх жанчы́н зьвярта́ецца: «ма́тка ты мая́». *Кузьм.*

МАТУ'З (мату́з) *мужч.* Вузкі доўгі кавалачак матэрыі, падобны на вяроўку. Дай матуза́ яко́га завяза́ць мех. *Цяр.*

МАТУ'ЛЯ (мату́ля) *жан.* Хрышчоная маці. Трэ́ба было́ б да мату́лі сходзі́ць, а да браце́ньніка ўжо за́ўтра. *Суд.*

МАХЛЯ'Р (махля́р) *мужч., неадабр.* Ілгун. Ня слу́хай гэтага махляра́, ён дахале́ры нагаварыць мо́жа. *Суд.*

МАХРА'Ч (махра́ч) *мужч.* Кавалак саматканага палатна з махрамі, заплеценымі ў косы. Як махрачо́м сьцёбану́ ко́лькі разо́ў — тады́ слу́хаецца. *Мац.*

МАЦАВА'ЦЬ (мацава́ць), -ц-ую, -еш; *незак. тр.* Пагражаць. У той ха́це так мацава́ў мне ўчора́. *Кузьм.*

МАЦЁ'РАЗНА (мацёразна) *прысл.* Вельмі моцна. Трыма́ў ён так мацёразна, што вы́рвацца ні было як. *Кам.*

МАЧ (мач) *мужч.* Сахор. У сусе́дзяў мач вазялі, бо свайго́ ня ма́ем. *Кузьм.*

МАЧУ′ЛА (мачу́ла) *жан.* Загніўшая сажалка. Ту́хлае паветра? Гэ́та ад мачу́лы так нясе́, яна недалёка. *Дубр.*

МІ′ЗЯНКА (мі̀зянка) *жан.* Морква. У нас усе́ дзе́ці ве́льмі мі́зянку лю́бяць. *Мал.*

МІРГАВА′ЦЬ (міргава́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Меркаваць. Я ш кажу́, сыно́к, што́ трэ́ба міргава́ць, каму́ мо́жна гро́шы пазыча́ць, а каму́ і ні ва́рта. *Цял.*

МІТНУ′ЦЦА (мітну́цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Прамільгнуць. Мітну́ўся як пу́ля і лаві́ яго. *Ліс.*

МЕ′ЛЬНІК (ме́льнік) *мужч.* Млынар. Ня вязі̀ муку́ ў млын, ме́льніка на машы́не не́дзе павязьлі́ ў го́рат. *Р. Ч.*

МЛЕ′ЧНІЦА (млёчніца) *жан.* Пасудзіна накшталт шафы, у якой захоўваецца малако. За́рас з млёчніцы прынясу́ малака́. *Кам.*

МЛІН (млін) *мужч.* Блін. Мама́ ўме́е млі́ны́ пячы́ ве́льмі сма́чныя, а я яшчэ́ не навучы́лася. *Аз.*

МНОЖ (мнош) *зборн.* Мноства. Той гот у нас така́я мно́ш я́блыкаў была́. *Кам.*

МОСТ (мост) *мужч.* Падлога. У нас на кварці̀ры стая́ў до́ктар, быў дужа красі̀вы, малады́, даве́рлівы такі̀. Як пры́дзем да яго́ мост мыць, дык ён заўсягда́ дасьць штоне́будзь: ці канхве́ту, ці кансе́рвіну. *Белар.*

МУКАМО′ЛЬНЯ (мукамо́льня) *жан.* Млын. Гэ́ты ячмень і пшані̀цу завязі̀ на мукамо́льню, перапусьці́ праз жо̀рны. *Меж.*

МУ′МРЫЦЬ (му́мрыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Есці. Дарма́ што мале́нькі, а му́мрыць за траі́х. *Раўч.*

МУ′РЫН (му́рын) *мужч., неадабр.* Маўклівы чалавек. Ой, му́рын, ма́ўчыць, наду́ўся і сядзі́ць. *Р. П.*

МУ′РЗАЦЦА (му́рзацца) *незак. тр.* Абвалакацца хмарамі. Ніба зноў му́рзаецца. *Кам.*

МЫ′ЛІЦЦА (мы́ліцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Гаварыць многа і няпраўду. Пераста́нь ты ўжо мы́ліцца, ле́пей вазьмі́ вунь дзярка́ч ды сьце́ны абатры́. *Зап.*

МЭ′НЧЫЦЦА (мэ́нчыцца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Мучыцца. Час мэ́нчыўся каля ме́ха, чуць завяза́ў. *Ліс.*

# П

ПАВАДЗЭ′НЕ (павадзэ́не) *ніяк.* Прывілеі. Цяпе́р на́шым жанчы́нам павадзэ́не, што каб маёй жонцы тако́е, дык сто гадо́ў жыла п. Радзіла — й дня німа́ як паляжа́ць, бо ніва ш стаіць. А цяпе́рака паку́ль радзіць, два ме́сяцы аддыха́е, і пасля́ ро́даў два. Мая гэ́тага не ве́дала. *Бяс.*

ПАДБАРО′ДАВІЧ (падбаро́давіч) *мужч.* Падбародак. У майго́ дзя́цькі губа́ ве́рхняя была́ така́я раздво́еная, бы ў за́йца, і падбаро́давіч о такі. *Бяс.*

ПАДГАЛО′СКА (падгало́ска) *жан.* Пагалоска. Пачу́лі падгало́ску і разьне́слі па людзёх. *Вішн.*

ПАДЖЫЛЫ′ (паджылы́) *прым.* Стараваты. Купілі мы ха́тку паджы́лаю, тро́шкі падрамантава́лі ды й жывём. *Бяс.*

ПАД ІХ. Да іх. Пад іх лес бліжэ́й, чым пад нас. *Кам.*

ПАКЕ′ПЛІВАЦЬ (пакі́пліваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Насміхацца. З цёмнага чалаве́ка заўсёды пакі́пліваюць. *Цял.*

ПА′ДКІ (па́ткі) *прым.* Схільны да чаго-небудзь, ласы на што-небудзь. Ого! Ён ве́льмі па́ткі да чужо́га, а кап свайго́ чаго́ аддаць... *Прудз.*

ПАДЛІ′ЖНІЦА (падлі́жніца) *жан.* Падліза. Яна к ко́жнаму падлі́жніца і вы́прасіць, што ёй трэ́ба. *Бяс.*

ПАДЛО′ГА (падло́га) *жан.* Стажар'е, памост пад стог. Мой суго́ньня падло́гу пад сто́гам па Падлу́жжы раскі́даў, дык каза́ў, сто мышэ́й на вілы ўспаро́ў. *Януш.*

ПАДЛО′ЖЫНА (падло́жына) *жан.* Адна дошка ў падлозе. Згніла́ адна́ падло́жына ля падму́рка, бо ве́льма сы́ра было́. *Кук.*

ПАДНЯБЕ′ННЕ (паднябе́ньне) *ніяк.* Верхняя частка печы. І ха́та стара́я, і печ ужо разва́льваецца, усё паднябе́ньне вы́сыпалася. Як зіму́ зімава́ць бу́ду, дык і ня ве́даю. *Бяс.*

ПАДО'ЛАК (падо́лак) *мужч.* Падол. Увесь падо́лак змок, пакуль дабіра́лася. *Суд.*

ПАДСУ'МНІК (патсу́мнік) *мужч.* Сумка для ключоў веласіпеда. Палажы́ ключы́ ў патсу́мнік. *Р. Г.*

ПАДУЖА'ЦЬ (падужа́ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Папpавіцца. Я ду́мала, вясно́й падужа́ю. *Кам.*

ПАДХАПІ'ЦЦА (патхапі́цца) *зак. тр.* З'явіцца. Падхапілася хма́рка, а ў мяне́ се́на яшчэ́ с по́ля ні зьве́зяна. *Сак.*

ПАД'ЯЛДЫ'КНУЦЬ (пад'ялды́кнуць), -у, -еш; *зак. тр.* 1. Падкалупіць. То́лькі і глядзі́ш, кап каго́ пад'ялды́кнуць. *Бр.* 2. Падкусіць. Пад'ялды́кнулі лю́дзі, а ты і паве́рыў. *Чар.*

ПАЗАЎЧО'РЫХ (пазаўчо́рых) *прысл.* Пазаўчора. Маладзе́ц, Фе́дзя, што нам пазаўчо́рых памо́х дро́вы разгрузі́ць. *Баг.*

ПАЗЫ'КАЦЦА (пазы́кацца) *зак. тр.* Загізаваць. Адабра́ў пан цялу́шку ў дзе́да і пасе́ць са сваей скаці́най. А гэ́та было́ ле́там. А гэ́тыя каро́вы як пазы́каліся, гэ́та цялу́шка адра́зу да дзе́да на двор і прывіла́ па́нскія каро́вы дзе́ду на двор. А дзет тады́ іх запёр. *Луб.*

ПАДВАЗО'ННІК (падвазо́ньнік) *мужч.* Вазонніца. Пасадзі́ вазо́н у падвазо́ньнік. *С. Д.*

ПАЖА'ЛАСНА (пажа́ласна). Калі ласка. Зайдзі́це, пажа́ласна, да мяне́. *Калод.*

ПАК (пак) *мужч.* Скрыня, у якую ссыпаюць зерне. Пак ужо спаражні́ць трэ́ба ды вы́несці пасушы́ць. *Сл.*

ПАКВЭ'ГАЦЬ (паквэ́гаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пайсці вельмі павольна. Міну́тку аддыхну́ла, ды й памале́ньку паквэ́гала. *Бяс.*

ПАЛ (пал) *мужч.* Тэмпература. Такі́ пал падня́ўся ў мало́га, дрэ́ньчыцца, пры́дзіцца, віда́ць, ве́сьці ў бальні́цу. *Заб.*

ПАЛАВІ'ЧКІ (палаві́чкі) *толькі мн.* Разрэзаная папалам і звараная бульба (у мундзірах). Та́та, ідзі́ е́сьці! Ма́ці ўжо палаві́чкі адвярну́ла, вы́сыпала ў міску. *Мет.*

ПАЛА'ТАЦЦА (пала́тацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Пажывіцца. Пала́тацца ля іх мо́жна, то́лькі не зява́й. *Чар.*

ПАЛА'ТКІ (пала́ткі) *толькі мн.* Вяроўкі, на якіх носяць сена, салому і інш. Вазьмі пала́ткі, ды пайдзе́м прынясе́м се́на каро́ві. *Кам.*

ПАЛА'ПІЦЦА (пала́піцца) *зак. тр.* Паласавацца. Вот пала́піўся кот каўба́самі, с су́мкі ў сусе́ткі сьцягнýў. *Р. Г.*

ПАЛАСЯ'СТАЯ (паладся́стая) *прым.* Паласатая. Вой, не́йкая ры́ба паладся́стая се́ньня ў магазіне, ка́жуць на́дта сма́чная. *Бяс.*

ПАЛАЎНІ'К (палаўні́к) *мужч.* Палавік. Даўне́й палаўнікі́ ва ўсі́х саматка́ныя былі́, а за́раз ва ўсі́х купле́ныя, бо малады́я ўжо і ткаць не ўме́юць. *Р. Ч.* Самаробны палавік. Мы ўсе палаўнікі́ тка́лі, кап прыгажэ́й было́, а цяпе́р купля́юць. *Р. Ч.*

ПАЛАЦЯ'ННЫ (палаця́нны), *прым.* Палатняны. А наўле́чкі былі́ ўсе с уста́ўкамі, пра́ўда, палаця́нныя былі ўста́ўкі, але вы́бялім, пакача́ім на ра́се, бе́лыя-бе́лыя ро́бяцца. *Фал.*

ПАЛГА'Н (палга́н) *мужч.* Сякач. Я стара́, мае дзе́тачкі, ця́гаю бу́льбу сь пе́чы, а пато́м яе на́да вы́вернуць, пасячы́, а палга́н ця́шкі, рукі адрыва́е. *Цял.*

ПАЛЕ'ДЗЕЦЬ (палі́дзець), -у, -іш; *зак. тр.* Паглядзець. Саро́ка пале́дзяла і пале́цяла. *Дукор.*

ПАЛЕ'ЦЕЦЬ (пале́цець), -ч-у, -іш; *зак. тр.* Паляцець. Самалёт пале́ціў, памаха́й ру́чкай. *Кл.*

ПАЛІ'ЧКА (палі́чка) *жан.* Вісячы шкафчык. Ло́шкі і мі́скі мы заўсе́ды склада́ем у палі́чку. *Р. Ч.*

ПАМЯЛО' (памяло́) *ніяк.* Венік. Вунь стаі́ць памяло́ ў куце́, дык ім мяці́ падло́гу. *Чар.*

ПАКА'МІСЬ (пака́мiсь) *прысл.* Пакуль. Пака́мiсь я тут з ва́мі стаёў, мо́жа ўжо суп звары́ўся. *Кам.*

ПАЛАТНЯ'НКА (палатня́нка) *жан.* Калыска, завешаная палатном. Мае дзе́ці ўсе ў гэ́тай палатня́нцы спа́лі. *Борк.*

ПАЛУ′КІШАК (палу́кішак) *мужч.* Плеценая павозка. Сядзе́ў я ў палу́кішку, сядзе́ў і засну́ў, ледзь не зваліўся. *Гіл.*

ПАЛЯ′НУЦЬ (паля́нуць), -у, -еш; *зак. тр.* Паглядзець. Паля́нь, як хо́раша наво́кал, а ты ўсё ў ха́це ды ў ха́це. *Вішн.*

ПА-МАЕ′МУ (па-мае́му) *прысл.* Па-мойму. Цяпе́р не глядзя́ць на чужы́ савет, што сва́е мазгі́ зро́бяць, так і до́бра. Ні па-мае́му заму́жжа, ні нара́віцца мне — й гавары́ць ні хачу́. Пра́ўда. *Паг.*

ПАМАГА′ЧКА (памага́чка) *жан.* Памочніца. До́бра табе́ жыве́цца, Ма́нька, як у цябе́ памага́чка ёсьць. По́йдзіш на рабо́ту, а яна́ ўсё і зро́бя па хазя́йству: каро́ву падо́іць, сьвіне́й нако́рмя. *Бяс.*

ПАМАЎЗА′ *агульн.* Чалавек, які любіць залезці куды не трэба. Нідзе́ ад гэ́тай памаўзы́ не схава́ешся. *Цяр.*

ПАМАЦНІ′К (памацні́к) *мужч.* Памочнік. Да мяне́ памацніко́ў з го́рада прые́хала, а рабі́ць ня ўме́юць. *Гіл.*

ПАМО′СТ (памо́ст) *мужч.* Падлога. Як пакра́сіў сын памо́ст, то намно́га ляхчэ́й мыць ста́ла. *Кук.*

ПАМЫ′Е (памы́е) *ніяк., толькі адз.* Памаўзлівы чалавек. Купі́ла я варэ́ньня, паста́віла ў шка́фчык. Ду́маю, зьем по́сьле. Наза́ўтра аткрыва́ю — няма́. От памы́е та́я Ра́я, пала́зіла дзе не трэ́ба. *Р. Ч.*

ПАНАВА′ЦЬ (панава́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Добра жыць. По́йдзем у лес, набяро́м харчо́ўкі ды бу́дзям панава́ць дзён тры. *В. В.*

ПА-НАД (па-нат) *прын.* Каля. Мы ляжа́лі па-над Дзвіно́ю, ажыда́лі кама́нды. *Кам.*

ПАВЭ′ДЛУГ (павэ́длух) *прысл.* У параўнанні. Цяпе́р павэ́длух даўне́йшага, дык куды́ ле́пей ста́ла жыць. *Кухц.*

ПАГО′Н (паго́н) *мужч.* Паша. Ра́ніцай каро́ў выганя́юць на паго́н. *В. В.*

ПАГРАБНЯ′ (паграбня́) *жан.* Пабудова. Трэ́ба іці бу́льбу на паграбню́ з гаро́да прыне́сьці. *Цял.*

ПАДА'ЦЦА (падáцца) *зак. тр.* Здацца. Ні знáю, ці гэ́та мне падалóся, ці прáўда бы́ло, але і цяпéр у ваччý стаíць. *Сак.*

ПАДБЕ'Л (падбéл) *мужч.* Лякарства. Каб зажылá рáна скарэ́й, трэ́ба падбéлам пацярці́. *Р. Ч.*

ПАВАРО'ТКА (паварóтка) *жан.* Паварот. За паварóткай ракí шукáй сваíх гусéй. *Чыж.*

ПАВЕ'СМА (павéсма) *жан.* Дзесяць ручэек змятага лёну, дзесяць раз па шэсць жменек. Гэ́тыя вы́чышчаныя жмéнькі склáдваім жмéнька да жмéнькі, шэсьць жмéняк — гэ́та ручэ́йка, і гэ́тых дзéсяць ручэ́ек — гэ́та бýдзе павéсма, мы звáлі павéсма. *Пап.*

ПАБРЫ'НДАЦЬ (пабры́ндаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пабадзяцца. Пабры́ндаў звéчара па дзярэ́ўні і звалíўся спаць. *Ліс.*

ПАБЛАКА'ТА (паблакáта) *жан.* Блакада. Мой чалавéк у Ленінгрáдзе ў паблакáце быў. *Кунц.*

ПАБО'ЎТАЦЬ (пабóўтаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Папаласкаць. Мае нявéсткі зáраз нямáшака дóма, пайшлá на рэ́чку пабаўтáць бялíзну. *Р. Ч.*

ПАБА'ВІЦЦА (пабáвіцца), -ўл-ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Пастаяць, пагаварыць. Пабáўцяся з нáмі, у вас жа чáсу хватáя. *В. В.*

ПАЛЕ'ГЛІЦА (палéгліца) *жан.* Палеглая трава, збажына. Трэ́ба касý накляпáць, брыгадзíр сказáў, каб я скасíў палéгліцу ў Вóўчым балóццы. *Бяс.*

ПАНІ'ЦЕЦЬ (панíцець) *зак. тр.* Зрабіцца тонкім. Бýльба зусíм бяс сóнца ў цянí панíцела. *Гіл.*

ПАНЦАКО'ВЫ (панцакóвы) *прым.* Пярловы. На абет мы чáста вáрым панцакóвы суп. *Кам.*

ПА'ПЕЛЬНІК (пáпельнік) *мужч.* Фартух, вытканы з палатна. Пáпельнік і трапкачы́ вы́мыла, на плот павесíла. *Ар.*

ПАПЛАВЕ'Ц (паплавéц) *мужч.* Поплаў. Сéньня сéна мы грэ́блі на паплаўцы́. *Кам.*

ПАРТКЕ' (партке́) *толькі мн.* Штаны. У нас на вёс-

цы пабудавалі камбінат быта, у якім шыюць партке. *Чар.*

ПАРО'ЖНІ (парóжні) *прым.* Не засланы. Телівізар трэба накрываць, а стол трэба каб быў парóжні. *Чар.*

ПАРО'НКІ (парóнкі) *толькі мн.* Дробная бульба. У мяні картóшка вышла бóльша, дык я парóнкі сьвіньням вару. Яны хоць і не спóрны, але ш трэба што варыць. *Р. Ч.*

ПАРЫ'ЛАЎКА (парылаўка) *жан.* Парыльня. А Зюня гэтак дóўга была ў гэтай парылаўцы, што як вышла с парылаўкі, давай млець. «Вой, кáжа, нідóбра, вой, нідóбра, імчы ты мне чагó, якóй вады». *Сів.*

ПАРЭ'НЖЫ (парэнжы) *толькі мн.* Парэнчы. Глядзі, сынка, трымайся за парэнжы, а то клáтка калышацца. *Р. Ч.*

ПАСА'ЖНЫ БЫЧО'К. Бычок, якога даюць на пасаг. Даў мне бáцька бычкá пасáжнага і валóку зямлі. *Кам.*

ПАСКУ'ПВАЦЬ (паскупуваць), -ю, -еш; *зак. тр.* Памыць, пакупаць. Загнáў у рэку ды паскупуваў усіх дзяцей. *В. В.*

ПАСО'БІЦЬ (пасóбіць), -б-лю, -іш; *зак. тр.* Дапамагчы. Хадзі, Гáнька, пасóб мне гэта сéна перанéсьці. *Бяс.*

ПАСПЫТА'ЦЬ (лён), -ю, -еш; *зак. тр.* Праверыць, ці вылежаўся лён. Паспытáць лён мы давярáлі тóлькі Тамашу. *Войр.*

ПАСТАЯ'ЛКА (пастаялка) *жан.* Вяршок. Пастаялку мáці вунь у той збан зьлівáе. *Бар.*

ПАСТРО'ІЦЬ (пастрóіць), -е, -іш; *незак. тр.* Падрыхтаваць есці. Устáла рáна, пастрóіла éсьці, усіх пабудзіла. *Акал.*

ПАСТРЭ'НЧЫЦЬ (пастрэнчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Параіць. Дóбра, што Сáша пастрэнчыў абагнáць картóшкі, дык я і абагнáла. *В. В.*

ПАСУ'ДАК (пасудак) *мужч.* Пасуда. Па хазяйству чуць спраўляюся — старая. Во ўнучка малая, знаіця, мне

памагáя рабíць што. І пол мяцé, і пасýдак мы́я, і карвáць мáмчыну засьцілáя. *Белар.* Трэ́ба пасýдак мыць, а то мýхі. *Там жа.*

ПАСЦЕ′ЛЬ (пасьцéль) *жан.* Рад снапоў, пакладзеных на ток для маладзьбы. Шы́рай, шы́рай рóбце пасьцéль. *Чыж.*

ПА′СЬІНАК (пáсынак) *мужч.* Бетонны слуп, які стаіць каля драўлянага электрычнага слупа. Ля гэ́тага сталбá пáсынак разьбíўся. *Кам.*

ПАТАРГА′НЕЦ (патаргáнец) *мужч.* Рэмень. Супакóйся, бо зáраз дам патаргáнца. *Уж.*

ПАТАЛЬМА′ХА (патальмáха) *жан.* Яечня. На сьнéданьне былá патальмáха с сáлам і кáва. *Уж.*

ПАТАПЦЫ′ (патапцы́) *толькі мн.* Страва з малака і кавалачкаў хлеба. Глядзí, як з апеты́там дзéці патапцы́ ядýць. *Кузьм.*

ПАТО′М *прысл.* Пасля. Крóсны залівáім вáрам, а патóм кладзём у стýпу і таўчóм. *Рат.*

ПАТРА′ВА (патрáва) *жан.* Знішчэнне пасеваў. Ну й патрáвы кóні нарабілі. *Уж.*

ПАТРА′ЎКА (патрáўка) *жан.* На кураціне з прыправамі гатуюць адвар, перад падачай яго падкалочваюць мукóй. Засéкла я кýрку і навары́ла патрáўкі. Тры дні вары́ла патрáўку с той кýркай. *Мал.*

ПАЎБРЫ′КУТАМ (паўбры́кутам) *прысл.* Галопам. Дзéці ўцякáлі, калí бáчылі, што карóва бéгла с пóля паўбры́кутам. *Р. П.*

ПАЎДЫВА′НІК (паўдывáнік) *мужч.* Невялікі дыван на сцяне. Паўдывáнік у мяне́ ўжо вéльмі я́ркі, хацéла другí купíць, ды нямá. *Аз.*

ПАЎПА′ЛЬТАК (паўпáльтак) *мужч.* Жаночае плюшавае паўпаліто. Я мáці паўпáльтак купíла а бáцьку яшчэ трэ́ба футэ́рак кýпіць. *Борк.*

ПАХО′НЦЫ *толькі мн.* Духмяныя прыправы. У мяне́ шмат пахóнцаў, буду кідáць у вáрыва, кап пáхла. *Кам.*

ПАЦУРБА′ЛКІ *толькі мн.* 1. Адыходы ад раслін.

Назьбірай якіх пацурба́лкаў з бура́чніку і дай каро́ве. *Рат.* 2. Галлё дрэў. Вазьмі́ ўкінь у печ асі́навых пацурба́лкаў. *В. В.*

ПАЧЫКІЛЯ'ЦЬ (пачыкіля́ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пайсці кульгаючы. Трэ́ба па́йсці гля́нуць, хто там пачыкіля́ў к нам на двор. *В. В.*

ПАЧЫНА'ЛЬНІК (пачына́льнік) *мужч.* Запявала. Мары́ля ў нас пачына́льнік, яна заўсё́ды пачына́е пе́сьню. *Р. Ч.*

ПАЦЫ'РКАЦЬ (пацы́ркаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Падаіць. Трэ́ба пацы́ркаць каро́ву. *Кам.*

ПАЦЯРО'Б (пацяро́п) *мужч.* Палянка ў лесе, на якой засталіся яшчэ пні. Схадзі́це пазагара́ць на пацяро́п, там со́нца мно́га, бо ве́дама — нішто́ не засланя́е, адны́ то́лькі пні там і мале́нькія ку́сьцікі. *Р. Ч.*

ПАЦЯРО'БКІ (пацяро́пкі) *толькі мн.* Лупіны. Трэ́ба сусе́тцы пацяро́пкі адне́сьці, бо няма́шака ў мяне́ каро́вы, а ў яе есь. *Р. Ч.*

ПАШАХО'НЦЫ *адз.* пашахонец. Свавольнікі. Пашахо́нцы вы, пераста́ньце свавó́льнічаць. *В. В.*

ПА'СТЫР (па́стыр) *мужч.* Пастух. Раска́зваюць, у ва́дным ме́йсьця быў бе́дный Васі́ль. Ён ганя́ў на па́сту ўсё ўрэ́мя, як сказа́ць, па-старо́му, быў па́стыр. Па́стыр быў дзераве́нскі і меў усяго́ казу́ с казьля́тамі і ку́рыцу сь ціпля́тамі. От як жыў. *Мік.*

ПЕ'ЛЬКА (пе́лька) *жан.* Палонка. Сяджу́ е́та я рас, чую крык дзіця́чы, я бяго́м туды, а там дзе́ці ўжо бе́гаюць і с пе́лькі рукі ба́чу. Е'то ш там Мі́шка, ака́зваіцца, быў. *Р. Ч.*

ПЕРАБІРА'НІК (перабіра́нік) *мужч.* Посцілка, тканая ў перабор. Мне нара́вяцца пірабіра́нікі. На́ша Стэ́фка ма́іць іх натка́ўшы, вазі́ла ў Маскву́ на вы́стаўку аш. *Фал.*

ПЕРАБІ'ЎКА (перабі́ўка) *жан.* Перагародка. Ха́та як каза́рма ўсё ро́ўна, бесталко́вая, перабі́ўкі не́ту. Кап пе-

рабіў, быў бы толк, а бес перабіўкі паратку няма. *Белар.*

ПЕРАБЫЛО'СЯ (перабылося) *зак. тр.* Пеæражылося. Ды нéяк перабылóся ўсё гóра. *Руб.*

ПЕРАГАВАРЫ'ЦЦА (перагаварыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Дамовіцца. Усё бýдзя добра, мы перагаварыліся, дзе сустрэцца. *В. В.*

ПЕРАДО'К (перадóк) *мужч.* Невялікая лаўка. Сядзь на перадóк, аддыхні трóхі. *Чар.*

ПЕРАДО'ЎКА (перадóўка) *жан.* Вярóўка, якая пераvязваецца паміж аглоблямі. Крэпка перадóўку зацягні, а то не давязём. *Р. Ч.*

ПЕРАКАБУРНУ'ЦЦА (перакабурнýцца) *зак. тр.* Перакруціцца. Хвéдзя быў учóра ў пóлі, казáў, бáчыў самалёт ляцéў, ляцéў прáма, тады як перакабурнéцца! От іньцярэсна, што б то магло быць. *Белар.*

ПЕРАКАВЕ'Ц (перакавéц) *мужч.* Папярочная баразна. На перакаўцáх мы бýльбы не сáдім. *Кук.*

ПЕРАСТРУГА'ЦЬ (перастругáць), -ж-у, -ж-эш; *зак. тр.* Перачысціць. Калі было ў мяне на кварціры шасьцёх хлóпцаў, дык кóжны дзень кош бýльбы перастружý, каб накарміць іх. *Кам.*

ПЕРАТО'ЧА (ператóча) *ніяк.* Месца ў хляве ля самых дзвярэй, не занятае загарадкаю. На пяратóчы цяпéр грáска, і я лéдзьві ні пагубляла галóшаў. *Кам.*

ПЕРАХО'ДАМ (перахóдам) *прысл.* Часова наведвацца куды пры пераходзе, пераездзе. Нéмцы ў нас былі перахóдам, а стаяць не стаялі. Блакáдай тóлькі навéдваліся, бо у нас парцізáнская зóна лічылася. *Белар.*

ПЕРАЦЯ'ЦЬ (перацяць), -н-у, -н-еш; *зак. тр.* Перакусіць. Я ўжо зубáмі нітку перацяў. *Уж.*

ПЕ'РУН (пéрун) *мужч.* Пярун. Нядáўна грымéла, грымéла, пéрун як доў у бярóзу, дык мы з лáўкі ўтрóх паськідываліся. *Р. Ч.*

ПЕ'РЦІ (пéрці), -у, -эш; *незак. тр.* Шпарка бегчы. Куды ты так прэш, што аш пот сь цябé кáпае? *Кам.*

ПІЛІСКА'ЦЬ (пілiскáць), -ю, -еш; *незак. тр.* Пала-

скаць. Вада хлескае па берагу, калі пілiскáеш бялізну, стоячы на кладцы. *Бяс.*

ПІЛІ'КАЦЬ (пілíкаць), -ю, -еш; *незак. тр.* 1. Граць. Мой чалавéк нéкалі пілíкаў на гармóніку. *В. В.* 2. Гаварыць. Пілíкае нéшта сабé пад нос. *В. В.*

ПІ'ЛЬНЯ (пільня) *жан.* Лесапілка. Як будавáлі нóвую хáту, то мой Іван прывёз дóшак с пільні. *Р. П.*

ПІ'МЫ (пíмы). Валёнкі. Зімá скóра. Дзéцям купíць трэ́ба і пальтó зімóвае, і шáпкі, і пімы. *Р. П.*

ПІРУКА'РНЯ (пірукáрня) *жан.* Цырульня. Нáша вёска дабравáта: магазíн, пірукáрня есь, шкóла есь — усё што трэ́ба. *Р. П.*

ПІХТ (піхт) *мужч.* Піхта. Мы стаялі сóрак кілóметраў ад гóрада Іркýцка, ні знáю, як ён цяпéр завéцца, нáтта мнóга кéдра і пíхта. Зімóю яны́ ў іголкі аддзявáюцца, а так урóдзе сухí лес. А калючкі мяккія, зялёна-сівавáценькія. *Белар.*

ПІЦАВА'ЦЬ (піцавáць), -ю, -еш; *незак. тр.* Працаваць. Калі ка мне дзéці прыéдуць, то ні мінýтачкі не пасядзяць. Усё піцýюць і піцýюць па хазяйству, хóчуць, каб мне ляхчэ́й былó. *Бяс.*

ПІЦО'ГА (піцóга) *мужч.* Пісяг. Зусíм нóвы стол, а ўжо стóлькі піцóгаў. *Цяр.*

ПІЯ'ЦЬ (піяць), -я-ю, -я-еш; *незак. тр.* Спяваць. Пэ́ўня, там на лýзе нáшы дзéўкі піялі. *Сак.*

ПЛАМІ'ДНЫ (пламíдны) *прым.* 1. Скваппны. Не буць ты такі пламідны, пламідначыць нікóлі да дабрá не давядзé. *Р. Ч.* 2. *Зневаж.* Чалавек, які вельмі многа есць. Цэ́лы дзень есь і ўсё яму мáла, вот ужо пламідны. *Р. Ч.*

ПЛАТНЯ'К (платня́к) *мужч.* Мажны мужчына. Васíль быў такі харóшы, такі хлóпец быў платня́к, а сухóты ўвабрáлі. *Буз.*

ПЛАЎНІ'К (плаўнíк) *мужч.* Вуда. Куды́ ні зірнéш на ракý, усюды сядзяць рыбалóвы з плаўнікáмі, бо вéльма дóбра ры́ба лóвіцца ў нас. *Р. Ч.*

ПАТУ'ШНІК (патýшнік) *мужч.* Лодка, выдаўбленая

з дрэва. Мы на патушніку во́зера пераплывалі з аднаго́ на другі бе́рах. *Р. Ч.*

ПЛАЦЕ'НАК (плаце́нак) *мужч.* Палатно ў чатыры ніжы, і снавалася і ткалася фарбаванымі ніткамі, узор клетачкай. Тка́лі плаце́нак. Ахварбу́ем ніткі, тады пáрачка зялёная, пáрачка чырво́ная, пáрачка бе́лая снуём — і гэткі ўжо пе́кны плаце́нак вы́ччым на хвальбо́ны, на плáцьці. Бальшынство́ ў два ніты кро́сны былі. А як гэтыя хварбавáныя, плаце́нкі гэтыя, шта ў клётачку, шта снаваць і ткаць гэтым самым,— гэтыя ў чаты́ры ніты ткáлі. *Пап.*

ПЛАЦЕ'НКА (плаце́нка) *ніяк.* Саматканае палатно. Паку́ль с плаце́нка суке́нку пашы́лі, а по́тым што ку́пім. *Ган.*

ПЛЁТАЧКА (плётачка) *жан.* Сплеценая жгутом аснова, пляцёнка. Гэ́тыя кро́сны здо́ймаіш са сьцяны́, спляце́ш у плётачку, бо яны зблы́таюцца. Тады́ гэ́ту плётачку ў вар, вар гэ́ты ў нас луг зва́ўся, а тады́ папя́рыш і су́шыш. *Пап.*

ПЛО'ДНАЯ (плодная) *прым.* У яе было восем трусянят. Во пло́дная! *Р. Ч.*

ПЛО'ЙМА (пло́йма) *жан.* Мноства. Напладзілі дзяце́й пло́йму, а цяпе́р гару́юць. *Уж.*

ПЛЮ'САЎКА (плю́саўка) *жан.* Плюшаўка. Я сваю́ плю́саўку нашу́ толька ў сьвя́та. *Р. Ч.*

ПЛЮ'СКАЎКІ (плю́скаўкі). Канцэлярскія кнопкі. Або́яў самá купіла ў Лаго́йску, але забы́ла, што трэ́ба яшчэ́ клей або плю́скаўкі. *Бяс.*

ПЛЮ'ХА (плю́ха) *жан.* Шампіньёны. Плю́хі, калі іх усмáжыш у мáсьле, то ве́льмі смáчныя. *Ст.*

ПЛЯТА'ННЕ (плятáньне) *ніяк.* Плот, пераплецены тонкімі пруцікамі. Ня лесь на плятáньне, бо заваліцца яшчэ́ мо́жаш. *Р. Ч.*

ПОВШЭ'ХНЫ (повшэ́хны) *прым.* Пачатковы. Ко́нчыў повшэ́хную шко́лу і хвáціць зь мяне́. *Вішн.*

ПО'ГАЛАСКА (по́галаска) *жан.* Гл.: падгало́ска. Вот

пу́сьцілі по́галаску, што арты́сты прые́дуць, а яны́ не прые́халі. *Кальч.*

ПО́ДСВІНАК (по́тсьвінак) *мужч.* Падгадаванае, ладнае парася. У вас, ка́жуць, по́тсьвінак купіць мо́жна? *Нар.*

ПО́ДСІТАК (по́тсітак) *мужч.* 1. Частае сіта. Дзе́ці, дзе гэ́та наш по́тсітак, трэ́ба муку́ се́яць, а яго́ няма́ на цьві́чку́. *Р. Ч.* 2. Шырокі кош з вяровачкамі, у які набіралася жыта для сяўбы. По́тсіткамі се́ялі жы́та і друго́е зерне. *Р. Ч.*

ПО́ЛАГ (по́лах) *мужч.* 1. Посцілка, у якой насілі траву. Вот каб быў у нас по́лах, то мы змаглі́ п сваю́ рабо́ту ху́тко зрабіць, а то но́сіш кашо́м — ве́льмі мару́дна. *Р. П.* 2. Мяшок, у якім носяць траву. А по́лах е́ты ўжо саўсі́м старэ́нькі. *Р. П.*

ПО́МАК (по́мак) *мужч., асудж.* 1. Гультай. Вот по́мак, ляжы́ць і ня паве́рнецца, хоць бы па ваду́ схадзі́ў. *Р. П.* 2. Знесенае вадой бервяно. Хве́дар за дзень вы́лавіў каля дзеся́тка по́макаў. *Чыж.*

ПО́МАЧ (по́мач) *жан.* Дапамога. Табе́ то мая́ по́мач трэ́ба. *Цял.*

ПО́ПЛАЎ *мужч.* Луг. У нас на по́плаві ўжэ траву́ се́юць. *Кам.*

ПО́ПРАДКІ (по́праткі) *толькі мн.* Зборышча, куды збіраліся дзяўчаты і пралі кудзелю. До́ўня мы зьбіра́ліся на по́праткі ў адну́ ха́ту, пра́лі ўсе ра́зам, шчэ хло́пцы прыхо́дзілі, дык саўсі́м ве́села было́. *Р. П.*

ПО́СТАСЦЬ (по́стасьць) *жан.* Постаць. Не́калі па́ні гаво́ра, каб займа́лі ву́зенькія по́стасьці, кап чы́ста ўсё жа́лі. *Бяс.*

ПО́ШАЛКА (по́шалка, по́шылка) *жан.* Навалачка. На сьве́жай по́шалцы дык аш спаць ляхчэ́й. *Бом.*

ПО́ЯС (по́яс) *мужч.* Прыстасаванне, якім замацоўваюцца кроквы. Дом ужо́ ху́тка зако́нчаць, бо застало́ся то́лькі по́яс замацава́ць ды кры́шу накры́ць. *Р. П.*

ПРА́ВІЦЬ (пра́віць), -ўл-ю, -іш; *зак. тр.* Гаварыць,

апавядаць. Мне яшчэ́ та́та пра́віў, што калі пара́ за́муж ісьці, вязу́ць дачку́ на база́р і крыча́ць: «Пасьпе́лая, пасьпе́лая!» Калі ўпадаба́е яе хлапе́ц, дык бярэ́ за́муш. *Мойс.*

ПРАГАВЭ'НДАЦЬ (прагавэ́ндаць), -аю, -еш; *зак. тр, неадабр.* Прагаварыць. Сабра́ліся ды і прагавэ́ндалі цэ́лы час. *Якш.*

ПРАМА'ЗАЦЬ (прама́заць), -у, -аш; *зак. тр.* Прагуляць грошы. Ко́лька яму́ ні дава́й гро́шай, усё ро́ўна прама́жа. *В. В.*

ПРУЦІ'НА (пруці́на) *жан.* Прут, жэрдка. По́мню, у анно́й дзярэ́ўні начава́лі за Брэ́стам. Ву́ліца ро́ўная така́я, а пло́ту ня́ма. Ні анно́й пруці́ны нідзе́ няма́шака, анны́ ака́цыі. Красіва так. *Белар.*

ПРАРЭ'ЗНІКІ (прарэ́зьнікі). Кеды. А вунь прарэ́зьнікі стая́ць, хуччэ́й абува́й. *Р. Ч.*

ПРО'ВАР (про́вар) *мужч.* Бровар. Стары́ ба́яў, даўне́й ту́така про́вар быў, гэ́та зна́чыць вінаку́рны заво́т. *Вішн.*

ПРО'ЛАБКА (пролапка) *жан., перан.* Безнадзейная справа. Сам палес у про́лапку, сам і выбіра́йся. *Ліс.*

ПРО'ЛАМКА (проламка) *жан.* Палонка. Калі ўжо ааддасі ёй што, дык як у яку́ю про́ламку, не спаго́ніш. *Н. К.*

ПРАТАН'ЦЬ (пратану́ць) *зак. тр.* Прапасці. Хай усё тут пратане́, мне ўсё роўна. *Уж.*

ПРО'ША (проша). *Гл.* пажаласна. Про́ша к нам на вячэ́ру, зацірка ўдалася. *Суд.*

ПРО'ШЛАЯ ХАТА. Суседняя хата. Мо́жа вы, дзе́ткі, схадзілі бы ў про́шлую хату? *Р. Ч.*

ПРЫБАЛО'ТКІ. *адз.* прыбалотка. З'ядобныя грыбы́, якія растуць каля балота. Прыбало́ткі — гэ́та грыбы́, што расту́ць каля бало́та. Сма́жаныя яны́ на́тта сма́чныя. *В. В.*

ПРЫГРЭ'БКА (прыгрэ́пка) *жан.* Завалінка. Хадзе́м пасядзім на со́нейку на прыгрэ́пцы. *Ліс.*

ПРЫГРЭ'БКА (прыгрэ́пка) *жан.* Прыбудова над

пограбам. І мóркву, і буракí ў прыгрэ́пку згрузілі. *Ліс.*

ПРЫЖДА'ЦЬ (прыждáць), -у, -эш; *зак. тр.* Дачакацца. Такóга жыццá прыждáлі, што хóчацца жыць. *Кам.*

ПРЫЖУ'РЫЦЬ (прыжýрыць) *зак. тр.* Змяніць колер ад агню, але не прагарэць. Прыжýрала сукéнка на рукавé, а я і не атчýла калí. *Чыж.*

ПРЫЗЫВА'ЦЬ (прызывáць), -ю, -еш; *незак. тр.* Запрашаць. Марыя прызывáла мянé да сябé ў гóсьці. *Кам.*

ПРЫКЛА'ДЗІНА (прыклáдзіна) *жан.* Мянушка.

— А чаму ягá Абэ́хам звáлі?

— Гэ́та такáя вяскóвая былá мянýшка, прыклáдзіна. Быў бéдны саўсíм, дык на ягá нек людзі бóлій нападáлі, прыклáлі гэ́тую мянýшку. *Зал.*

ПРЫЛЕ'ПКА (прылéпка) *жан.* Прыбудóва. Мы за хáтаю прылéпку будýем, там і спаць бýдзем. *Стар.*

ПРЫЛО'ЎЧАНЫЯ (прылóўчаныя) *дзеепрым.* Прыстасавáныя. Мы да такóга жыцьця́ не прылóўчаныя. *Мядз.*

ПРЫМА'КА (прымáка) *мужч.* Прымак. Кáцін прымáка паéхаў на канí, мýсіць, па сéна. *Белар.*

ПРЫНО'ЖЫЦЦА (прынóжыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Стаміцца пасля вялікага пераходу. Ледзь прыйшлí, зусíм прынóжыліся, скарэ́й бы ўпáсьці на лóшка. *Граб.*

ПРЫНЦЭ'СА (прынцэ́са) *жан.* Сукенка з шырокімі фальбонамі. Ганýля шыць умéе, дык і пашы́ла прыгóжую прынцэ́су. *Калод.*

ПРЫПУЦІ'ЦЬ (прыпуцíць), -у, -іш; *зак. тр.* Уладкаваць. Дзéці былí малы́я, мéні клóпату быó, а цяпéр вы́расьлі, прыпуцíць усíх трэ́ба. *Чар.*

ПРЫСІВІ'ЦЬ (прыпуцíць), -у, -іш; *зак. тр.* Забяліць малаком. Малакá не хапáе, чамý ты так слáба суп прысівíла? *Кам.*

ПРЫ'СМЕРАК (пры́смерак) *мужч.* Змярканне. Як éзьдзіла ў Чэ́рвень, дык шла дамóў пры́сьмеркам, вось былó страшна. *Р. П.*

ПРЫРУЧЫ'ЦЬ (прыручы́ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Даручыць. Хве́дару прыручы́лі калга́сны сат вартава́ць, але ён ні згадзі́ўся. *Кам.*

ПРЫ'РЫЎКАМІ (пры́рыўкамі) *прысл.* Прыхваткамі, час ад часу. Ле́там дак яно вядо́ма, пры́рыўкамі толькі — хо́чацца ш і тра́вы пласт які ўкасі́ць. *Белар.*

ПРЫСКІ'ПАЦЦА (прыскі́пацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Прычапіцца. Чаго ты ка мне прыскі́палася? *Чар.*

ПРЫСКРЫ'НАК (прыскры́нак) *мужч.* 1. Шуфляда. Вось у гэтым прыскры́нку ляжы́ць усё то́е, што патрэ́бна табе́, і шмі́нка твая́. *Борк.* 2. Адгародка ў скрыні, куды складваюць мяхі. От ідзі́це, я вам пакажу́ прыскры́нак. Тут мяхі́ ляжа́ць. *Р. Ч.*

ПРЫСТА'ВЫ (прыста́вы) *толькі мн.* Вароты. Нашы прыста́вы са скры́пам зачыня́юцца. *Ган.*

ПЫСТО'ІЦЬ (прысто́іць), -ю, -іш; *зак. тр.* Спыніцца на нядоўга. Здае́цца, прысто́іла на міну́тку, а це́мна ста́ла за́раз жа. *Чар.*

ПРЫ'ТКІ (пры́ткі) *прым.* Хуткі. Ну й пры́ткі ш ты, ужо́ і пасвары́цца ўсьпеў. *Кам.*

ПРЫ'ТНА (пры́тна) *прысл.* Старанна. Пасядзе́ла тры дні пры́тна і пасьці́лкі гато́вы. *Ліс.*

ПРЫ'ТЫЧКАМ (пры́тычкам) *прысл.* Вельмі рана, да ўсходу сонца. Гаро́т зусі́м заро́с, пало́ць нужна́. Я ўну́чцы і гавару́, каб уста́ла ды пры́тычкам і папало́ла, по́куль со́нца не ўзышло́. *Р. Ч.*

ПРЫХАРО'ШАНЫ (прыхаро́шаны) *дзеепрым.* Прыбраны. Малада́я была́ прыхаро́шана, аш зіхаці́ць. *Кам.*

ПРЫЦЫ'ГАНЫ (прыцы́ганы) *прым.* Зусім зморaны. Хаце́ла каня́ прасі́ць, а е́ты конь зусі́м прыцы́ганы. *Р. Ч.*

ПРЫЦЮ'ХКАЦЦА (прыцю́хкацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Прывалачыся. Чаго́ ты сюды́ прыцю́хкаўся, што табе́, німа́ чаго́ рабі́ць? *Кам.*

ПРЫЧАПУ'РЫЦЦА (прычапу́рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр., неадабр.* Прыбрацца. Чака́й яе, калі́ яна́ прычапу́рыцца, і ў кіно́ спо́зьнімся. *Суц.*

ПРЫЧЫДВО'РЫ (прычыдвóры) *толькі мн.* Жарты. Ну й здáтны ш чалавéк на прычыдвóры! *Цял.*

ПСТРО'НГА (пстрóнга) *жан.* Стронга, фарэль. А нáшы вяскóвыя дзéці лéтась нéдзя за Альшэ́вам аглéдзілі малýю рэ́чку і хадзі́лі тудЫ́ лаві́ць пстрóнгу. Нікатóрыя лáднага прынясьлí. *Ст. В.*

ПСТРЫ'КНУЦЬ (пстры́кнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Сфатаграфаваць. Сёньня нас Гáля на пáмяць пстры́кнула. *Кам.*

ПУЗЫ'РЫЦЦА (пузы́рыцца), -у-ся, -ыш-ся. Злаваць. Так ужо пузы́рыцца, лóпня зáрас ад злóсьці. *В. В.*

ПУЛЬГА'ЦЬ (пульгáць), -ю, -еш; *незак. тр.* Кідаць. Жылі мы ў Гермáніі каля лáгера ваеннаплéнных. Хацéлася знаць, мо там éсьціка хто з нáшай дзярэ́ўні, і мы пульгáлі тудЫ́ запíскі ў камéнчыку церас плот. Так Нáдзя і прапытáла, што ў лáгеры быў яе мужы́к. *Бяс.*

ПУ'ДРАЧКІ (пýдрачкі) *толькі мн.* Каляровыя рамонкі. Цэ́лы гарóт пýдрачак насадзíла. *Кам.*

ПУ'НТАМІ (пýнтамі) *прысл.* З перапынкам. Ён жа стамі́ўся, ішоў пýнтамі, таму так дóўга. *Дзям.*

ПУПО'К (пупóк) *мужч.* Прылада ў касе для трымання яе рукой. За пупóк рукóй касý трымаюць. *Р. Ч.*

ПУСКА'ЦЬ (пускáць), -ю, -еш; *зак. тр.* Распаўсюджваць. А ён прышóў да нас у вёску і стаў пускáць сваю агітáцыю. *В. В.*

ПУСКА'ЦЬ ВАЙНУ'. Пачынаць вайну.囗аштó былó пускáць вайнý, стóлькі гóра яна прынéсла людзя́м. *Кам.*

ПУСО'ЛЬ (пусóль) *жан.* Фасоль. Сéлета пасадзíла шмат пусóлі, хóпіць на ўсю зімý. *Кам.*

ПУСТАЛЬГА' (пустальгá) *агульн., неадабр.* Балбатлівы чалавек. Вот ужэ пустальгá, мéле абы-што, як ёй і язы́к не забалі́ць. *Бяс.*

ПУ'ТА (пýта) *ніяк., перан.* Непісьменны чалавек. Чагó ты лаб'ешся з гэтым пýтам. *Кам.*

ПУ'ХНУЦЬ (пýхнуць), -у, -еш; *незак. тр.* Многа спаць. Нічóга не рóбіць, пýхне цэ́лы дзень. *Кам.*

ПУ'ЦКІ (пу́цкі) *адз.* пуцка. Шчокі. Нама́заў пу́цкі чырво́най фа́рбай і стаі́ць як дурны́. *Борк.*

ПЫЛЯНЯ'ТКА (пыляня́тка) *ніяк.* Кураня. Ко́лькі пыляня́так у вас вывелася сяго́лета? У мяне́ ш курыца дурна́я, патапта́ла свае́ пыляня́ты. *Узгур.*

ПЫ'РСКАЦЬ (пы́рскаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Ціха смяяцца. Ты мне тут не пырскай у кула́к, бо я ўсё ро́ўна ба́чу. *Цял.*

ПЫТЛЁ'ЎКА (пытлёўка) *жан.* 1. Працэс, звязаны з ператварэннем зерня ў муку вышэйшага гатунку. І зацягну́лі мы на гэ́ты раз, другі́ дзень пытлёўку зако́нчыць не мо́жам. Пшаніца, жо́рны і сі́тка ўжо перад вачамі стаяць. *Узгур.* 2. Пытляваная мука. Сі́тніцу пяклі́ не́калі с пытлёўкі. Во сма́чная была́. *Цял.*

ПЫ'ШКІ (пы́шкі). Мёрзлая бульба. Пасьля́ зімы́ адны́ пы́шкі засталі́ся ў зямлі́. Мы іх капа́лі і е́лі. *Кам.*

ПЭ'ЙСЫ (пэ́йсы) *толькі мн.* Доўгія валасы. Хаця п пэ́йсы ў касу́ запляла́. *Р. Ч.*

ПЯКО'ТА (пяко́та) *жан.* Спякота. Се́ньня така́я пяко́та, што сьве́ту не ба́чу. *Бяс.*

ПЯЛЁ'ХНУЦЦА (палёхнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Зваліцца. Ма́лец пя́лёхнуўся с ко́йкі і маўчы́ць. *Кл.*

ПЯНЬКО'ЎКА (пянько́ўка) *жан.* Вялікая хустка сваёй работы, ільняная. Пянько́вак цяпе́р дык і ня но́сяць, а даўне́й ба́бу бе́днай лічы́лі, калі свае́й пянько́ўкі ня ме́ла. *Аўг.*

ПЕРАПАРО'ЦЬ (пярапаро́ць), -у, -аш; *зак. тр.* Перавярнуць. Увесь ку́фар пярапаро́ла, а гэ́тай ху́стачкі так і ні знашла́. *Кам.*

ПЯРВЕ'Й (пярве́й) *прым.* Раней. Пярве́й і жыло́ся па-друго́му, не заўсёды сыга́н бу́льбы быў на стале́. *Борк.*

ПЯРХА'ЦЬ (пярка́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Кашляць. Пярха́еш як у бочку, то табе купацца халады́мчаю. *Ліс.*

ПЯРЭ'БІРАК (пярэ́бірак) *мужч.* Ахапак сена. Даў пярэ́бірак се́на на про́бу каро́ві. *Кам.*

ПЯРЭ'ДНЯ (пярэ́дня) *жан.* Вяроўка, якой уціскаюць на возе сена, снапы і інш. Пада́й пярэ́дню, вунь на плóці вісíць. *В. В.*

ПЯЎЧЫ'ЦА (пяўчы́ца) *жан.* Жанчына, што сваімі песнямі славіць маладых на вяселлі. Ста́ршая сва́цьця садзíцца на куцé с пірагóм, а калí пачына́юць пець, зна́чыць, сва́цьця да́рыць пяўчы́цам пірóх, гарэ́лку, канхвéты. *Баг.*

ПЯХО'ТАМ (пяхóтам) *прысл.* Пешшу. Ранéй за 15 вёрст пяхóтам хадзілі, а цяпéр ша́гу ні прóйдзя, на машы́ну патчэ́піцца. *В. В.*

ПЯЧА'ЙКА (пяча́йка) *жан.* Пякота. Нéшта мне ні-дóбра сёньня: нýдзіць і пяча́йка пячэ́. *Цял.*

ПЯЧКУ'Р (пячкýр) *мужч.* Пячнік. Прышóў да нас пячкýр нóвы, аднéкуль здалёк, дóбрыя пéчы рóбіць. *В. В.*

## Р

РА'БІК (ра́бік) *мужч., лаянк.* Чалавек з рабаціннем на твары. Ён мнóга спóрваў гняздóў ла́стаўчыных, тамý і рабы́. Усе завýць ягó ра́бік. *Р. Ч.*

РАГАВІ'К (рагавíк) *мужч.* Сала з галавізны. Ка́ыць: «Ну чым жа ты цыга́начку надóрыш?» А мы якра́з кабана́ закалóлі, дак я дýмаю, шкóда, ці што, да гэтыя пашчэ́нкі як абраза́ў, панімáяцця, рагавíк, гэ́тая са́ла прынёс і кажý: «На́ табе, цыга́начка, і ідзí». Дак яна́: «Э-э-э, дзя́цька, не, я ні вазьмý, панімáяцця, янó жы́рная. Да́йцця лéпяй бýльбы». Відзіш, як зьмянíлася цяпéр жыццё. Эта ш каб э́та пры Пóльшчы я гэ́такі рагавíк са́ла цыга́нкі адда́ў! Быць такóга ні магло́! *Мік.*

РАГАВІ'ЧКА (рагавíчка) *жан.* Сурвэтка. Мая́ ма́тка вéльмі дóбра вышыва́я рагавíчку. *В. В.*

РАГА'Ч (рага́ч) *мужч.* Керагаз. Сусéтка скáрдзілася, што ў яе дрэ́нны рага́ч, нéльга звары́ць па́есьці. *Р. Ч.*

РАГО'ЖА (рагóжа) *жан.* Мачалка. Куды́ ж гэ́та вы ў ба́ню без рагóжы пайшлí? *Борк.*

РАГО'ЖНІК (рагóжнік) *мужч.* Явар. Вось сьвя́та бывáе вясно́й, тады́ рагóжнік расьсьцілáюць у хáце, каб лéпей было́. *Р. Ч.*

РАДАВА'Я РАДЗЮ'ГА. Тканая у рады дзяруга. Радавы́х дзьве тóлькі вы́ткала, бо не патрэ́бна больш. *Кукш.*

РАДЗІ'НЫ (радзíны) *толькі мн.* Хрэсьбіны. Ху́тка да цёткі на радзíны паéдзям. *В. В.*

РАДЗЮ'ГА (радзю́га) *жан.* Дзяруга. Ну й наткáла ж я цяпéр радзю́х, усíх дачóк адару́. *В. В.*

РАЗАНЫ' (разаны́) *толькі мн.* Абчышчаная бульба. Навары́ла сёньня разаноў, то до́бра наéліся, сáла нажáрыла по́ўную скавараду́, макáлі разанáмі і елі. *Бяс.*

РАЗ-ДВА (раз-два) *прысл.* Вельмі хутка. Бяжы́, сынóк, да Сымóніхі і хай раз-два іду́ць! *Дзям.*

РАЗБАЗЫ'РЫЦЬ (разбазы́рыць), -ю, -еш; *зак. тр.* Разбэсціцца. Адзін хлóпяц сярóт дзяўчáт, дак так разбазы́рыў, што аш стрáшна. *Цял.*

РАЗА'К (разáк) *мужч.* Асака. Лéтась мы хоць разаку́ вазы́ два накасілі. *Кам.*

РАЗБУРЫ'ЦЦА (разбуры́цца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Абрадзіцца. Вунь Гэ́льчына нявéстка ўжо разбуры́лася, хлóпчык у яе. *Р. Ч.*

РАЗВА'ЖЫЦЬ (развáжыць), -ж-у, -ж-ыш; *зак. тр.* Развесяліць. От бáпка, як пагавары́ла са мнóй, так развáжыла мяне́. *Зайцы.*

РАЗГУЛЬТА'ІЦЦА (разгультáіцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Разленавацца. Як ён ду́мае жыць, зусíм разгультáіўся: тóлькі б вы́піць ды паспáць увóлю, а рабóту хто бу́дзе рабíць? *Узгур.*

РАЗЕ'ВА (разéва) *жан., зневаж.* Разявака. І што ета за чалавéк, заўсёды́ спазня́ецца, куды́ б ён не ішоў, нездармá яго і заву́ць у вёсцы разéвай. *Р. Ч.*

РАЗІ'НЬКА (разíнька) *агульн., зневаж.* Няспрытны, някемлівы чалавек. Ні дзяўчы́на, а разíнька нéйкая расьцé. *Цяр.*

РАЗІ'НУЦЦА (разíнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Падняць крык, лаянку. На ўсё поле разíнулася. *Ліс.*

РАЗЗЯ'ПІЦЬ (разьзяпіць), пл-ю, -іш; *зак тр.* Разявіць. Разьзяпіць рот і хóдзіць, мух лóвіць. *Ліс.*

РАЗРАБІ'ЦЦА (разрабíцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Распаўнець. Вот Гáнна разрабілася, як печ тóўстая. *Цял.*

РАЗУМО'К (разумóк) *мужч.* Разумны. Ой, мой малéнькі разумóк! *Хож.*

РАКЧЫ'СЯ (ракчы́ся) *незак. тр.* Адракчыся. Ні хóчаце ракчы́ся дзяцéй, як Іван. *Кам.*

РАМАЦІ'ЗМА (раматы́зма) *жан.* Рэўматызм. Ранéй, дык і я памагáла дачкі карóўку хавáць, а цяпéр старáя, не магý, раматы́зма ў мяне ў нагáх. *Белар.*

РАМІ'ЗНІК (рамíзьнік) *мужч.* Чалавек, які званіў у час пажару. У нас былí такія рамізіі, там быó прыкрэплена жалéза, і ў час пажáру рамíзьнік быў напагатóве і званíў, будзíў людзéй на пóмач. *Р. Ч.*

РАНДЭ'ЛЬКА (рандэ́лька) *жан.* Каструлька. Ранéй у гаршчакáх вары́лі éсьці, а цяпéр у рандэ́льках. *Уж.*

РАПТУ'Х (раптýх) *мужч.* Торба, у якую кладуць сена, калі едуць куды-небудзь. Раптýх не забы́ў? Бяры́ марынáрку ды паéхалі. *Борк.*

РАСКІДА'ЦЬ (раскідáць), -ю, -еш; *незак. тр., перан.* Раздзяваць. Не раскідáй яе, бо яна прастýдзіцца скóра. Гэ́та катóра дзіця́ прывы́кшы, дык яму нічóга. *Р. Ч.*

РАСКО'Л (раскóл) *мужч., неадабр.* Гарэза. Ну й раскóл расьцé, вунь па лýжынах шлёпае. *Зап.*

РАСКЯПІ'ЦЬ (раскяпíць), -пл-ю, -п-іш; *зак. тр.* Раскалоць, расшчапіць. Раскяпі палéна на трэ́скі. *Дук., Чар.*

РАСПАДА'ЦЦА (распадáцца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Разрывацца. Стóлькі рабóты лéтам, што хоць ты распадзíся, а ўсю не перарóбіш. *Кук.*

РАСПАХА'ЦЬ (распахáць), -ю, -еш; *зак. тр.* Разарваць. Ён кінуў у мяне сьнéгам, дык я яму за гэ́та распахáла прарэ́з у рубáшцы. *Кам.*

РАСПРА'ЖЫЦЦА *зак. тр.* Разварыцца. Та́я бу́льба, што распра́жыцца, ве́льмі сма́чная. *Кам.*

РАСПЫТА'ЦЦА (распыта́цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Запытаць. «Пайду́ распыта́юся ў яе, ці пра́ўда гэ́та».— «Ну што, распыта́ўся?» *Вішн.*

РАСПЭ'ЙКАЦЬ (распэ́йкаць), -аю, -еш; *зак. тр.* Растраціць. Пайшла́ на база́р і ўсе гро́шы распэ́йкала. *Раўч.*

РАСТУ'ЧЫ (расту́чы) *прым.* Той, хто хутка расце і размнажаецца. А гэ́ны вазо́н мне з Украіны прывязьлі́. Ён расту́чы такі́. Адрэ́жу флянс с адно́й старані́, глянь, а ён ужо́ з друго́й расьце́. Красі́ва так цьвіце́. *Бяс.*

РАССАХАВІ'ЛЫ (рассахаві́лы) *толькі мн.* Драўляныя вілы на два зубы. Я'ська, бяры́ рассахаві́лы ды йдзём ржы́шча склада́ць. *Заб.*

РАСТО'РКАЦЬ (расто́ркаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Раздаць пакрыху. Расто́ркала ўсё семяно́, а цяпе́р сабе́ няма́. *Чар.*

РАСПУ'СТА (распу́ста) *жан.* Разводная жанчына. Пражыла́ ўвесь век распу́стаю. *Ліс.*

РАСТУ'РКАЦЬ (расту́ркаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Разбудзіць. Як зава́ліцца на се́на, не расту́ркаць. *Ліс.*

РАСХЛЯБА'СТАЦЬ (расхляба́стаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Разбіць. От дурні́ца, расхляба́стала таку́ю мі́ску, і дзе ў цябе́ во́чы былі́. *Бяс.*

РАСХО'ДАЦЬ, -ю, -еш; *зак. тр.* Растраціць. Яна́ дзе́сяць рублё́ў расхо́дала. *Цял.*

РАСХРЫ'СТА (расхры́ста) *агульн., неадабр.* Чалавек, які ходзіць заўсёды ў расшпіленай вопратцы. Зашпілі́ся, расхры́ста ты. *Кам.*

РАСШУМАЦЕ'ЦЬ (рашшумаце́ць), -ч-у, -іш; *незак. тр.* Разарваць (на кавалкі). Рашшумаце́ла пісьмо́, а цяпе́р сама шкаду́еш. *Узгур.*

РАСЦЯРО'Б (расьцяро́п) *мужч.* Высечаны ўчастак лесу. На расьцяро́бах цяпе́р пазё́мак мно́га. *Бяс.*

РАЎЗЬНЯ' (раўзьня́) *агульн.* Плакса. Што з гэ́тай раўзьнё́й рабі́ць, нія́к ні супако́іцца. *Кам.*

РЖО'ННЕ (ржо́ньне) *толькі адз.* Ржышча. Ржо́ньнем етым мо́жна ўсе но́гі скало́ць. *Бяс.*

РО'ДЖАНЫ (ро́джаны) *дзеепрым.* Народжаны. Ро́джаны казяня́ быў зусі́м мо́крый і мале́нькі-мале́нькі. *Хал.*

РО'ДЗІНА (ро́дзіна) *жан.* Род. Сяга́ньня ў на́шай дзярэ́ўні вясе́льля пачына́ецца. Бярэ́ Максі́маў Ва́ська дзяўчы́ну з до́брай ро́дзіны. *Заб.*

РО'ДНЯ (родня) *жан.* Радня. Ва ўсі́х ро́дня не́йкая е, а я адна́. *Кам.*

РО'ІЦЦА (ро́іцца) *незак. тр.* Трызніцца. Ро́ілася пра сы́на ўсю ноч. *Ліс.*

РО'НДАЛЬ (ро́ндаль) *мужч.* Каструля з ручкай. Вазьмі́це, дзе́ці, у мяне́ гэ́ты ро́ндаль. *Кам.*

РО'ЙМА (ро́йма) *жан.* Беспарадак. Што гэ́та за ро́йма ў вас у хаце? *Чар.*

РО'ЧНІК (ро́чнік) *мужч.* Аднагодак. Вось гэ́ты то́фель мой, ро́чнік, ко́лькі я тут жыву. Як прые́хаў у Вялікія Гая́ны — і зра́зу паса́дзіў. Ко́лькі я жыву́ тут, сто́лькі ён расьце́ на мае́й сядзі́бе. *Белар.*

РО'ШАНЫ (ро́шаны) *дзеепрым.* Вырашаны. Ро́шаны ў цябе́ пры́клады? Тады́ кні́гу прынясу́. *Чыж.*

РУБІ'НКА (рубі́нка) *мужч.* Рубец тканіны. Дошч так намачы́ў, што сухо́й рубі́нкі ні было́. *В. В.*

РУКО'ЎКА (руко́ўка) *жан.* Рукавіца. Мо́ўра, глянь які́я я табе́ руко́ўкі купі́ў у кра́ме. Цяпе́р твае́ ру́кі ме́рзнуць не бу́дуць. *Узгур.*

РУ'МЗАЛА (ру́мзала) *агульн., лаянк.* Плакса. Вот ру́мзала гэта, цэ́лы дзе́нь ру́мзая. *Кам.*

РУНО' (руно) *ніяк.* Воўна. Зняла́ руно́ с аве́чкі. *Р. Ч.*

РУ'ХНУЦЬ (ру́хнуць) *зак. тр.* Валам паваліць. У нас кусты́, ай-ей, ско́лькі малі́н! Як малі́ны пасьпе́юць, вот тагды́ ру́хнуць у лес і свае́ і зь Мі́нску! Хто на аўто́бусе, а хто на машыне́ свае́й ка́ціць. Е'дуць і свае́, і нача́льнікі ўся́кія е́дуць. *Белар.*

РУ'ЦЬВІНА (ру́цьвіна) *жан.* Балота. Ру́цьвіна там страшэ́нная, асьцяро́жна хадзі́. *Гіл.*

РУЧЭ'ЙКА (ручэйка) *жан.* Шэсць жмень змятага ў церніцы лёну, ачышчанага ад кастрыцы. Такія дрыўляныя мяліцы былі, шырокія, і на гэтых мяліцах мы тром лён, дзіўчаткі якія там няўмейкі. А посьлі нас бабы старэйшыя чысьцяць на такія мяліцы вускія. Ужо вычысьцяць ягá і вяжым ягá гэдык: гэтыя вычышчаныя жменькі складваім жменька да жменькі, шэсьць жменяк — гэта ручэйка. *Пап.*

РУ'ХАЦЬ (рухаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Ісці. Ужо вечар, трэба дамоў рухаць. *Кам.*

РЫЖА' (рыжа) *жан.* Іржа. Усё вядро рыжа паела. Новае нада купіць, ды ехаць за ім далёка, ды і няма калі. *Дзям.*

РЫЗІНКА (рызінка) *жан. Гл.* адымалка. А мой Ю'зінька як астаўся за гаспадыню, так я во ні магу знайсьці ні адной рызінкі. Чым тут выцягнуць саганы с печы? *Яц.*

РЫ'НКА (рынка) *жан.* Міска. Як цябе сабірала, рынку разьбіла і цяпер няма ў што ўліць булён, хоць ты на скавараду лій яго. *Рудн.*

РЫ'ПАЛКА (рыпалка) *жан.* Дрэнны гармонік. Рыпалка, а не музыка, кінь ты ўжо. *Буз.*

РЫ'ШТА (рышта) *жан.* Канава. Пераскочыў рышту і пабег далей, ці ж дагоніш яго? *Масц.*

РЭ'ГУЛ (рэгул) *мужч.* Канец. Ядуць, ядуць і рэгулу ім няма. Трэба які рэгул мець, а то есьці вам ні набрацца. *Уж.*

РЭДЗЬ (рэць) *жан.* Столка. У мяне пасьцілка ў дьве рэдзі была. *Р. Ч.*

РЭ'ДКІ (рэткі) *прым.* Рэдкі. Узышло жыта і такое рэткое, такое рэткое, ну зусім. *Чыж.*

РЭ'ЗАЦЬ (рэзаць) *незак. тр.* Балець. Так рэжа жывот, што спасу німа. *В. В.*

РЭ'ХВА (рэхва) *агульн., зневаж.* Дурань. Рэхва нейкі, а ні чалавек, кручок выпіў і ўжэ так брыдка вось п'яны. *Дзям.*

## С

САГАНО'К (саганóк) *мужч.* Чыгунок. Дзе ш той стары́ саганóк дзéўся? Німá ў чым бýльбы звары́ць. *Уж.*

САГЛА'СЬСЕ (сагла́сьсе) *ніяк.* Згода. Маé дзéці ў сагла́сьсе жывýць, гля́нуць хóраша. *В. В.*

САГЛУМІ'ЦЦА (саглумíцца). Сапсавацца. Сáла занясí ў кадóпчык палажы́, каб ня саглумíлася. *Кухц.*

САГРАБА'ЦЬ (саграбáць), -аю, -еш; *незак. тр.* Зграбаць. У нас перш сéна ў кýчы саграбáюць, кап заты́м хучэ́й у стагí ці кóпы клáсці. *Гіл.*

СА'ДЗІЦЬ (сáдзіць) *незак. тр.* Ідзе (аб вялікім снезе). Ты глядзі, які сáдзіць, страшэ́нна. *Руб.*

САЛАДУ'ХА (саладýха) *жан.* Хлебны квас. Нарабіла саладýхі аж чаты́ры жбáнкі, дык мéншы і не адахóдзіцца — нáтта ж любіць: пабéгае пабéгае і за жбан. *Бяс.*

САЛАМЯ'НКА (саламя́нка) *жан.* Самаробны палавік з нітак і саломы. У іх уся́ хáта ў саламя́нках, бо самá ш тчэ. *Мац.*

САЛО'ХА (салóха) *жан., неадабр.* Неахайна апранутая жанчына, дзяўчына. Аднá дачкá, і тáя салóха нéйкая, нічóга надзéць ня мóжа. *Буз.*

САМ ПРАЗ СЯБЕ. Самастойна. Сам прас сябé навучы́ўся ігрáць на бая́не. *В. В.*

САЎЧУНЫ (саўчунэ́) *адз.* саўчун. Бліны. Я да мачáнкі яшчэ́ саўчунóў напяклá, бýдзем мáзаць. *Кам.*

САРАКІ' (саракí) *толькі мн.* Сорак дзён пасля смерці чалавека. Праціўна, калí на саракáх нап'юцца і пяю́ць. *Р. П.*

САРГА'Ч (саргáч) *мужч.* Свіное карыта. Я люблю́, каб і ў свінéй былó чы́ста. Унь і саргачы́ ў мянé чы́стыя. Кóжны рас мы́ю, як сьвíньня́ пад'ядýць. *Р. Ч.*

САЎГА'ЙЛА (саўгáйла) *агульн., зневаж.* Нервовы неспакойны чалавек. Саўгáйла ты, мéсца табé нікóлі ня знóйдзіцца пасядзéць, усё хóдзіш туды-сюды. *Бяс.*

СА′ХАРНІЦА (са́харніца) *жан.* Гарэлка, выгнаная з цукру. Ад гэтай са́харніцы вельмі галава́ баліць. *Бяс.*

СА′ЧАК (са́чак) *мужч.* Жакет. Адзе́нь са́чак і шатыно́ўку, яна́ табе́ да тва́ру. *Пал.*

СВАДНЯ′ (свадня́) *жан., неадабр.* Пляткарка. І што ета за жанчы́на? Усё сплётні свадня́ разносіць. *Р. Ч.*

СВІСТУ′ЛЬНІКІ (свісту́льнікі) *толькі мн.* Малыя дзеці. Гэтыя сьвісту́льнікі то́лькі кру́цяцца пад рука́мі. *Кам.*

СВО′ЙЧЫК (сво́йчык) *мужч.* Трубка палатна. У мае́ кумы́ яшчэ два сво́йчыкі палатна. *Кам.*

СЕ′РЧЫКІ (се́рчыкі) *толькі мн.* Запалкі. На васімна́сьця капе́як дам сярчыко́ў.— Васімна́сьця пу́шак мо́жа я і ў су́мку ні ўлажу́. А мо́жа й зьме́йсьцяцца? *Ст. В.*

СІНЮ′ХА (сінюха) *жан.* Грыб-паганка. Ніку́ды ён не ва́рты, нават у грыба́х не разьбіра́ецца якія до́брыя, сіню́х назьбіра́ў і цешы́цца. *Узгур.*

СІТЦО′ (сітцо́) *ніяк.* Сузор'е Дзевы. Наш наста́ўнік гавары́ў, што гэта віда́ць на не́бе Сітцо́, а як па-ва́шаму — ня ве́даю. *Бар.*

СІ′ЎЧЫК (сі́ўчык) *мужч.* Дзірван. Вы́пусьцілі ко́ней на сі́ўчык, хай тро́ху папа́сьвяцца. *Дубр.*

СКА′ЗУВАЦЬ (ска́зуваць), -ю, -еш; *зак. тр.* Казаць. У нас ска́зуюць па-ро́знаму, але ш ні ўсе. *В. В.*

СКА′БКІ (скапкі) *адз.* скабка. 1. Пасечаныя рэбры парсюка. Трэ́ба зжа́рыць ска́бак с пяць і хо́піць нам. *Прудз.* 2. Стрэмка. Загна́ў ска́пку ў па́лец, балі́ць на́тта. *Чар.*

СКАКУ′ХА (скаку́ха) *жан.* Жанчына, якая любіць танцаваць. Ну і скаку́ха ш Касьцючы́ха была́. Ні адны́ та́нцы без яе не абхо́дзіліся. *Бяс.*

СКАРА′Ч *мужч.* Ручнік для выцірання рук. Дачу́шка, вы́тры ру́кі скарачо́м. *Кам.*

СКАРО′МНІНА (скаро́мніна) *жан.* Сала, тлушч. Хоць бы доў якую скаро́мніну, ато паста́віў суху́ю карто́шку. *Кам.*

СКАРО′МНІЦА. *Гл.* скаро́мніна. У мяне́ шчэ шмат скаро́мніцы е́сьцяка. *Кам.*

СКА′ЧКІ (ска́чкі) *толькі мн.* Вечарынка. Зьбіра́йся ды на ска́чкі по́йдзем, ка́жуць, сёньня хло́пцы з Ру́дні іграць бу́дуць там. *Узгур.*

СКЛІЗО′ТА (склізо́та) *жан.* Слізгота. На ву́ліцы склізо́та — на нага́х не ўсто́яць *Р. Ч.*

СКЛО′ПКА (скло́пка) *жан., асудж.* Жанчына, яка́я любіць многа гаварыць. А гэ́та скло́пка ўсё бе́гае па сяле́ і ме́ле языко́м. *Бяс.*

СКНЭ′РА (скнэ́ра) *агульн., неадабр.* Скнара. От скнэ́ра, дык скнэ́ра! У яе ні вы́рвіш ніч́ога. *Нар.*

СКО′БЛЯ *жан.* Прылада для саскрабання кары з дрэва. Пазы́ч, Іван, мне сваю́ ско́блю. *Кам.*

СКО′РАМ (ско́рам) *мужч.* Сала, здор, тлушч. Вы́шаў ско́рам, то трэ́ба гуркі́ і цыбу́лю е́сьці. *Уж.*

СКО′ЧКА (ско́чка) *жан.* Дзіцячая гульня «ў класікі». Усе малы́я дзе́ці ве́льмі ж лю́бяць у ско́чку гуля́ць. *Борк.*

СКРОЗЬ (скрось) *прысл.* Усюды. Цяпе́р скрось лю́дзі добра жыву́ць, аране́й не так было́. *Кук.*

СКУ′БСЦІ (ску́бсьці), -у, -еш; *незак. тр.* Кляваць. «Ну як, рыбакі́? Скубе́ць сяго́ньня?»—«Кажу́ць, лаві́лі на Малы́х Шва́кштах на шы́ціхаў, до́бра ску́бла». *Ст. В.*

СКУ′РЧЫЦЬ (ску́рчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Скамячыць. Як хапі́ла мяне́ злосць, вы́рвала я ў яго́ з рук гэ́тую са́мую бума́шку і ску́рчыла яе. *Кам.*

СЛА′БА (сла́ба) *прысл.* 1. Дрэнна. Сла́ба яны́ рабі́лі, таму́ і ма́ла палучы́лі. *Р. Ч.* 2. Мала. Муж мой сла́ба гро́шай зарабі́ў у гэ́тум ме́сяцы. *В. В.*

СЛАБО′Е (малако́) *прым.* Малако, якое лёгка выдойваецца. На́шу каро́ўку до́бра даі́ць, бо малако́ слабо́е, а ў Ганусі ад яе каро́вы дык па́льцы баля́ць. *Гіл.*

СЛАНЁ′ВІКІ (сланёвікі) *адз.* сланёвік. Сандалі. У сыбо́ту жы́нка е́гдзіла на кірма́ш, купі́ла сланёвікі, але я іх прадо́ў. Так ці́снулі, про́ста як за сэ́рца ці́снулі. *Заб.*

СЛАНІ'НА (сланіна) *жан.* Сала. Зарэ́залі кабана́, сланíна на сьпіне́ ў пяць па́льцаў была́. *Бяс.*

СЛОН (слон) *мужч.* Услон. Сяда́й паку́ль на сло́н і чака́й, я за́рас. *Прудз.*

СЛО'НЧЫК (сло́нчык) *мужч.* Услончык. Васіль, як бальшы́, сядзíць на сло́нчыку і абува́ецца. *Прудз.*

СЛУ'ЖАЧКА *жан.* Дачушка. На, слу́жачка, табе́ малака́. *Кам.*

СЛУ'ЖКА (слу́шка) *жан.* Нявестка. До́брая табе́ слу́шка папа́лася, усё чы́ста сама́ ро́біць. *Кам.*

СЛУХ (слух) *жан.* Чутка. Слух хо́дзіць, што перамо́га ху́тка. *Войр.*

СЛЫ'ШКА (слы́шка) *жан.* Вестка. Слы́шка хо́дзіць, што ён ско́ра ве́рнецца дадо́му. *Граб.*

СМО'ЛКА (смо́лка) *жан.* Малодзіва. Ху́тка каро́ва мая́ цяліцца бу́дзя, а смо́лкі дае адну́ ка́плю. *Гіл.*

СМОЛЬ (смоль) *жан.* Кавалкі дрэва для падпальвання. Схадзіў бы ты, сыно́к, прынёс смо́лі, трэ́ба насячы́ яшчэ́ на зіму́, а то застане́мся так. *Р. Ч.* Смалістыя трэскі, якімі падпальваюць дровы. Трэ́ба смо́лі нарыхтава́ць к зіме́, а то ні бу́дзе чым у пе́чы падпа́льваць. *Цял.*

СМЫ'ЖЫЦЬ (смы́жыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Гатаваць ежу. Сёньня цэ́лы дзень смы́жыла пачасту́нкі для гасьце́й. *Кам.*

СМАЛІНА' (смаліна́) *жан.* Тонкія дровы для распальвання ў печы. Пайшо́ў бы ты, сыно́к, нашчапа́ў смаліны́. *Кам.*

СМА'ЛІЦЬ (сма́ліць), -ю, -іш; *незак. тр.* Моцна хацецца. З жа́ру так і сма́ліць, каб вы́піць кваску́. *Кам.*

СМАЛІ'ЦЬ (смаліць), -ю, -іш; *незак. тр.* Курыць. Што ты сма́ліш гэ́ту лю́льку цэ́лы дзень? *Кам.*

СМІ'РНЫ (сьмірны) *прым.* Ціхі маўклівы чалавек. Мікала́й такі́ ужо сьмі́рны. Лішняга сло́ва ні ска́жа, ніко́га ні пакры́ўдзіць. *Бяз.*

СНАВА'ЦЬ (снава́ць), -ну-ю, -ну-еш; *незак. тр.* Ха-

дзіць без работы. І чаго́ ты снуе́ш тут цэ́лы дзень? Што табе́, рабо́ты німа́? *Прудз.*

СНО'ЎДАЦЦА. *Гл.* Снаваць. Хадзіць без справы. Чаго́ ты сно́ўдаясься тута́ка? *Кам.*

СО'ЎГАЦЦА (со́ўгацца), -ю-ся; *незак. тр.* Хадзіць без справы. Со́ўгаяцца цэ́лы дзень, гульта́й гэ́ты. *Дук.*

СО'ЎКАЦЬ (со́ўкаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Песціць. Ба́пка адно́ то́лькі і ро́біць, што ўну́ка со́ўкае. *Пільк.*

СО'ЎНЕЙКА (со́ўнейка) *ніяк.* Сонейка. Сё́ньня бу́дзя вясё́лы дзянё́к, з са́мага ра́нку сьве́ціць со́ўнейка. *Карш.*

СО'ПУХА (со́пуха) *жан.* Сажа. А со́пухі насы́палася с ко́міна! *Уж.*

СО'СКА (со́ска) *жан., перан.* Папяроса. Мой Міхе́т гэ́ту со́ску з ро́та ні выпуска́я. *Кам.*

СПАГО'ДНАСЦЬ (спаго́днасць) *жан.* Спачуванне. Які́я вы чэ́рствыя, німа́ ў вас спаго́днасьці да людзе́й. *Цял.*

СПАГНА'ЦЬ (спагна́ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Вярнуць назад. Укра́лі ў мяне шчанё́, дык я за́ўтра спаганю́ яго наза́т. *Бяс.*

СПАС (спас) *мужч.* Ратунак. Няма́ спа́су ад лісы́, усіх кур перавало́чыць. *Дзям.*

СПАХНЕ'НЦАВАТЫ (спахне́нцаваты) *прым.* Пахучы ад вялікай колькасці прыпраў. Такі́ спахне́нцаваты суп, такі́ сма́шны, што за ву́шы не аццягне́ш. *Кам.*

СПЛА'ВІЦЬ (спла́віць), -ўл-ю, -іш; *зак. тр.* Згубіць. Зо́ська бра́таву кні́гу спла́віла, а тако́й нідзе́ няма́шака. *Даўг.*

СПЛАСЦІ'ЦЬ (сплась́ці́ць), -ч-у, -іш; *зак. тр.* Нагрэбці пласт сена. А па́рабак спласці́ў пласт се́на і піхце́ль яго́ ў раку́, ка́жыць: «А я сваей каро́вя нясу́, бо я гэ́та то́лькі п'ю». *Мік.*

СПРАВЕ'ДАЦЬ (справе́даць), -ю, -еш; *зак. тр.* Праведаць. Захаце́ў паглядзе́ць ро́дныя мясьці́ны і вось — справе́даў вас. *Руб.*

СПРАЎЛЯ'ЦЬ (спраўля́ць), -яю, -я-еш; *зак. тр.* Ад-

праўляць. Вот на днях з нáшай вёскі 25 чалавéк у áрмію спраўлялі, вéсела было́. *Р. Ч.*

СПРА'ЎНА (спрáўна) *прысл.* Добра. Спрáўна рóбіць маладзіца, ні паткапáісься, ды чаму́ не, калі і бáцька і мáтка працавíтыя. *Сак.*

СПРЭС (спрэс) *прысл.* Зусім. Ён быў спрэс маладым. *В. В.*

СПУ'ЛКА (спу́лка) *жан.* Суполка. У спу́лца рабілі. *Цар.*

СПЫ'ТАЦЬ (спытаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пакаштаваць. Ён і не спытае нават, а адрáзу лóшку кладзé. *Чыж.*

СПЯША'КА (сьпяшáка) *жан., агульн.* Чалавек, які заўсёды спяшаецца. А гэты Іван вéчны сьпяшáка, увесь час ён сьпяшыць, няма яму супынку. *Бяс.*

ССАДЗІ'ЦЬ (ссадзíць), -дж-у, -іш; *зак. тр.* Збіць. Ссадзіла пáлец, цяпéр хаджу́ і кульгáю. *Кам.*

ССО'РЫЦЬ (ссóрыць), -у, -ыш; *зак. тр. Гл.* сплавіць. Дзе ты мой карабóк ссóрыў? Кап тут зáраз быў! *Нав.*

СТАВІЧКІ' (ставічкí) *адз.* ставічок. Дзіцячыя туфлікі. Малышу́ нóвыя ставічкí абу́лі, усё глядзíць на іх. *Борк.*

СТАГА'Н (стагáн) *мужч.* Стакан. Я яшчэ вып'ю стагáн чáю, толькі саладзéйшага. *Узгур.*

СТАЁ'НКА (стаёнка) *жан.* Дзіцячая стойка. Прынясі с тэй хáты стаёнку, хай дзіця́ пастаíць. *Цяр.*

СТАЛЬНІ'ЧКА (стальнíчка) *жан.* Падстаўка пад скавараду. Пастóў скавараду́ на стальнíчку. *Цял.*

СТАЛЮ'ГА (сталю́га) *жан.* Прылада, на якой што-небудзь стругаюць. Дачу́шка, ідзі набяры́ стру́жак пад сталю́гай, у пéчы ўжо парá палíць. *Р. Ч.*

СТАЛЮ'ГІ (сталю́гі) *толькі мн.* Казлы для пілавання дроў. Нясі сталю́гі на дрывóтню, бу́дзем дрóвы рэзаць. *Мац.*

СТАНАВІ'ЦЬ (станавíць), -ул-ю, -іш; *незак. тр.* Будаваць. Гэты гот у Ліцьвя́нах станóвяць нóвую школу кірпíчную. *Кам.*

СТА'НІК (стáнік) *мужч.* Безрукаўка на ваце. Хóлад-

на ўво́сень бу́льму капа́ць, дажджы́, вот і надзява́ем ста́нік. А ззаду й аўчы́нку дасі, кап цяплей было. *Нав.*

СТАНО'К (стано́к) *мужч.* Луг паміж балотамі. Хадзі на той стано́к ды ўкасі тро́хі каро́ве, а то ма́ла се́ньня напасла́ся. *Р. Ч.*

СТАНІ'НА (станíна) *жан.* Палатно ў 18 пасаў на стан кашулі. Жанкí палатно ткáлі ў 18 пасам, такíя станíны палуча́ліся, на стан кашу́лі ішло, перат і зат. Гэ́та ўжо станíна, як мы зва́лі. *Пап.*

СТАНКІ' (станкí) *толькі мн.* Козлы, на якíх пілуюць дровы. Сёньня з ра́ніцы мой Ко́ля ўсе дро́вы на станка́х папілава́ў. *Кук.*

СТАРАНА' (старана́) *жан.* 1. Месца ў таку, куды складаюць неабмалочанае збожжа. Ток наш вялíкі быў, і во́сеньню заўсёды поўная старана́ збо́жжа ляжа́ла. *Гіл.* 2. Палавіна хлява, дзе складаюць сена. Як накладзе́ш гэ́ту старану́ се́на, дык хапа́е на дзве каро́вы. *Кам.*

СТАРА'ННІЦА (стара́ньніца) *жан., адабр.* Старанная жанчына. Така́я яна́ ў нас стара́ньніца, усё ўме́е, усё зро́біць. *Хал.*

СТА'ТНЫ (ста́тны) *прым.* Добры. Яму далí ста́тную работу. *Кук.*

СТАРЫ' КАВАЛЕ'Р. Халасцяк у гадах. Дваю́ранны брат у мяне́ ё, ко́мната ў яго́ свая́ і матацы́кл ё, а жаніцца не хо́ча, мусіць, застане́цца стары́м кавале́рам. *Бяс.*

СТАЎБУ'Н (стаўбу́н) *мужч.* Вялікі гліняны збан. Цэ́лы стаўбу́н малака́ паста́віла на сьмята́ну ды на ма́сла. *Мац.*

СТАЯ'К (стая́к) *мужч.* Грубка. А пячнíк до́бры стая́к нам зрабíў, тро́шкі прапа́ліш і цёпла ў ха́це. *Кам.*

СТО'ЛІК (сто́лік) *мужч.* Шуфляда ў сталé. Аткры́й сто́лік ды пашука́й, там Пе́цява ру́чка ляжа́ла. *Сям.*

СТО'ЎБЧЫК (сто́ўпчык) *мужч.* Драўляная сальніца. Пада́й сюды́ сто́ўпчык, трэ́ба дасалíць стра́ву. *Р. Ч.*

СТРОП (строп) *мужч.* Столь. Во́сеньню насы́палі бу́льмы пат самы строп у сто́пцы. *Кук.*

СТОЛ (стол) *мужч.* Ежа. Ма́льцы на́шы каза́лі, што стол на выпускно́м (вечары) быў харо́шы, але не́шта ні піць, ні есьці не хаце́лася. *Белар.*

СТОЛЬ (столь) *жан.* Чардак. Пале́зь на столь і даста́нь цыбу́лі пляцё́начку. *Р. Ч.*

СТО'ЦЬВЫ (сто́цьвы) *толькі мн.* Ткацкі станок. Ране́й мы тка́лі палатно́ на сто́цьвах. *Бяс.*

СТО'ЙКІ (сто́йкі) *прым.* Устойлівы. Пазы́чця мне казлэ́, ва́шы сто́йкія, не хіста́юцца. *Кам.*

СТО'ЛАК (сто́лак) *мужч.* Маленькая лавачка. Дзед наш на сто́лаку каля́ пе́чы заўсё́ды сядзіць. *Раўч.*

СТО'ПКА (сто́пка) *жан.* Невялікая печ ў пакоі, печка-галанка. Ты ся́ньня сто́пку сам вы́палі, бо по́зна прыду́. *Луц.*

СТРАЕ'ННЕ (страе́ньне) *ніяк.* Хата з прыбудовамі. Страе́ньня было́ бальшо́я, ды згарэ́ла ў дваццаць восьмым гаду́. *Р. Ч.*

СТРАЖЫ'НЫ (стражы́ны) *толькі мн.* Прыстасаванне для сушкі бульбяніку. Начапля́лі бульбя́ніку на стражы́ны. *Цял.*

СТРАПКА'Ч (страпка́ч) *мужч.* Трапкач. Калі́ не бу́дзеш слу́хаць, дак так атхвашчу́ страпкачо́м, што не ся́дзіш. *Бяс.*

СТРО'КІ (стро́кі) *толькі мн.* Вушкі ў лапцях, у якія працягваюцца аборы. Зацягні́ або́ры ў стро́кі. *Р. Ч.*

СТРО'ЙНА (стро́йна) *прысл.* Смачна, добра. На, паспыта́й майго́ пірага́, як стро́йна па́хне. *Р. Ч.*

СТРУГА'ЦЬ (струга́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Абіраць бульбу. Трэ́ба наструга́ць карто́плі на вячэ́ру. *Цял.*

СТРЫГМА'Ч (стрыгма́ч) *мужч.* Асоба з неахайнаю прычоскаю (у адносінах да мужчын). Усё́ жыцьцё́ стрыгмачо́м хо́дзіць — ніко́лі пэ́йсы свае́ не падрэ́жа па-люцку: то перабярэ́, то до́ўгія ку́чмы пакі́не. *Граб.*

СТО'ЧКІ (сто́чкі) *толькі мн.* Месца, дзе зліваюцца рэкі. На сто́чках така́я ўжо бурлі́вая вада́, што там, дзе і ме́лка, бо́язна пераходзіць. *Кук.*

СТУШЫ'ЦЬ (стушы́ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Патушыць. Стушы́ла аго́нь, а сама́ пайшла́ к сусе́ду. *Кам.*

СТЫДА'ЦЦА (стыда́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Саромецца. Яна ўжо дзеўка вялі́кая, дак стыда́ецца ў адны́м пакóі з усі́мі. *Нар.*

СУМЕ'СНІЦА (семе́сьніца) *жан.* Лес, якім карыстаюцца сумесна некалькі вёсак. Упе́рад жа ў нас былí суме́сьніцы на лес. *Гіл.*

СУПАКО'Й (супако́й) *мужч.* Спакой, цішыня. Ста́рая ціпе́р я, няду́жая, супако́й мне трэ́ба, а гэ́тыя фулі-га́ны заўсе́ды пад во́кнамі шнуру́юць. *Кам.*

СУРДУ'К (сурду́к) *мужч.* Сурдут. Сурду́к но́вы апрана́е — хоць зо́ўтра ў сваты́. *Кам.*

СУСТО'ЎКА (сусто́ўка) *жан.* Сустаў. Дай мне гэ́тай расьці́ркі, ве́льмі сусто́ўкі баля́ць. *В. В.*

СУСТЭ'П (сустэ́п) *мужч.* Тустэ́п (танец). Быва́ла, як пайду́ сустэ́п гуля́ць, дык усе хло́пцы на мяне́ заглядаю́цца. *Р. Ч.*

СУХАПА'РНІК (сухапа́рнік) *мужч.* Адстойнік для малака. Як падаю́ каро́ву, то малако́ наліва́ю ў сухапа́рнік і апуска́ю ў кало́дзеш. *Р. Ч.*

СУХО'З (сухо́с) *мужч.* Саўгас. Не́калі ён у на́шым сухо́зе старшынём быў, а по́тым яго зьнялí, бо не мох нала́дзіць рабо́ту. *Р. Ч.*

СХАРАНІ'ЦЦА (схарані́цца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Схавацца. Пяць дзе́вак схаранíлася за та́нкам, а не́мец іх с самалёта і пабі́ў усіх. *Н. К.*

СЦІ'БЧЫЦЬ (сьці́пчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Украсці. Не́хта са двара́ рыдлёўку сьці́пчыў, няве́дама дзе шука́ць. Цямне́е, карто́плю не паспе́ю вы́капаць. *Меж.*

СЦІ'РКА (сьці́рка) *жан.* Дошка для мыцця бялізны. Рука́мі б я ні змагла́ б перамы́ць сто́лькі бялі́зны. Дак укі́ну мы́ла, парашо́к, улію́, закіда́ю эту адзёжу. Яна атмо́кніць, тагды́ мы́ю на э́ту сьці́рку. *Паг.*

СЦІ'ХНУЦЬ (пра дождж) *зак. тр.* Перастаць. Як сьці́хня дождж, трэ́ба бу́дзя гнаць каро́ў на па́шу. *В. В.*

СХІНУ'ЦЬ (схіну́ць), -у, -еш (вокам); *зак. тр.* Акінуць вокам. За гэтым ляско́м лух бу́дзе — во́кам ні скінуць. *Кам.*

СХІНУ'ЦЬ ВО'КА. Загубіць зрок. Бе́днае мае́ дзіця́тка, гэтакае маладо́е, а ўжо во́ка схіну́ла. *Бяс.*

СЦЕБАНУ'ЦЬ (сьцябану́ць), -у, -еш; *зак. тр.* Стукнуць. Як сьцябану́ла яна́ сына дупцо́м, дык той, бе́дны, аш прысе́ў. *Кам.*

СЦЁ'БНУЦЬ (сьцёбнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Украсці. І хто гэта ў яе гро́шы сьцёбнуў? *Цял.*

СЦЁ'БКА (сьцёпка) *жан.* Памяшканне для захавання бульбы, гародніны і прадуктаў. Зімо́ю ў сьцёпцы хава́ем капу́сту, агуркі́, кап не зьме́рзьліся. *Бяс.*

СШАЛЕ'ЦЬ (шшале́ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Ашалець. Пат ста́расьць дык яна ўжо зусім шшале́ла, сва́рыцца, б'е́цца. *Цял.*

СЫРНІ'ЦА (сырні́ца) *жан.* Сыр, заліты маслам. Ну і ўку́сная ш сырні́ца ў мяне́ бу́дзя. *Р. Ч.*

СЮДЭ'МА (сюдэ́ма) *прысл.* Сюды. Вы як сюдэ́ма шлі, церас сенако́с або па шля́ху? *Р. Ч.*

СЯГО'ЛЕТА (сяго́лета) *прысл.* Сёлета. От да чаго́ сяго́лета ця́шка было́ жыць у вёсцы, бо за́суха нарабі́ла бяды́: усё вы́паліла. *Р. Ч.*

СЯДУ'ХА (сяду́ха) *агульн., неадабр.* Чалавек, які не працуе, а сядзіць. Сядзі́ць сяду́ха і сядзі́ць, а рабі́ць за яе хто бу́дзя? *Хал.*

СЯЛЬНІ'К (сяльні́к) *мужч.* Вялікі палатняны мяшок, у якім носяць салому, сена, траву. Я пашы́ла вялі́кі сяльні́к, каб до́бра было́ насі́ць сало́му. *В. В.*

СЯ'ННЯ (ся́ньня) *прысл.* Сёння. Ба́чыла, кіншчык прые́хаў, ся́ньня кіно́ тады́ бу́дзя. *Луц.*

СЯРЧА'ТЫ (сярча́ты) *прым.* Абідлівы. Такі́ мой дзет стаў сярча́ты! То́лькі што скажы́ яму́, як ён прыціхне і размаўля́ць ні хо́ча. І до́ўга ча́су про́йдзе, калі ён на ўсё забу́дзяцца і бу́дзя размаўля́ць зноў. *Бяс.*

СЯРЧЫКІ' (сярчыкі́) *толькі мн.* Запалкі. Фра́нцавіч,

да́йця шэсь кі́ль цу́кру, буты́льку напі́тку, а на рэ́шту да́йця сярчыко́ў ско́лькі там вы́дзіць. *Ст. В.*

## Т

ТАБАРЭ′ЧЫК (табарэ́чык) *мужч.* Табурэт. Палажу́ на табарэ́чык до́шку, вазьму́ паду́шку ды атпачыва́ю сабе́ у садо́чку. *В. В.*

ТАГДЫ′ (тагды́) *прысл.* Тады. Як прагна́лі па́на, я тагды́ была́ мале́нькая. *Кал.*

ТАДЫ′Х (тады́х) *прысл.* Тады. Калі, дачу́шка, высо́ка со́нца, тады́х і мне мо́жна ўста́ць, а то я заляжаўся ту́така. *Яц.*

ТАЛАКНО′ (талакно́) *ніяк.* Страва з аўса. З аўса́ ране́й талакно́ рабілі. *Кл.*

ТАЛА′ННЫ (тала́нны) *прым.* Здольны. Тала́нны на ўсё: як ігра́ць, як сьпява́ць, як ішчэ́ што. *Хож.*

ТА′ЛЕЧКА (та́лечка) *жан.* Маточак. На гэ́ту по́сьцілку ў міне́ пайшло́ пяцьдзесят та́лечак бавоўны. *Кам.*

ТАЛЁ′ВЫ (талёвы) *прым.* Высокі, стройны чалавек. Талёвая дзяўчы́на, про́ста воч не адве́сьці. *Н. К.*

ТАЛМА′ЧЫЦЬ (талма́чыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Тармасіць. Што ты яго талма́чыш, няха́й яшчэ́ пасьпі́ць. *Кам.*

ТА′МЫЦЬКА (та́мыцька) *прысл.* Там. Чаго́ баі́сься, та́мыцька то́лькі адзі́н конь. *Карш.*

ТАНДЭ′Т (тандэ́т) *мужч.* Месца гандлю рэчамі старымі, ужыванымі. Гэ́та цяпе́р малады́я ма́ла ро́бяць, а больш гуля́юць. А даўне́й усе служы́лі: то бу́льбу каму́ аскаблі́ш, а не ха́ту памяце́ш, а не за ня́ньку... і я ў Каплы́ма Шму́йлы у тандэ́цэ рабі́ла, паку́ль за́муж. *Сасн.*

ТА′НЧЫЦЬ (та́нчыць) *незак. тр.* Танцаваць. Вот ня тэ́нціць бе́днаму Сьцяпа́ну — і се́лята парсю́к здох. *Цук.*

ТЛУНА′ (тлуна́) *толькі адз.* Непатрэбныя рэчы. Павыкіда́йце вы гэ́ту тлуну́ с ха́ты, красіве́й бу́дзе. *Р. Ч.*

ТАРО'ЙКАЦЦА (таройкацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Бавіцца. Час дадому ісьці, а то таройкаюся з вамі тут. *Райч.*

ТАРО'ЙКАЦЦА (таройкацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Спрачацца. Цэлую гадзіну таройкаліся, покуль згадзіліся рабіць разам. *Нар.*

ТАРСІ'НКІ (тарсінкі). Лёгкія тапачкі. Вот як адзенеш на ногі гэтыя тарсінкі, то прахадзіш цэлы дзень і ногі не баляць. *Р. Ч.*

ТАЎЧЫ' (таўчы), -к-у, -эш; *незак. тр.* Біць. Вечна ён таўчэ яе у галаву. *Кам.*

ТО'КА (тока) *прысл.* Толькі. Гэтыя кветкі тока тут у нас і е, больш нідзе. *Кам.*

ТО'НКАЕ ВУ'ХА. Добры слух. Ну й вуха тонкае, як ні гавары — усё роўна пачуе. *Ряс.*

ТО'РГАЦЬ (торгаць) *незак. тр.* Балець. Так нахадзілася, што ногі будуць торгаць. *Кам.*

ТО'ЎЗАЦЬ (тоўзаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Тузаць. Што ты міне ўсё за спадніцу тоўзаеш, супакою табе німа. *Кам.*

ТО'РКНУЦЬ (торкнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Даць. Торкні ім у руку чаго-небуць. *Ліс.*

ТОРП (торп) *мужч.* Торф. Прывезьлі машыну торпу. *Цял.*

ТО'ФЕЛЬ (тофель) *мужч.* Топаль. Тофель наш разросься, сьцягая сокі с агароду. Нешта рабіць зь ім трэба, бо ўв агародзе нічога не расьце. *Белар.*

ТРАСУ'ШКА (трасушка) *жан.* Бульбакапалка. Прыяжджаюць восеньню студэнты, дык яны за трасушкай капаюць, а мы, бабы, дык за плугам. *Бяс.*

ТРА'СЦА (трасца) *жан.* Нічога. О, дурніцу нашоў, а трасцу я табе дам. Любіць браць, а аддаваць — дык не. *Бяс.*

ТРАПА'ШКА (трапашка) *жан.* Трапло. Трапашкай выбівалі са льну кастрыцу. *Бяс.*

ТРАХА' (траха) *прысл.* Папярхнулася, дык траха ні задушылася. *В. В.*

ТРАЯ'К (трая́к) *мужч.* Вялікае бервяно. Калі на нашай ву́ліцы ляжы́ць трая́к, то ве́чарам к яму прыхо́дзіць мно́га людзе́й, садзя́цца і пачына́ецца размо́ва да поўначы́. *Р. Ч.*

ТРУДЗЯ'ШЧЫ (трудзя́шчы) *прым.* Працоўны, рабочы. Наняла́ся бялі́зьну сьцíра́ць, ня гэ́тая, шта ат трудзя́шчага чалаве́ка, кара́вая, але ад гаспо́д, шта рас адзе́ніць і мыць. Дзьве́сьця пядзіся́т штук і пядзіся́т каўняро́ў памы́ць і накрахма́ліць, каб стая́лі — така́я мая́ рабо́та была́. *Паг.*

ТРУ'НАК (тру́нак) *мужч.* Прыправа. Ускі́нула грыбы́ на скаваро́тку, накла́ла ла́дна такі́ здо́ру ці ўшчэ ўся́кага там тру́нку. Да чаго́ ж былі́ сма́чныя! То́лькі вада́ п'е́цца. *Мал.*

ТРУ'СКІ (тру́скі) *прым.* Няроўны, нягладкі. Даро́га така́я тру́ская, што ўсю ду́шу вы́трасла. *Хал.*

ТРУЦІ'ЗНА (труці́зна) *жан.* Атрута. Ані не глядзі́ць, што дзеці́ малы́я, гэ́тую труці́зну папакіда́е абы-дзе. *Бяс.*

ТРЫМА'ЦЬ ПУ'ЛЮ. Хацець развязаць вайну. Яны́ пу́лю на нас трыма́юць, вайно́ю на нас хо́чуць пайсьці́. *Кам.*

ТРЫМЧЭ'ЦЬ (трымчэ́ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Ліпець. Ба́пка лець трымчэ́ла ўжо, калі ён прые́хаў. *Раўч.*

ТРЭ'ЙЧЫ (трэ́йчы) *прысл.* Тройчы. Як ткала, дык трэ́йчы сту́кнула бе́рдам і яно злама́лася. *Цял.*

ТУ'БЕЛЬЦЫ (ту́бельцы). Карэнныя жыхары. У на́шай ве́сцы жыву́ць ту́бельцы. *Бяс.*

ТУГАВУ'ХІ (тугаву́хі) *прым.* Глухаваты. Вот гэты тугаву́хі, гаво́раць, а ён нічо́га не чу́е. *Бяс.*

ТУДЭ'Ю (тудэ́ю) *прысл.* Тудою. На Ву́су вы тудэ́ю ні про́йдзяця. *Кам.*

ТУК (тук) *мужч.* Расплаўлены тлушч. Мача́йце карто́плю ў тук. *Кам.*

ТУМА'РНІК (тума́рнік) *мужч.* Вельмі маўклівы чалавек. Прышо́ў гэ́ты тума́рнік і маўчы́ць, сказа́ў бы хоць слова. Ці мо́жа табе́ язы́к уцягну́ла? *Бяс.*

ТУРБА'ВЫ (турба́вы) *прым.* Клапотны. Ён, паніма́яця, сеў і дава́й, брат, ганя́ць (бульбай па тарцы). А карто́шка мо́края — ён як шара́хнуў па пальцах, брат. Кроў. Ён хо́ду с ха́ты. Каыць, уку́сная стра́ва, але й турба́вая. Паля́нь, якія мае́ па́льцы, ні хачу́ ні ку́шаць, ні рабо́тацць. *Мік.*

ТУРЛЯ'ЦЦА (турля́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Штурхацца. Ні турля́йся, сядзіця спако́йна! *Цял.*

ТУ'ТЫЦЬКА (ту́тыцька) *прысл.* Тут. Ту́тыцька ён да са́май но́чы і стая́ў. *Карш.*

ТУФА'ЙКА (туфа́йка) *жан.* Фуфайка. Мы дык сваім дзяўча́ткам і туфа́йкі дава́лі, каб было́ цяплє́й. *Кам.*

ТЫ'РЫЦЬ (ты́рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Біць. Сє́ньня мы бу́дзем ты́рыць сусе́цкага хло́пца. *Цял.*

ТЫ'ЙДЗЕНЬ (ты́йдзень) *мужч.* Тыдзень. Ба́цька мой як паехаў у Мінск, дык цэ́лы ты́йдзень сядзе́ла до́ма. *Бяс.*

ТЭ'БЕЛЬ (тэ́бель) *мужч.* Вялікі свердзел. На кро́квы трэ́ба тэ́бель вялі́кі, мале́нькім не спра́вісься, не пракру́ціш. *Буз.*

ТЭ'ЧКА (тэ́чка) *жан.* Сумка. Поўную тэ́чку хле́ба прынё́с. *Кам.*

## У

УБІ'ЦЦА (убі́цца), -ю-ся, -еш-ся; Нечакана ўвайсці. Учо́ра ўбі́ўся да нас у ха́ту гэ́ты п'я́ны, ледзь вы́гналі. *В. В.*

УБІ'ВЕЦ (убі́вяц) *агульн.* Забойца. Ён жа ўбі́вец настая́шчы. Як быў у паліца́ях, то яму чалаве́ка было́ забі́ць, усё ро́ўна што плю́нуць. *Дук.*

УВАЖА'ЦЬ (уважа́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Заўважаць. Ты не ўважа́ла, там магазі́н аткрыты? *Кам.*

УВЕ'ЧАРА (уве́чара) *прым.* Увечары. Прыйшла́ ўве́чара карміць, а маіх качаня́так няма́. *Чыж.*

УВЁ'РТКІ (увё́рткі) *прым.* Кемлівы. Такі́ ш увё́рткі

наш брыгадзір: і камбайн дагаварыўся палучыць, і студні навыкопваў там, дзе вада харошая. *Узгур.*

УВЫ'КНУЦЬ (увыкнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Прывыкнуць. Увыклі ў сад лазіць, і што мне зь імі рабіць? *Буз.*

УВЯРЭ'ДЗІЦЦА (увярэдзіцца), -у-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Стаміцца. Я ўчора так увярэдзілася, аш яшчэ сягоньня сьпіна баліць. *В. В.*

УВАЙСЦІ' (увайсьці), -у, -еш; *зак. тр.* Уступіць. Я першая ўвайшла ў калгас. *Кам.*

УДАРО'ЖЫЦЦА (ударожыцца), -у-ся, -ыш-ся; Накіравацца. Мусіць, ты далёка ўдарожыўся, бо вельмі ш доўга зьбіраўся. *Кам.*

УДО'ДЗІК (удодзік) *мужч.* Клямка. Заядае нешта наш удодзік, блага дзьверы адчыняць. *Кук.*

УЗБАБЭ'РЫЦЬ (узбабэрыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Узараць. Яны вельмі скора ўзбабэрылі ўвесь загон. *В. В.*

УЗБІ'ЦЦА (узьбіцца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* 1. Пабагацець. Мой бацька заўсёды быў бедны, толькі зараз на хазяйства ўзьбіўся. *Гіл.* 2. Узлезці. Чаго ты ўзьбіўся на плот і сядзіш, як певень? *В. В.*

УЗБУДЗІ'ЦЬ (узбудзіць), -у, -іш; *зак. тр.* Разбудзіць. Узбудзі мяне заўтра ў 4 гадзіны раніцы. *Узгур.*

УЗГАВАРЫ'ЦЦА (узгаварыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Пачаць гаварыць. Узгаварылася я зь ёю, дык яна мне такога нарасказала, што і не падумаяш ніколі. *Кам.*

УЗНО'Ў (узноў) *прысл.* Зноў. Узноў яна робя дрэнна. *Рат.*

УЗРО'К (узрок) *мужч.* Позірк. Ну і цяжкі ўзрок у яе: паглядзіць — і крычыць дзіця як само не сваё. *Узгур.*

УЗУСЛО'Н (узуслон) *мужч.* Услон. На вясельлі столькі людзей было, што сваіх ўзуслонаў не хапіла, прышлося пазычаць. *Кук.*

УКАСАВА'ЦЬ (укасаваць) *зак. тр.* Сапсаваць. Пасадзіла гурке раньнія, але грат усё ўкасавоў. *Кам.*

УКАСІ'ЦЬ (укасіць), -у, -іш; *зак. тр.* Накасіць. Пры-

ёхалі з Мінска, травы трохі ўкасілі — карову шчэ дзяржым. *Кам.*

УКАЦІ'ЦЬ (укаціць) -у, -іш; *зак. тр.* Нарадзіць. Цікава, што наша Галя ўкоця — ці дзеўку, ці хлопца? *Бяс.*

УКВЭ'КАЦЬ (уквэкаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Запэцкаць. Усе штаны ў гліну ўквэкаў. *Цяр.*

УКВЯЛІ'ЦЬ (уквяліць), -ю, -іш; *зак. тр.* Уцвяліць. Суддзі ўжо шкода і дзеда абідзець, пасьлеyньнюю ададбраць цялушку ў яго, і пана ш баіцца суддзя ўквяліць, пан жа багацейшы за дзеда. *Луб.*

УКЛА'СЦІ (укласьці), -д-у, -дз-еш; *зак. тр.* Запэцкаць. Што с Сашам рабіць? Зноў уклаў твар у чарніла, не пасьпела і глянуць. *Кузьм.*

УКЛЕ'ІЦЬ (уклеіць), -ю, -іш; *зак. тр.* Стукнуць. Ні хоча нічога слухаць, пакуль ні стукнеш, ні ўклеіш. *Дзям.*

УКЛЕ'НЧЫЦЬ (укленчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Стаць на калені. Як укленчыла перад абразамі, дак доўга стаяла. *Цял.*

УКО'Р (укор) *мужч.* Дакор. З такім укорам глядзіць, як бы будзя помніць крыўду ўсё жыцьцё. *Граб.*

УКРА'ДНЯ (украдня) *прысл.* Употайкі. Украдня ходзіць як вінаваты: вядома ж, сваё дзеці ўжо мае, а бадзяецца, як валацуга які. *Граб.*

УКРЫВА'НКА (укрыванка) *жан.* Вялікая суконная хустка. Як укруцішся ўкрыванкай, то ніякі марос ні страшны. *Дук.*

УЛА'ПІЦЦА (улапіцца), -пл-ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Ухапіцца. Такі ён ужо чалавек, як улапіцца, то ні скора атпусьціць. *В. В.*

УЛЕ'ГЧЫ (улехчы), -г-у, -ж-аш; *зак. тр.* 1. Пусьціцца бегчы за кім-небудзь. Сабака ўлёг за зайцам. *Уж.* 2. Шчыра ўзяцца за працу. А ён цяпер улёг у працу. *Уж.*

УЛІ'ЎНЫ (уліўны) *прым.* Праліўны. З Сівіцы ўсе людзі выбраліся і паехалі ў лес, паброўшы каровы, каторы ўзеў парсюка, дзеці малыя. А тады ішоў такі дош

праз дзьве нядзелі ўліўны, што па пахі ў вадзе сядзелі мы ў тым леся. *Сів.*

УЛО'ННЕ (улоньне) *ніяк.* Бярэма. Цэлае ўлоньне дроў набрала. *Р. Ч.*

УЛУ'КАТКУ (улукатку) *прысл.* Зігзагам. Чаму ён пашоў улукатку, можа яму дрэнна? *Цар.*

УЛЯПІ'ЦЦА (уляпіцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Ухапіцца. А ён як улепіцца за Міхася. *В. В.*

УМАЧЫ'ЦЬ (умачыць), -у -ыш; *зак. тр.* Вымачыць. Рыбаловы пад раніцу умачылі ўсю вопратку. *Узгур.*

УМЕ'СТА (уместа) *прысл.* Разам. Усё прывезенае скінулі ўместа. *Узгур.*

УМЕ'ТНІК (уметнік) *мужч.* Ток. От мы сёньня с сьвякрухаю так ухадзіліся на ўметніку, што чуць дамоў прышлі. *Р. Ч.*

УМЕ'ЦЦЕ (умецьця) *ніяк.* Амецце. Трэба ўмецьця запарыць у цэбры. *Р. Ч.*

УМЕ'ЦЦІ (умецьці) *толькі мн.* Мякіна. Трэба ўмецьці запарыць карові. *Р. Ч.*

УПАДАБА'ЦЦА (упадабацца). Спадабацца. Мая нявестка ўсім упадабалася. *Кам.*

УПАКА'Т (упакат) *прысл.* Адзін каля аднаго. Спалі яны на сеня упакат, а Пецька нават на галаву Толькіную ўссунуўся. *Неж.*

УПАЛІ'ЦЬ (упаліць), -ю, -іш; *зак. тр.* Зрабіць, сказаць нешта смешнае. Ён тут такое ўпаліў, што ўсе сьмяяліся моцна і Марылю спудзілі. *Хал.*

УПЕ'РАД (уперат) *прысл.* Спачатку. Уперат, як толькі пажаніліся — сварыліся, а цяпер дружна жывуць. *Кам.*

УПЕ'РЦІ (уперці), -у, -эш; *зак. тр.* З'есці. Упер чыгун капусты і мала яму. *Кам.*

УПЛЁ'Т (уплёт) *мужч.* Каснік. Як злягла я, рабілі рапарацыю, дык маёй Анюсьцы і ўплётаў ні было каму ўплясьці. Бапця завяжыць уплёт за пасму сьпераду й так хадзіла. *Заб.*

УПО′ЦІМКУ (упóцімку) *прысл.* Упацёмку. Дахáты вяртáліся ўжо ўпóцімку: не відáць дарóгі. *Узгур.*

У РА′ДЗІВЕ. Па радыё. Учóра ў рáдзіві гаварылі, што дажджў ні бýдзя. *Кам.*

УРА′НІЦЫ (урáніцы) *прысл.* Раніцай. Урáніцы сьпіць, увéчары лажыцца рáзам с курáмі, а мне душыся аднóй, а чуць-што —«паляжáць яму не даюць». *Белар.*

УСАДЗІ′ЦЬ (усадзíць), -у, -іш; *зак. тр.* Назначыць. Яго да нас яшчэ залéтась старшынём усадзілі. *Кам.*

УСЕ′СЦА (усéсца). Усесціся. Для такó каб усéсца, нам патрэ́бна 4 крэ́слы. *Узгур.*

УСКАЧЫ′ЦЬ (ускачыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Падхапіцца. Усе, хто быў у хáце, хýтка ўскачылі. *Узгур.*

УСКРУЦІ′ЦЦА (ускруцíцца), -чу-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Рана ўстаць. Ускруцíўся яшчэ́ да пéршых пéўняў, бо дамóвіліся ўспýлку працавáць. *Пільк.*

УСПАРО′ЦЦА (успарóцца), -у-ся, -аш-ся; *зак. тр.* Устаць вельмі рана. Я гэ́так хацéла успарóцца рáна, але не вышла. *Кам.*

УСПАРО′ЦЬ (успарóць), -у, -аш; *зак. тр.* Вельмі рана разбудзіць. Мáма, чагó ты мянé так рана ўспарóла? *В. В.*

УСТУПІ′ЦЦА (уступíцца), -л-ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Абуцца. Давáй хучэ́й, табé яшчэ́ ўступíцца патрэ́бна, а дзе валёнкі? *Ган.*

УСТУПІ′ЦЦА (уступíцца), -пл-ю-ся; -іш-ся; *зак. тр.* Абуцца. Уступíся, дзіця́тка, а то ўся́ка мóжа быць. У нас і гадзюкі ё, асцярóжна бýцьце. *Р. Ч.*

УСЯДНО′ (усяднó) *прысл.* Усё роўна. Скáрдзіцца, што ў сярэ́дзіня балíць, але ўсяднó рабóты ня хóча кідáць. *Дук.*

УСКЛУБІ′ЦЦА (усклубíцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Сагнуцца. Чалавéку шэ́сцьсят гот былó ўжо, усклубíўся, упынку яму не было. *Кам.*

УСТРО′ІЦЬ (устрóіць), -ю, -іш; *незак. тр.* Вастрыць. Мой пашóў у кýзьню тапóр устроіць. *Чар.*

УСТУ'РЫЦЬ (устýрыць), -у, ыш; *зак. тр.* Рана разбудзіць. Бáпка рáна ўстýрыць, каб малакá парнóга папілі. *Чар.*

УТРАВІ'ЦЦА (устравíцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Унадзіцца. І чагó ён утравíўся да нас? *В. В.*

УТРУБІ'ЦЬ (утрубíць), -бл-ю, -іш; *зак. тр.* З'есці. Утрýбіць цэ́лую галóўку часнакá, а тады́ «сэ́рца балíць». То як жа яно ня бýдзя балéць?! *Заб.*

УТРЭ'ЖЫЦЦА (утрэ́жыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Вытрымаць. А гэ́ты малéнькі сабáчка дык ні ўтрэ́жыўся, здох. *Кам.*

УХАДЗІ'ЦЦА (ухадзíцца), -у-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Вельмі стаміцца. Ухадзілася за дзень, што сьвет ні мілы. *В. В.*

УХАПІ'ЦЦА (ухапíцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Прыступіць. Ухапíўся за прáцу агранóма з рáдасьцю, а пасьля асты́ў, скіс. *Граб.*

УХО'ДАЦЦА (ухóдацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Стаміцца. Ох і ўхóдалася я сéньня каля гэ́тай пéчы. *Бяс.*

УХАДЗІ'ЦЦА (ухадзíцца), -дж-у-ся, дз-іш-ся; *зак. тр.* Моцна стаміцца. Ухóдзішся за дзень, дык ні рукí, ні нагí ні падня́ць. *В. В.*

УЦІ'ШЫЦЬ (уцíшыць), -ш-у, -ш-ыш; *зак. тр.* Супакоіць. Балбóчуць і балбóчуць, ніяк іх ні ўцíшыць. *Зайцы.*

УЧО'РЫ (учóры) *прысл.* Учора. Учóры ў Мінск з'éзьдзіла ды купíла грацкóвай крупы́. *Кам.*

УСШЫПЕ'ЦЦА (ушшыпéцца), -пл-ю-ся, -п-іш-ся; *зак. тр.* Узлавацца. Яна ўшшыпéлася, а я ня вéдаю за што. *Дук.*

УШЧАПІ'ЦЬ (ушчапíць), -ю, -іш; *зак. тр.* Надзець. І ні сóрамна ёй; ушчапíла чужýю кóфту і хóдзіць. *Кам.*

УШЧА'ЦЬ (ушчáць), -у, -еш; *зак. тр.* Пачаць. Пісьмо яшчэ́ ўчора ўшчалá пісáць, а німá як кóнчыць за гульнёй. *Бяс.*

УШЫ'РЫЦЬ (ушы́рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Пашы-

рыць. Жалёзная дарóга туды́ ішлá: да Чаля́бінска двухкалéйная, а дáлей аднакалéйная. А ў трынáццатум гóдзя праклáлі другóе палатнó, дарóгу ўшы́рылі. *Белар.*

## Ф

ФАЛІВА'РАК (фалівáрак) *мужч.* Фальварак. У фалівáрку кавалня́ ні былó. *Цял.*

ФАНЦІ'НА (хванцíна) *жан.* Марля для працэджвання малака. Мáня, прыня́сі ты мне хванцíну малакó працадзíць. *Р. Ч.*

ФА'ЙНА (фáйна) *прысл.* Добра. О, як фáйна ты сукéнку пашы́ла. *Ліс.*

ФАЦЭ'ТКА (фацэ́тка) *прысл.* Цікава. Ой, як фацэ́тка ён раскáзвае. *Кам.*

ФІ'РМАВЕЦ (фíрмавец) *мужч.* Той, хто працуе на ферме. Ого, цяпéр калхóзы крэ́пкія. Цяпéр усё цéхніка, машы́ны і канбáйны. І калхóзьнікі дóбра палучáюць. Вышэ́йшую цанý дзéржаць пастýхі, па пяцьсóт выхóдзя на мéсяц, за імі фíрмаўцы, катóрыя ў штáця, а тады́ палявóды. *Белар.*

ФІРУ'РГ (фірýрг) *мужч.* Хірург. Дачкá мая́ Кáця пáляц пакалóла, нарвáў ён, нічóга рабíць ня мóжа. Стры́жань у пáльцы во які, а бальнíцы у нас нíмá, медыцы́нскі пункт тóлькі, фірýрга там, як у бальнíцы, нямá. Мýчышча. бéнная. *Белар.*

ФО'РТКА (фóртка) *жан.* Калітка. Ну і фóртку зрабілі, як захóчаш к ім зайсьці ў хáту, дык і не зóйдзеш, бо фóртку не адкры́еш. *Р. Ч.*

ФУЛІГА'Н (фулігáн) *мужч.* Хуліган. Фулігáн гэ́ты нарабíў брáзгалак і ні давáў спаць усю ноч. *Кам.*

## Х

ХАБАТНЯ' (хабатня́) *жан., зневаж.* Рот. Закры́й сваю́ хабатню́, хвáціць ужэ крычáць. *Уж.*

ХАВА'ЦЬ (хава́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гадаваць. Ця́шка было́ хава́ць дзяце́й, але як падняліся на но́гі, то і пайшлі́ ў сьвет. *Пуз.*

ХАВА'ЦЬ (хава́ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Трымаць. Ця-пе́р вот і не хава́ем бо́лі каро́вы. Сто́лькі растра́т яна нам прыно́ся. *Бяс.*

ХАДА'К (хада́к) *мужч.* Лапаць. Дзет калі́сьці ў ха-дака́х хадзі́ў, а я дак і ня ба́чыў. *Дайг.*

ХАДАЛА' (хадала́). Ходу. Ішоў я рас ве́чарам гэ́так бе́рагам. Тады́ чу́ю: не́хта бяжы́ць за мно́й, так вот, як ко́шка, ска́ча. Паглядзе́ў — вы́дра. Я схапі́ў па́лку ды агрэ́ў па ёй. Вы́дра пакруці́лася, пакруці́лася і апя́ць ка мне. Я — хадала́, чуць атвяза́ўся ат яе. *Белар.*

ХАЛАДЗЁ'НКА (халадзёнка) *жан.* Халодная вада ў лазні. Ле́на, дачу́шка, нанасі́ вады́ у ла́зыню на хала-дзёнку. *Хац.*

ХАЛА'Т (хала́т) *мужч.* Паліто. Увайшо́ўшы у ха́ту, ён скі́нуў хала́т,— так называ́юць у нас пальто́. *Кам.*

ХАЛЕ'РНЫ (хале́рны) *прым.* Дрэнны чалавек. Не́-кая хале́рная брыгадзі́рша сёлета у нас. *Кам.*

ХАЛУ'ПА (халу́па) *жан.* Невялічкая хата. Зале́с у тую халу́пу ды сядзі́ць, ні выла́зя. *В. В.*

ХА'КАЦЬ (ха́каць), -ю, -еш; *незак. тр.* Зяваць. Не́ш-та цэ́лы дзень сёньня ха́каецца. *Ліс.*

ХАНАБЭ'РЫСТЫ (ханабэ́рысты) *прым.* Фанабэры-сты. Дзірэ́ктар быў чалаве́к ве́льмі ханабэ́рысты, ні с кім ня гавары́ў і зь ім ніхто́ ня гавары́ў. *Р. Ч.*

ХАНЖА' (ханжа́) *жан.* Неперагнаная другі раз са-магонка. Ён жа ня піў ханжу́, таму́ і цьвяро́зы. *Пал.*

ХАРАШО' (харашо́) *прысл.* Добра. Харашо́, што ты прышла́, а то я хаце́ла к табе́ ісьці́. *В. В.*

ХАРАШЭ'Й (харашэ́й) *прысл.* Лепш. Яна ко́жную су-бо́ту дадо́му прыязджа́ла, бо до́ма харашэ́й. *В. В.*

ХАТУ'ЛЬ (хату́ль) *мужч.* Клунак. Зьвяза́ла я ў ха-ту́ль яму са́мыя ну́жныя рэ́чы, і ста́лі мы чака́ць. *Кл.*

ХАЎРУ'СНІК (хаўру́снік) *мужч.* Дружбак. Было́ на

на́шым канцы́ ве́скі чаты́ры Ко́лі і ўсе хаўру́сьнікамі былі́. *Кук.*

ХАХЛУ′ХА (хахлу́ха) *жан.* Курыца, якая водзіць куранят. Хахлу́ха така́я дрэ́нная была́, я ў по́грап садзі́ла, і вадо́й мачы́ла, так цяпе́р няхай сядзі́ць навя́зана, а яны мале́нькі, шко́ды не ро́бяць. *Р. Ч.*

ХВАМІ′ЛЛЯ (хвамі́льля) *жан.* Прозвішча. Хвамі́льля у яго́ вельмі рэ́ткая, незвы́кная — Наттачы́лкін. *Узгур.*

ХВАНДО′ЎКА (хвандо́ўка) *толькі мн.* Зборкі. Я Ве́раччы сіні́ла суке́начку ў хвандо́вачкі. *Р. Ч.*

ХВАРСУ′Н (хварсу́н) *мужч.* Фарсун. Нос вы́церці не уме́е, а ўжо хварсу́н. *Ліс.*

ХВАРТУ′Х (хварту́х) *мужч.* Фартух. Хвартухо́м падпяражы́ся. *Ліс.*

ХВА′НДЫ (хва́нды) *толькі мн.* Зборкі. Се́ньня малады́я ву́скія суке́нкі но́сяць, а даўне́й, чым больш хва́ндаў было́, тым харашэ́йшая суке́нка. *Кам.*

ХВА′РБА (хва́рба) *жан.* Фарба. Хва́рба така́я ў па́чках была́. *Кам.*

ХВА′ЦКІ (хва́цкі) *прым.* Прыгожы. Сусе́цкі сын такі́ хва́цкі хло́пяц стаў. *Пуз.*

ХВАШЧАНКА (хвашча́нка) *жан., бат.* Пырнік. Палю́, дзе́тачкі, палю́, рву гэту хвашча́нку, а яна ўсё есь. *Р. Ч.*

ХВІРА′НКІ (хвіра́нкі) *адз.* хвіранка. Фіранкі. За́ра такі́я прыго́жыя хвіра́нкі ве́шаюць на во́кна, даўне́й е́тага не было́. *Р. Ч.*

ХВО′РТКА (хво́ртка) *жан.* Фортачка. Ла́стаўка ў хво́ртку ўляце́ла. *Ліс.*

ХЕ′ЎРА (хе́ўра) *жан.* Талака. По́йдзем се́ньня з дачко́й у хе́ўру рабі́ць к сваяка́м. *Гіл.*

ХЛЕБ (хлеп) *мужч.* Збожжа. Трэ́ба хлеп убра́ць, а то як по́йдуць дажджы́, дык пагніе́. *Кам.*

ХЛЕ′БНІК (хле́бнік) *мужч.* Карміцель. Як пастарэ́ю, сіл не бу́дзе, працава́ць не змагу́, то хле́бнікам сын бу-

дзе: малóга я карміў яго, а у стáрасці хай ён кóрміць. *Граб.*

ХЛЯБО'К (хлябóк) *мужч.* Скарынка. Мае дзéці увесь хлябóк абдзярýць, а мя́кіш не ядýць. *Р. Ч.*

ХЛІ'ПАЦЬ (хліпаць), -аю, -еш; *незак. тр.* Піць. З рэ́ткімі звы́чкамі іх Пéця: вадý як пачнé хліпаць, бы у кадýшку лье. *Граб.*

ХЛУ'ДЗІНА (хлýдзіна) *жан.* Палка. Вазьмí хлýдзіну ды ганí карóву на пóле. *Р. Ч.*

ХЛЫ'СНУЦЦА (хлы́снуцца) -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Ударыцца. Глядзí ні хлысьніся лóбам. *Ліс.*

ХЛУСТ (хлуст) *мужч.* Ссечанае дрэва з абцярэбленым суччам. Толькі трáктар мóжа вы́цягнуць гэ́тулькі хлустóў. *Чыж.*

ХРАПО'ТНІК (храпóтнік) *мужч., бат.* Капытнік. Ранéй хадзілі рвáлі храпóтнік і канёў кармілі. Зараз не рвем храпóтніку. *Р. Ч.*

ХРЫПАНУ'ЦЬ (хрыпанýць), -у, -еш; *зак. тр.* Выспацца. Хрыпанýў дык хрыпанýў: сóнца з абéдзьдзя даўно павярнýла. *Ліс.*

ХУ'ЖА (хýжа) *прысл.* Горш. Яму было с кóжным днём усё хýжа і хýжа. *В. В.*

ХУ'ЖЫ (хýжы) *прысл.* Горш. Пашлá зáмуш і тагó хýжы стала. *Бар.*

ХУ'РА (хýра) *жан.* Павозка. Ранéй ся́дзеш на хýру і паéдзеш у гóсьці, а цяпéр ня тое, цяпéр éдуць на мацыклéтах і лісафэ́тах. *Р. Ч.*

ХУ'РА (хýра) *жан.* Параконны воз. На хýры і нáшы з поля éдуць. *Р. Ч.*

ХУСЦІ'НА (хусьціна) *жан.* Хустка. Калí жанíх і нявéста панарáвяцца аднó аднамý, дагавóрваюцца, каб зóлата кóлькі-нéбудзь, каня́, авéчку, прасьцíны́, хусьцíны і рóзнае, што патрэ́бна ў прыдáным. *Баг.*

ХУТ (хут) *мужч.* Зруб. У нáшым калóдзежы такí стары́ хут, што вось-вось абвáліцца, трэ́ба пабудавáць нóвы. *Кук.*

# Ц

ЦАБЭ'РАК (цабэ́рак) *мужч.* Невялікі цэбар. Іспа́рце каро́ві се́чку ў цабэ́рку. *Дук.*

ЦАГАНО'К (цагано́к) *мужч.* Чыгунок. Паедзім на начле́х, дак ён я́ек набе́рыць, цагано́к во́зьмецць, нава́рым я́ек на начле́зе, паядзём — і весяле́й. *Мік.*

ЦАГА'НЧЫК (цага́нчык). *Гл.* цаганок. Бабу́ля ў печ цага́нчык з бу́льбай паста́віла, ты паглядзі́, а я тэж зь ёй пайду́. *Пап.*

ЦАГЕ'ЛКА (цаге́лька) *жан.* Цаглінка. Як ідзе́ш на го́рку — там быў пала́ц, цаге́лькі і цяпе́р бадзя́юцца там. *Вішн.*

ЦАРА'Н (цара́н) *мужч.* Вялікі камень. Царано́ў навазі́ў тра́ктарам падмуро́ўку рабі́ць. *Р. Ч.*

ЦВІКЛО'ВЫ (цьвікло́вы) *прым.* Стало́вы (бурак). Усяля́кага сяго́дня было́ насе́на: і цьвікло́вых бурако́ў, і быдля́чык, і агурко́ў, і мо́ргавы, і кру́чкі. *Яц.*

ЦВІ'ЧЫЦЬ (цьві́чыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Павучаць, прывучаць. До́бра цябе́ яшчэ трэ́ба цьві́чыць, кап чалаве́кам стаў. *Зап.*

ЦВЯЛІ'ЦЬ (цьвялі́ць), -ю, -іш; *незак. тр.* Дражніць. Што ты цьвялі́ш мяне́, я ж табе́ не саба́ка яка́я. *Бяс.*

ЦЕЛЯПА'ЦЦА (целяпа́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Цягацца. Целяпа́ецца незнаёмы мне чалаве́к. *Ліс.*

ЦЕРАБЕ'ЖЫК (церабе́жык) *мужч.* Луг сярод лесу. Травы́ ма́ла каро́ві будзя́, хоць бы церабе́жак скасі́ў схадзі́ў. *Р. Ч.*

ЦЁ'РЛІЦА (цё́рліца) *жан.* Цёрла. Канаплі́ пра́жаць на скаваро́дах перат по́лымям або су́шаць у пе́чы, а тады́ таўку́ць у сту́пя, се́яць на рэ́шата. Тады́ ту́ю муку́, што палу́чыцца, труць у цё́рліцы і зь яе ро́бяць верашча́ку. *Рад.*

ЦІСКІ' (ціскі́) *толькі мн.* Пастка. Да до́брых ціско́ў абы мыш даткну́лася хоць хвасто́м, як яны ло́вяць яе. *Узгур.*

ЦМЫК (цмык) *мужч.* Прылада для складання сена. Чаму́ ты цмык ні ўзяла́, лепш было п склада́ць. *Кам.*

ЦО'ПНУЦЬ (цо́пнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Схапіць нечакана. Ён мяне́ як цо́пнуў — аж дух заняло́. *Хал.*

ЦУД (цут) *мужч.* Гартэнзія. Ці паліва́ла ты се́ньня цут? Не́шта зямля́ суха́я. *Мацкі.*

ЦУ'ПКАЯ (цу́пкая) *прым.* Старая жанчына, але яшчэ моцная. Бач, Пілі́піха яка́я ба́ба цу́пкая, стара́я, а ўсю бу́льму абматы́чыла. *Р. Ч.*

ЦУРБА'Н (цурба́н) *мужч.* Бервяно. Нам се́ньня цурбаны́ на машы́не прыве́зьлі. *Ліс.*

ЦУ'ХЛІЦЬ (цу́хліць), -ю, -іш; *незак. тр.* 1. Ссаць. Аж гляджу́, а ён папяро́су цу́хліць. *Райч.* 2. Знасіць адзенне да бляску. Ён ўсё жыццё цу́хліць адну сьві́тку, так і хо́дзіць у зацухле́най. *Райч.*

ЦЫБУ'К (цыбу́к) *мужч.* Мундштук. І куру́ без цыбука́, не люблю́ гэ́тых цыбуко́ў. *Р. Ч.*

ЦЫБУ'ЛЬКА (цыбу́лька) *жан.* Нарцыс. Цыбу́лька ўжо ско́ра расьцьвіце́. *Кам.*

ЦЫГА'Н (цыга́н) *мужч.* Чыгун. Цыганэ́ тває́ на пе́чы со́хнуць. *Ліс.*

ЦЫ'МУС (цы́мус) *мужч.* Страва з бручкі. Ну, ма́ці, тако́га цы́мусу даўно́ не вары́ла. *Райч.*

ЦЫМЯНТО'ВЫ (цымянто́вы) *прым.* Зацэментаваны. Ні ме́ла я шчэ і двана́ццаць гадо́ў, а ўжо цымянто́выя ако́пы ры́ла. *Кам.*

ЦЫНДУ'ЛЬ (цынду́ль) *мужч.* Баязлівец. Жыў у нас на тым канцы́ ве́скі Міхаі́л. Во ўжо цынду́ль быў. Век у лес адзі́н ні пае́дзя. *Р. Ч.*

ЦЫПКІ' (цыпкі́) *адз.* цыпка. Полкі ў лазні. Зале́з я на цы́пкі́, дык так напа́рыўся! За́раз і ква́су до́бра вы́піць. *Луц.*

ЦЫРА'ТА (цыра́та) *жан.* Кляёнка. У нас стол засла́ны цыра́таю, вельма ж до́бра, мо́краю ану́чкаю сатрэ́ш і чы́ста. *Цял.*

ЦЫРУ'БІЛЬНІК (цыру́більнік) *мужч.* Бульбоўнік.

А-яй, цыру́більнік які парос, бу́льбы не бу́дзя. *Р. Ч.*

ЦЫ'ТРА (цы́тра) *жан., абраз.* Злая жанчына. Вунь сядзі́ць цы́тра та́я, во́чы аж блішча́ць ад зло́сьці. *Цяр.*

ЦЭ'ТЛІК (цэ́тлік) *мужч.* Квітанцыя. А ты мне цэ́тлік дай, што я здала́ хлеп. *Уж.*

ЦЮ'КНУЦЦА (цю́кнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Сутыкнуцца, стукнуцца. Сёньні на ву́ліцы з брыгадзі́рам пра́ма ў галаву́ цю́кнуліся. *Р. Ч.*

ЦЮ'ПКІ (цю́пкі) *толькі мн.* Цура. На вячэ́ру нічо́га вары́ць не бу́ду, зьядзі́м цу́пак. *Чар.*

ЦЮЦЮ'НЬ (цюцю́нь) *мужч.* Тытун. У етым го́дзе сто́лькі цюцюну́ насадзі́лі. *Р. Ч.*

ЦЯНЯНЁ'ХАЦЦА (цяня́нёхацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Нянчыцца. Ко́лькі ты бу́дзеш ужо з ім цяня́нёхацца, вялікі такі. *Н. К.*

ЦЯ'ПКА (ця́пка) *жан.* Матыка. Пасьля́ абе́ду ўзяла́ ця́пку, ды й пайшла на сваю палосу́ бу́льму апко́пваць. *Кук.*

ЦЯПЛІ'ШЧА (цяплі́шча) *ніяк.* Вогнішча. Ко́жны ве́чар яны́ зьбіра́ліся ка́ля цяплі́шча: вары́лі е́сьці, грэ́ліся, гавары́лі, а хто сядзе́ў бліжэ́й — той драма́ў ад цяпла́, што ішло́ ад вуга́лля. *Меж.*

ЦЯРУ'ШКА (цяру́шка) *жан.* Пацяруха. Дзе́ці нацяга́лі сало́мы, цяру́шкі гэтае насы́палі па ха́це (даўне́й жа матра́цаў гэ́тых ні было́, сало́му кла́лі на карва́ць), дак я на дзяце́й кажу́: «Сало́му нашто́ пацьцерусі́лі на ха́ця?» *Зап.*

ЦЯРЭ'ШНЯ (цярэ́шня) *жан.* Чарэшня. У Мінску на база́ры ўсяго́ мно́га: і ві́шні, і царэ́шні, і памідо́ры, і я́блыкі. Но е́та, наве́рна, усё ці с Украі́ны, ці с це́плай стараны́ яко́й. *Бяс.*

## Ч

ЧАВУ'Н (чаву́н) *мужч.* Чыгун. Пяць чавуно́ў карто́шкі звары́ла і ўсё ма́ла. *Р. Ч.*

ЧАГО'СЬ (чагóсь) *часц.* Чагосьці. Чагóсь гэ́та твой сябра прыхóдзіў? *Узгур.*

ЧАЛАВЕ'К (чалавéк) *мужч.* Муж. Пачакáйце, зáрас мой чалавéк пры́дзе. *Кам.*

ЧАЛЕ'СНІК (чалéсьнік) *мужч.* Куток каля печы, дзе стаяць вілкі, качарга, чапяла і іншае хатняе начынне. А'лка, чагó ты сьмéцьце ўсё ў чалéсьнік зьмятáеш? Бáчыш, ужо скóлькі яго там сабрáлася, глядзí, скóра і мы́шы мóгуць завясьцíся там. *Бяс.*

ЧАЛЯ'ДНІК (чаля́днік) *мужч.* Шавец. У майгó сусéда ранéй бáцька чаля́днікам быў, спрáўныя бóты рабіў. *Кам.*

ЧАМО'Т (чамóт) *мужч.* Невялікае памяшканне, дзе захоўваецца ежа. Усё ядзённае мы ў чамóт стáвім. *Р. Ч.*

ЧАПЯЛЯ' (чапяля́) *жан.* Чапяла. Вазьмí скавараду́ чапялёй, а не ану́чай. *Р. Ч.*

ЧАПА'ЦЬ (чапáць), -ю, -еш; *незак. тр.* Чапляць. Укíнім у ніт, а тады ўкíнім у бéрда, тады́ чапáім гэ́тыя ніты́, а ўнíзе панажы́. Скóлькі нітóў, тóлька панажóў чапáім: чаты́ры ніты́, чаты́ры панажы́. *Пап.*

ЧАРАНО'К (чаранóк) *мужч.* Качарга. Ты бы хоць чаранкóм вугаль сь пéчы вы́грабала, ды пóтым кубёлак прынéсла. *Крок.*

ЧАРО'ДЗЬ (чарóць) *жан.* Чарга. Станавíся ў чарóць, а я гля́ну, што даюць. *Меч.*

ЧАРПА'ХА (чарпáха) *жан.* Чарпак. А ў нáшай бабу́лі чарпáха яшчэ спры́тна ў рукáх хóдзіць. *Даўг.*

ЧАРЭ'МУХА (чарэ́муха) *жан.* Чаромха. У мінé ў гарóччыку чарэ́мухі мнóга расьцé. *Кам.*

ЧАРЭ'ННЕ (чарэ́ньне) *ніяк.* Чарэнь. Ну чагó ш ты залёз на чарэ́ньне, кап спалíцца? А тады плáкаць бу́дзеш, што баліць. *Р. Ч.*

ЧАУСО'ЧАК (чаусóчак) *мужч.* Чыгунок. Ху́тка вы́хапі чаусóчак сь пéчы, звары́лася ўжо бу́льба. *Кузьм.*

ЧАТЧАВІ'К (чатчавíк) *мужч.* Падабабак. Чатчавікóў у гэ́тым гóдзе — зьбірай не зьбярэ́ш. *Бяс.*

ЧВЫР (чвыр) *мужч.* Жвір. Двор бе́лым чвы́рам пасы́палі, а шу́лы ўсе пагну́лі і варо́ты ця́шка атчыня́юцца. *Заям.*

ЧО′ВЕНЬ (чо́вень) *мужч.* Човен. Каля́ нас блі́ска рэ́чка, у вадзе́ заўсёды стаяў чо́вень, дык дзе́ці ніко́лі не сядзе́лі до́ма, бра́лі чо́вень і пла́валі. *Р. Ч.*

ЧО′РНЫ (чо́рны) *прым., перан.* Брудны. Ой, дзе́вачкі, я, му́сіць, чо́рная, трэ́ба пайсьці́ памы́цца. *Кам.*

ЧО′РНЫЯ (чо́рныя) *субст. прым.* Карнікі. Прые́дуць гэ́тыя чо́рныя ў ве́ску, дык лю́дзі праз вакно́ ўцяка́юць у лес. *Кам.*

ЧО′РНЫЯ Я′ГАДЫ (чо́рныя я́гады). Суніцы. У нас чо́рныя я́гады ў анны́м баку́, а кра́сныя — у другі́м. Далёка тро́хі, пра́ўда, туды пат піяне́рскі ла́гер. *Бяс.*

ЧУРБА′Н *мужч.* Бервяно. Се́ньня апо́шні чурба́н разрэ́залі, а больш палі́, чым хо́чаш. *Кам.*

ЧУКМЭ′РЫЦЬ (чукмэ́рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Гатаваць ежу. Я, бывала, як ста́ну чукмэ́рыць яду́, дык кручу́ся каля пе́чы часы́ два. *Чар.*

ЧУ′НІ (чу́ні). Вяровачныя лапці. Чу́ні зь вяро́вак былі́ вельма мо́цныя. *Р. Ч.*

ЧУ′РКА (чу́рка) *жан.* Шула. Трэ́ба чу́рку памяня́ць, а то варо́та пава́ляцца ско́ра. *Р. Ч.*

ЧУ′СЫ (чу́сы). Гумовыя боты. Чу́сы ро́бяцца з рызі́ны, яны ве́льма мо́цныя, зно́су нямá. *Р. Ч.*

ЧЫКІЛЬДА′ (чыкільда́) *агульн.* Кульгавы чалавек. Вы́шла за́муж называ́ецца за каго́, а мужы́к — чыкільда́ гэ́тая: як ідзе́, так і высту́квае дзеравя́шкай — руб дзе́сяць. *Узгур.*

ЧЫКРЫ′ЖЫЦЬ (чыкры́жыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Рэзаць. Чыкры́ш хлеп, абе́даць бу́дзем. *Ліс.*

ЧЫ′ЛЫ (чы́лы) *прым.* Незнаёмы. По́зна но́ччу не́хта пасту́каў у вакно́, а калі дзьве́ры аччыні́ла, уба́чыла чы́лага чалаве́ка. *Хал.*

ЧЫ′ЛЫЯ ЛЮ′ДЗІ. Чужыя людзі. У чы́лых людзе́й не так, як до́ма. І не вы́сьпісься, і не аддыхне́ш. *Кук.*

ЧЫМЕРГЕ'С (чымергéс) *мужч.* Салат з гуркоў, цыбулі, запраўлены смятанай. Нарві цыбýлі і гуркоў, зрóбім чымергéс на абéт. *Р. Ч.*

ЧЫМЕРГЕ'С (чымергéс) *мужч.* Настойка бярозавай кары. У гарэ́лку кладýць бярóзавую карý і гэ́та чымергéс завéцца. *Р. Ч.*

ЧЭ'МЕР (чэ́мер) *мужч., бат.* Ядавітая лугавая расліна. Кап ты чэ́меру наеўся! *Уж.*

ЧЭ'ПЧЫК (чэ́пчык) *мужч.* Шлём. Чэ́пчыкі насаджáлі на галóвы і сядзя́ць на матацы́клах. *Ліс.*

ЧЭ'РАЙ (чэ́рай) *мужч.* Фурункул. Такí ўжо чэ́рай гарáчы, ні дакранýцца. *В. В.*

ЧЭ'РСТВЫ (чэ́рствы) *прым.* Чарвівы. У гэ́тым гóдзе нéкія чэ́рствыя я́блыкі, бо вялíкая суш усё лета стаíць. *Кам.*

## Ш

ШАМК'І (шамкí) *толькі мн.* Бразготкі. Як жаніўся мой брат, та такія шамкí звóнкія. *Р. Ч.*

ШАЙМО'РЫ (шаймóры) *толькі мн.* Мёрзлая бульба. У вайнý мы бéдна жылí. Дзяцéй было мнóга. Кап пракарміць іх, за сем кіламéтраў хадзíлі шаймóры капáць, кап тóлькі пражы́ць. *Бяс.*

ШАЛУ'ЦЬКА (шалýцька) *агульн., неадабр.* Неахайны чалавек. Ну ш і шалýцька ты, нóвы лéтнік, а ўжо і дзю́рку прарвáў. *Борк.*

ШАЛУ'ПКІ (шалýпкі) *толькі мн.* Лупіны. Трэ́ба намы́ць карóве шалýпак. *Р. Ч.*

ШАЛЯНО'ЎКА (шалянóўка) *жан.* Вялікая шарсцяная хустка. А якáя ш харóшая шалянóўка былá, але парвáлася. *Кам.*

ША'НЬКА (шáнька) *жан.* Торба. Пакладзí ў шáньку яды́, бýдзем у лéсе дóўга-дóўга, а там апеты́т знáеш які́. *Узгур.*

ША'ПКА (шáпка) *жан.* Верх над вугламі дзвярэй.

Так сту́кнулася ло́бам ап ша́пку, што і́скры з вачэ́й пасы́паліся. *Р. Ч.*

ШАПЯЛЯ'ТЫ (шапяля́ты) *прым.* Шапялявы. Вунь пайшо́ў Дані́ла шапяля́ты, ня лячы́лі, так і заста́ўся. *Папл.*

ШАПЯТЛІ'ВЫ (шапятлі́вы) *прым. Гл.* шапяляты. Ен нічо́га хлапе́ц, але тро́шкі шапятлі́вы. *Кальч.*

ШАРАВА'РКА (шарава́рка) *жан.* Абавязковыя работы па ўпарадкаванню дарог. Пры По́льшчы на шарава́рку гна́лі. *Цяр.*

ШАРАХО'НІЦЦА (шарахо́ніцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Ганарыцца. І чаго́ то́лькі так шарахо́ніцца, і ў другі́х дзе́ці ву́чацца не горш, пяцёркі прыно́сяць, а каб хоць хто хвалі́ўся. Не, маўча́ць. *Узгур.*

ШАРВА'РКУ АДРАБЛЯ'ЦЬ. Працаваць абы-як. Ро́біць, усё роўна як шарва́рку адрабля́е. *Уж.*

ШАРПА'НКА (шарпа́нка) *жан.* Саматканая дарожка з тоўстай пражы. Даўне́й у мяне́ была́ самадзе́лачная шарпа́нка, вось до́ўга ляжа́ла, і зно́су ёй не было. *Р. П.*

ШАРСТУ'Х (шарсту́х) *мужч.* Спадніца ў зборку. Абула новыя вятру́фкі і шарсту́х надзе́ла но́вы, у кіно́ зьбіра́ецца. *Борк.*

ШАРУДЗІ'ЦЦА (шарудзі́цца), -дж-у-ся, -дз-іш-ся; *незак. тр.* Збірацца, прыбірацца. Шарудзі́цеся, дзе́ўкі, вечары́нка пычына́ецца. *Ліс.*

ШАРШО'ТКА (шаршо́тка) *жан.* Іголка вялікіх памераў. Не ме́ўшы шаршо́ткі, ко́ўдры не пашы́ем, бо гэ́тымі іго́лачкамі на́ват не праткне́ш навылёт. *Узгур.*

ШАРХУ'БЛІК (шарху́блік) *мужч.* Гэблік. А ты яго шарху́блікам, а тады́ ву́равень прыста́ў, ці ро́ўны. *Р. Ч.*

ШАСТАКО'Л (шастако́л) *мужч.* Частакол. Абгарадзі́ла я шастако́лам уве́сь агаро́д, а то чужы́я ку́ры ла́зілі. *Р. Ч.*

ШАТЫ'НКА (шаты́нка) *жан.* Сацін. Прыве́зьлі ў магазі́н ду́жа красі́вую шаты́нку. Трэ́ба бу́дзя на пла́цьце набра́ць. *Бяс.*

ШАФА'РЫК (шафа́рык) *мужч.* Шкафчык. Пайшла́ жаць, а ўну́ку сказа́ла: «Загані́ каро́ву і палу́днуй сам. Хлеб з ма́слам ляжы́ць у шлябане́, по́ткалатка стаі́ць у пе́чы, малако́ ў шафа́рыку, а квас у склё́пі. Во́зьмеш с ха́ты ко́наўку і там нап'е́сься». *Кор.*

ША'ХВАРАСТ (ша́хвараст) *мужч.* Свавольнік. Ю'рак харо́шы хло́пчык, а Ка́зік — ша́хвараст, ні міну́ты не пасядзі́ць спако́йна. *Уж.*

ШАХЛА'ТЫ (ша́хлаты) *прым.* Шамкаючы. От, у е́тай ба́пкі зубо́ў няма́, так і вымаўле́ньне ў яе шахла́тае. *Луц.*

ШВА'БСКА (шва́бська) *жан.* Споднявя сарочка. У маёй бабу́сі стара́я-стара́я шва́бська, а яна ўсё но́сіць яе. *Р. П.*

ШВІ'ДКІ (шві́ткі) *прым.* Хуткі. Не́йкі ш ве́льмі шві́ткі ўда́ўся ён. *Кам.*

ШВІНА'Р (швіна́р) *мужч.* Ліхтар. Запа́ліш швіна́р і ідзе́ш у хлеў. *В. В.*

ШВА'ЙНЯ (шва́йня) *жан.* Швейная фабрыка. Няве́стка мая ў шва́йні і працу́я, до́бра зарабля́я. *Кам.*

ШВІ'ЛЬНАЯ (шві́льная) *субст. прым.* Швейная майстэрня. А по́шля Ве́ры ў нас Ка́зік быў брыгадзі́рам, з Залазо́ўя, гэ́ты, што жа́ніўся з маладо́й, два́ццаць год маладзе́йшай за яго́. Маладо́й, красі́вай, чы́стай, баля́вай, што ў Гро́дні ў шві́льнай рабі́ла. *Зал.*

ШВЭ'ДА (швэ́да) *жан.* Світэр. Мая ш ты наўчы́цялька, знаю я магазы́нныя швэ́ды. Як адзе́ла я Стэ́фчыну, была́ як го́лая — нічо́га яна ні грэ́іць. Дзе ш яна бу́дзіць грэ́ць, калі ні́тачкі це́нінькія. *Фал.*

ШКА'ЛІК (шка́лік) *мужч.* Конаўка. Цяпе́р няве́стка ўсё кру́шка заве́, а я па-даўне́йшаму — шка́лік. *Р. Ч.*

ШКАПЕ'Ц (шкапе́ц) *мужч.* Кастрыраваны баран ці казёл. Наш шкапе́ц у по́ле с ко́замі пайшо́ў. *Калод.*

ШКЕ'РЫЦЬ (шке́рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Патрашыць рыбу. Се́ньня на́шы хло́пцы налаві́лі ры́бы, аддалі́ дзяўча́там на ўху́, яны сядзя́ць і шке́рацць яе. *Р. Ч.*

ШЛЁ'ГАЦЬ (шлёгаць), -аю, -еш; *зак. тр.* Біць пугай. А ён сабé шлёгае карóву ды шлёгае, аж я і пýгу забраý. *Гіл.*

ШЛЫ'НДАЦЬ (шлы́ндаць), -ю, -еш; *незак тр.* Хадзіць туды-сюды. Што гэта за лю́дзі тут увесь час шлы́ндаюць каля вакóн: тóлькі ішлі к млы́ну, а цяпéр аттýль. *Меж.*

ШЛЯБА'Н (шлябáн) *мужч.* Драўляная скрыня, якая служыць за шафу. Альбíна, дачýшка, занясí сьнедáньне бáцьку, усё стаíць у шлябанé. Нальéш пля́шку малакá, атрэ́жаш лýсту хлéба, с патэ́льні вазьмі сáла з дрáнікамі і гэ́та ýсё складзí ў тóрбу і занясí бáцьку. *Кор.*

ШЛЯ'ЦЦА (шля́цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Хадзіць туды-сюды без справы. Цэ́лы дзень сéньня па вýліцы шляўся. *Кам.*

ШМАЦЦЯ'НКІ (шмацьця́нкі) *толькі мн.* Палавікі, вытканыя з ануч. От цяпéр дóбра, ня трэ́ба ткаць шмацьця́нак, пайшóў ды за рублёў 5 харóшыя палавікí кýпіш. *Бяс.*

ШМЭ'РГАЦЬ (шмэ́ргаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Пілаваць дровы. Надаéлі мне гэ́тыя дрóвы, цэ́лы ш дзень шмэ́ргалі. *Кам.*

ШНУРО'ЎКА (шнурóўка) *жан.* Світка без рукавоў. Пайдý сваю́ шнурóўку надзéну, бо халаднавáта ў плéчы стáла. *В. В.*

ШНЫ'ПАРЫЦЬ (шны́парыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Шукаць, хадзіць. І чагó гэ́та брыгадзíрка тут цэ́лы дзень шны́парыць? *Кам.*

ШНЫРО'ЎКА (шнырóўка) *жан.* Безрукаўка. Адзень маю шнырóўку ды ідзі сьмéла гуля́ць. Ранéй тóлькі і адзявáлі éтыя шнырóўкі. *Р. Ч.*

ШНЫ'РЫЦЬ (шны́рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Хадзіць туды-сюды, каб што-небудзь раздабыць. Гэ́тыя малы́я ўсё тут шны́раць, мýсіць, хóчуць у сат улéсьці. *Уж.*

ШО'СЦІК (шóсьцік) *мужч.* Шост. Ляжáў я ў гóсьпіталі — санатóра былá рáньшэ. А вараньё цэ́лы дзень га-

лаву́ шало́міць. А быў тут у нас адзін верхала́с, зрабіў ён шо́сьцік ме́траў шэсь і пасп́орваў усе гнёзда. *Р. Ч.*

ШПА'РЫ (шпа́ры) *толькі мн.* Выемкі паміж бярвеннямі. Шпа́ры пазама́зваў глінай, а цяпе́р бу́ду выкле́йваць або́ямі. *Чар.*

ШПА'РЫЦЬ (шпа́рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Ісці хутка. Глень, хто гэ́та там так шпа́рыць каля ле́су? *Узгур.*

ШПАКО'ЎНІЦА (шпако́ўніца) *жан.* Шпакоўня. Паве́сіў на ко́жную бяро́зу па шпако́ўніцы. *Ліс.*

ШПАНЕ' (шпане́) *ніяк.* Шпана. Дзіця малое (у жартоўным тоне). Не лезь, шпане́, не ў сваё: сядзі і гуля́й са сваімі ца́цкамі. *Граб.*

ШПІГІНА'Р (шпігіна́р) *мужч.* Шкіпідар. Натры́ дзіця́ці гру́дзі шпігіна́рам, цяпле́й ста́не, кроў разы́йдзецца па це́ле, лягчэ́й бу́дзя. *Войр.*

ШУ'ЛА (шу́ла) *ніяк.* Будынак, куды складаюць торф. Мы капа́лі торф, ца́ла шу́ла яшчэ́ ё, а сын дроў прывёс. І мне бу́дзе на дзыве́ зіме́. *Р. Ч.*

ШУ'ЛЛЕ (шу́льле) *ніяк.* Адлегласць паміж слупамі. Ну які ш ты салда́т, калі не мо́жаш прабе́гчы да шу́льляў? *Р. Ч.*

ШУЛО' (шуло́) *ніяк.* Шула. Гэ́та шуло́ ўжэ пачало́ хіста́цца, трэ́ба но́вае ста́віць. *Кам.*

ШУМЕ'ЦЬ (шуме́ць) *незак. тр.* Брадзіць. Насто́йку паста́віла, са́хару мно́га на́да, есьлі меньш пало́жыш, дык яна шуме́ць бу́дзя, плаха́я бу́дзя. *Бяс.*

ШУ'ПЕЛЬ (шу́пель) *мужч.* Шуфель. Ідзі к сусе́тцы шу́пель папрасі, бо бу́льбу зграба́ць трэ́ба. *Р. Ч.*

ШУ'СЫ (шу́сы). Глыбокія галёшы. На дварэ́ се́ньні мо́кра, шу́сы на́да надзе́ць. *Р. Ч.*

ШЧА'ВІЛЬ (шча́віль) *мужч.* Шчаўе. Ну і бага́та тут разрасло́ся ко́ньскага шча́вілю. *Меж.*

ШЧАДРЭ'Ц (шчадрэ́ц) *мужч.* Ве́чар пад Но́вы год. А мы на шчадраца́ варажы́ць бу́дзем. *Уж.*

ШЧАЛУГА'ЦЬ (шчалуга́ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Лушчыць. Сухія струкі дык і до́бра шчалуга́ць. *Пільк.*

ШЧАКЕ′Т (шчакéт) *зборн.* Агароджа з дошак. Патрэ́бна паставіць шчакéт, а то старáя агарóджа згнілá, уся правалілася ўшчэ́нт. *Узгур.*

ШЧАНЬ (шчань) *мужч.* Вялікая кадушка. У бáцькі майгó было сямёра дзяцéй. Бывáла, як насóлім цэ́лы шчань гуркóў на зімý, яшчэ й да вясны́ цягнуцца. *Бяс.*

ШЧАРБЯЛІ′ (шчарбялí) *толькі мн.* Дзіравыя зубы. Нéйкіх пяць шчарбялёў сядзіць яшчэ́ ў рóце. *Кам.*

ШЧА′ЎЛІК (шчáўлік) *мужч. Гл.* шчавіль. Ты хоць схадзí шчáўліку назьбірáй, увы́кла, што ўсё мáці ды мáці. *Буз.*

ШЧУПАКО′ЎКА (шчупакóўка) *жан.* Спінінг. «Глянь, глянь, якую пацáн вы́цягнуў».—«Ён на шчупакóўку».—«Дак можа і ты п на шчупакóўку папрóбуваў?»—«Я дык ня вéльмі люблю́ на шчупакóўку, круцí да круцí, а як заблы́таецца жы́лка — сядзі». *Белар.*

ШЧЫКЕ′Т (шчыкéт) *мужч.* Штакет. І кагó ён так баіцца, увесь двор шчыкéтам абнёс. *Кук.*

ШЧЫ′РЫЦЬ (шчы́рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Выведваць што-небудзь. Ну пачакáй, я цябé нéкалі патпільнýю, калі ты ўсё шчырыш ды шчы́рыш. Нічóга за табóй ні прынясьцí нямóжна, ні зрабíць што. *Бяс.*

ШЧЫТО′К (шчытóк) *мужч.* Невялікая печка ў пакоі. Люблю́ зімóй калі ў шчыткý дрóвы гарáць, вéсела так. *Мац.*

ШЧЭ′ТКА (шчэ́тка) *жан.* Шчотка. Спачáтку трэ́ба лён часáць шчэ́ткаю, а пóтым грэ́бням. *Дук.*

ШЫ′БКА (шы́пка) *прысл.* Хутка. Ого, як давéдаліся, што ханжá бýдзя, то шыпка прышлí. *Пуз.*

ШЫДЭ′ЛАК (шыдэ́лак) *мужч.* Кручок для вязання. Трэ́ба шыдэ́лак купíць, бýду вязáць рукавíцы. *Цяр.*

ШЫКАВА′ЦЦА (шыкавáцца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Рыхтавацца, прыбірацца. На гóсьці шыкýюцца, éг′дзіў да сы́на, а зáрас сын прыéхаў. *Зап.*

ШЫ′ЛЬНІК (шы́льнік) *мужч.* Сасновыя іголкі. Дзе бацька? Шы́льнік зь лéсу вóзіць. *Нар.*

ШЫНКА′Р (шынка́р) *мужч.* Прадавец. Шынка́р казаў, што ў магазі́н мно́га чаго́ прывёзьлі. *В. В.*

ШЫПЕ′ЦЬ (шыпе́ць), -ю, -іш; *незак. тр.* Злавацца, Шыпі́ш цэ́лы дзень, як змяя́, і прычы́ны ж няма́, а ўсё бо́мкаеш. *Узгур.*

## Э

Э′КСТРЫННА (э́кстрынна) *прысл.* Тэрмінова. Зага́д э́кстрынна вярта́цца наза́т. *Меж.*

ЭЛЕКТРО′ЎНЯ (электро́ўня) *жан.* Электрастанцыя. Электро́ўня ў на́шым калхо́зе невялі́кая, але сьве́ту мно́га дае́. *Уж.*

## Ю

Ю′ШКА (ю́шка) *жан.* Ґрубка. Прынясі́ дроў, ю́шку пратапі́ць трэ́бы, а то маро́с на двары́ вялі́кі. *Р. Ч.*

## Я

Я′ВАР (я́вар) *мужч.* Аер. Усе́ бяраге́ абрасьлі̀ я́варам. *В. В.*

ЯГА′ЦЦА (яга́цца) *незак. тр.* Брыкацца. У майго́ суседа каро́ва нейка́я дурна́я — на дзяцей яга́ецца. *Р. Ч.*

Я′ГРУС (я́грус) *мужч.* Агрэст. Я′грусу наварыла? Чаму не? Ты́ ж ве́даеш, што я́ люблю́. *Сл.*

Я′ГРУСТ (я́груст). *Гл.* ягрус. Што там ро́біш? Я′груст жа яшчэ не пасьпеў. *Вішн.*

Я′ДЗЕРКА (я́дзерка) *заал.* Божая кароўка. Я′дзерка пака́звае, калі бу́дзе дождж, а калі паго́да. *Уж.*

ЯДУ′ХА (яду́ха) *жан.* Ядок. Вот яду́ха дык яду́ха! Така́я няўклю́нная дзеўчы́на расьце́. Няма́ каб зьела й вы́лезла з-за стала́ — панаве́шае, панакі́дае ўсю́ды. *Бяс.*

ЯЖГУ′Р (яжгу́р) *мужч.* Ерш. Наш Та́дзік у нядзе́лю прывёс кілі са тры. Пра́ўда, до́брай рыбы было́ німно́га,

пало́ва яжгуро́ў. *Ст. В.* Як прынясём яжгуро́ў цэ́лы ко́шык — на цэ́лы дзень рабо́ты. Шчэ й ру́кі апкрыва́віш, пако́ліш. *Сцеш.*

ЯЗЬВЕ́НЬ (язьвя́нь) *мужч.* Язьмін. Дык нарве́ця сабе́, дзяўча́ткі, язвяню́ буке́т. *Кам.*

Я́ЗЬМА (я́зьма) *жан. Гл.* Язвень. Вы́несі ты я́зьму ў пры́вен да дзьве́ры зачыні́, бо галава́ ж балі́ць ад яго. *Мац.*

Я́ЛАВІНА (яла́віна) *жан.* Неапрацаваная зямля, якая служыць пашай для жыве́лы. Вунь калга́сны ста́так зь я́лавіны на фе́рму вярта́ецца. *Кірк.*

Я́РАЙ (я́рай) *мужч.* Аер. Дзе ш ты сало́мы набярэ́шся? І я́рай на по́тсьціл ідзе́. *Чыж.*

ЯРАПЛА́Н *мужч.* Самалёт. Вы́ ш у на́с тут няда́ўна, а на́м та́к надаку́чылі гэтыяярапла́ны. *Кам.*

ЯРЛЫЧО́К (ярлычо́к) *мужч.* Рэцэпт. До́ктар ярлычо́к вы́пісаў: трэ́ба ў аптэ́ку схадзі́ць, ляка́рства пабра́ць. *Неж.*

Я́РУС *мужч.* Стос. На стале́ я́русам стая́лі тале́ркі і спо́ткі. *Р. Ч.*

ЯРШО́ЎКА (яршо́ўка) *жан.* Капронавая крышка. Гаспады́ня налі́ла́ малака́ ў ба́нку і закры́ла яршо́ўкай. *В. В.*

Я́ХА (я́ха) *жан.* Рэха. Та́к гры́мнуў, што́ аж я́ха пайшла́ па ўсём ле́сі. *В. В.*

## ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАУКІ, ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ

Аблізáць пáльчыкі. *Цял.*

Адбівáць тýпікі. Нічога не рабіць. Хóпіць адбівáць тýпікі, пóйдзем працавáць. *Кам.*

Адрэ́заць слóўца. Сказаць рэзкае слова. Размаўля́лі, размаўля́лі, а пóтым ён як адрэ́заў рэ́скае слóўца, што самóму ямý сóрамна стáла і ён пашóў дамóў. *В. В.*

Аж нос у пры́сяткі ідзé. *Крок.*

А, сватóве-панóве, ці вы нас не вéдалі? *Бар.*

Бáча вóка далёка, а рóзум яшчэ́ дáлей. *Борк.*

Бібікі біць. Б'е цэ́лы дзень бібікі, а картóпля ні паганя́ная. *Цял.*

Біць у званы́. Аб гэ́тум ужó даўнó ўсё ў званы́ б'юць. *Цял.*

Бóўтаць мáсла. Біць масла. Я яшчэ́ ні бóўтала сёньня мáсла. *В. В.*

Брáць у плёчы. Мерзнуць. Мянé нéшта сёньня вéльмі ў плёчы бярэ́. *В. В.*

Бýхаць, як у бóчку. Нáша цётка нáтта ш прастудзілася, цэ́лаю ноч бýхала, як у бóчку. *Цял.*

Вáлам ісьці. Ісці вялікімі групамі адзін за другім па 30—40 чалавек. *Р. Ч.*

Вы́зваць на кавёр. Пагаварыць па душах, прачытаць мараль. *Луц.*

Вы́каціць трубóй. Выгнаць. Калí самá не пóйдзяш, дык я цябé трубóй вы́качу. *Кам.*

Вы́ставіць лы́тку. І што ты, Гáнька, там рóбіш, усё дóма, хоць бы лы́тку куды́ вы́ставіла, ці ў клуп, ці на сялó. *Бяс.*

Вы́сьці настóўніцай. Янá настóўніцай вы́дзя, як інсты-ту́т скóнчыць. *Кам.*

Гнаць свет. Раней ён сьвет гноў у нáшай дзьвя́галцы. *Кам.*

Гавары́ць, як мáкам сы́паць. *Крок.*

Гóлы, як бізу́н. Сьмéшны гэ́ты Ю́зік. Гóлы, як бізу́н, а яшчэ́ задаёцца. *Цял.*

Гультáй за рабóту — мазóль за ру́кі. *Крок.*

Гультáй за прáцу, мазóль за руку́. *Цял.*

Даганя́ючы ні нацалу́ясься. *Цял.*

Да гібялі. Вельмі многа. У нас буякóў да гібялі. *Дук.*

Дажы́ць да сівы́х валасóў. Дажы́ў да сівы́х валасóў, а ні паразумнёў. *Цял.*

Даць джухарá. Ну і далá ш я сёньня джухарá сваймý п'я́ніцу. *Кам.*

Даць пліту. Я бáчыў, як ён даў пліту вунь у той бок. *Нав.*

Даць у каўнèр. Як ажэ́ніцца, то дасць у каўнéр. *Кам.*

Даць у кóсьці. *Бяс.*

Дзе нáша не прападáла, хай і тут ля́сьне. *Кірк.*

Для маёй душы́ усé харашы́. *Дук.*

Дóбры, хоць на рáны прыкладáй. *Кірк.*

Ду́ра сілава. Вельмі дурная. *Карш.*

Е́сьці — аш трусíцца. *Крок.*

Забівáе вóздух. Не хапае паветра, няма чым дыхаць. Забівáя вóздух мянè ў гóрадзі, нямá чым ды́хаць. *Кам.*

Забівáць галаву́. Цяпéр мalады́м галóвы забівáюць, а нéкалі ніхтó ні вучы́ўся. *Кам.*

Забрáць пад мятлу́. Вèльмі ця́шка былó пасьля́ вайны́, бо ўсё пад мятлу́ забрáлі нéмцы. *Дук.*

Завёў шармáнку зь вéчара да рáнку. *Кірк.*

Загаварувáць зу́бы. Ты мне ні загавáрувай зу́бы, а кажы́ прóўду. *Цял.*

Задрáць нос. Задрáў нос — і жэ́рткай не дастáнеш. *Кірк.*

Заéхаць, як Анэ́та ў Дарахí. *Кірк.*

Залажы́ць за га́льштук. Ані не глядзіць, што гро́шай няма́, зало́жыць за га́льштук і хо́дзіць, як ду́рань. *Бяс.*

Зачапля́ць за жыво́е. «А ты ня руга́йся, змо́ўчы!»— «Не магу́ маўча́ць, калі́ мяне́ зачапля́юць за жыво́я». *Белар.*

Збыць з галавы́. *Бяс.*

Зрабіў — каму́ нага́, каму́ галава́. *Кірк.*

Зрабіць у галаве́. Зрабіў гэта я ў галаве́, ды пайшо́ў да́лей. *Сак.*

З усі́х ног. Паліца́й заўва́жыў хло́пца і пача́ў страля́ць па ём, а той з усі́х нох кінуўся ў лес. *Кам.*

Зямлёй абярну́цца. Але́ ш яна́ вось цябе ўсё скубе́ і скубе́. І што ёй ат цябе́ трэ́ба? Глядзіш, мо сама́ яна́ ско́ра зямлёй абе́рнецца, калі на тваю́ зямлю́ пакваліла-ся. *Бяс.*

Ісці, як серада́ на пя́тніцу. *Кірк.*

Ко́жнаму адно́ ле́та. Усім пароўну. Бач во, як рабіць, дык ра́зам з імі, а як у́ча́стак — дык асо́бна, ім ле́пшы. А хіба ш так трэ́ба. Ко́жнаму адно́ ле́та — патрэ́бна ўсё ра́зам дава́ць. *Бяс.*

Кама́р прыбіў. Кволы, слабы. *Луц.*

Камары́ куццю́ таўку́ць. *Кірк.*

Ко́сьці абмыва́ць. *Цял.*

Кроў з но́са ка́пай. Се́ньня зрабі, хоць кроў з но́су ка́пай, а зрабі. *Цял.*

Крыча́ць на чым свет стаіць. Чаго́ ты крычы́ш на чым сьвет стаіць? *Цял.*

Кры́чыць, як каза́ ў Му́нькі на гары́. *Раўч.*

Ла́ецца, як ціціха. *Раўч.*

Лы́нды біць. Мой хло́пяц цэ́лы дзень лы́нды б'е, што зь яго бу́дзе, не ве́даю як прывучы́ць да рабо́ты. *Р. Ч.*

Ляце́ць, як з гары́ ўніс. Як усы́палі яму на схо́дзі, дак ляце́ў дадо́му, як з гары́ ўніс. *Цял.*

Мало́ць языко́м. Слу́хай то́лькі, што яна́ ме́ле языко́м, дык галава́ ско́ра забаліць. *Цял.*

Мець гáньбу. Гэ́та дзяўчы́на нічóга, алѐ мáе гáньбу: дóўгі нос. *Хож.*

Набíць аскóму. Тваѐ дурны́я разгавóры аскóму набілі. *Цял.*

Набрáць у галавý. *Дук.*

Набрáць як павалачы́. *Граб.*

Надавáць па мурзакáх. Зáрас як вазьмý што-нéбудзь, надáю па мурзакáх, то другí раз бýдзеш вѐдаць, як рабíць абы́-што. *Бяс.*

Налізáўся, як Сéмушка. *Кірк.*

Налізáцца па завя́зку. *Крок.*

На валаскý ліпéць. *Аз.*

Навастры́ць вýшы. *Клет.*

На вéкі вéчныя. *Мядзь.*

Навéсці спрáўкі. *Меж.*

Навéсці на пýць. *Баг.*

Не давáць у абíду. *Кузьм.*

Не заснýць ні на валасíнку. *Луц.*

Ні знаць гольля́. Лéтась былó стóлькі я́блыкаў і ігруш — ні знаць гольля́. *Кам.*

Ні імкнíся жыць, як набяжы́ць. *Цял.*

Німá на панюх табáкі. *Цял.*

Ні мець вóка. Я даўнó ні мáю на ягó вóка. *Цял.*

Не ўбівáцца ў грáмату. Ранéй то ў гэ́ту грáмату не вѐльмі ўбівáліся. *Кам.*

Ні ўбіў, ні ўéхаў. *Кірк.*

Ні ўцяць, ні ўзяць. *Цял.*

Павóем расьсцілáцца. *Крок.*

Падвѐсці пад манасты́р. Падвялí мяне́, дýрня старóга, пад манасты́р бóгу памалíцца. *Цял.*

Пайсьцí па рóду. Я пашлá па ягó рóду. *Цял.*

Пазы́чыць у сабáкі вачэ́й. *Бяс.*

Пазы́чыць вачэ́й. Хíба трэ́ба пазы́чыць вачэ́й, каб ісьцí к сьвякрýхі ў хáту. *Цял.*

Пáлец ап пáлец не стýкнуць. Другýю нядзéлю сядзíць дóма і пáлец ап пáлец ні стýкне. *Кам.*

Папáсьці пáльцам у нéба. Папóў пáльцам у нéба. *Цял.*

Працýям сьвет мацýям. *Цял., Дук., Бяс.*

Прысьці́ да рóзуму. Калì ты ўжэ прыдзеш да рóзуму? Усё рóбіш ні так, як трэба. *Цял.*

Пéрці, як ганчáк. *В. В.*

Разьнéсьці па хáтах цёпляныкае. Янá такáя, ні ўсьпéя пачýць, як разьнясè па хáтах цёплянькая. *Цял.*

Сабірáць радню́. Склікаць радню. Як на вясéльля, то сабірáюць радню́. *В. В.*

Свой калі́ не заплáча, то хоць скры́віцца. *Цял.*

Свой свайгó пазнóў, ды на пóчастку пазвóў. *Цял.*

Скідáюцца гуркé. Вянуць і гінуць. Хóладна цяпéр і гуркè скідáюцца. *В. В.*

Слабáя галавá. Дрэнная памяць. Я слабóй галавы́ і пóмніць нічóга ня пóмню. *Р. Ч.*

Слóва сарóка нóсіць. *Крок.*

Слýхаўшы мáмку не мець жаніхá. *Кук.*

Смерць закýсвае. Як льга жыць, дык ужо сьмерць закýсвая. *Кухц., Кам.*

Спáсьці с цèла. Чагó ж вáша Гáнька спáла сь цéла? Ці мóжа гóра якóе ў вас? *Бяс.*

Сь пéчы ды пад услóн. *Крок.*

Спусьці́ць вóчы. Янá тут цìхенька спусьці́ла вóчы, сядзі́ць і нічóга ні слýхая. *Кам.*

У вóчы зь мёдцам, за вóчы зь пéрцам. *Крок.*

У галаву надавáць. Хто ягó вéдае, гэтага Цімóху, яшчэ ў галавý надаé. *Сак.*

У дарóзе і жук мя́са. *Белар.*

Узя́цца за жыццё. Пачаць добра жыць. *Кам.*

У кагó сем, у тагó й дóля ўсем, у кагó аднá, дык і дóлі німá. *Цял.*

Упалі́ць штýку. От жа ўпалíў штýку, што і сам ні рад, хоць ты цяпéр людзя́м на вóчы не пакáзвайся. *Бяс.*

Упа́сьці на во́чы. Няда́ўна мая́ дачка́ зусім на во́чы ўпа́ла. *Кам., Кухц., Цял.*

У по́лі крапіва жыглі́вая, а ў ха́це сьвякру́ха сварлі́вая. *Кук.*

Хваста́ць пу́гаю па вадзе̇. Бяс то́лку гавары́ць — усё ро́ўна што хваста́ць пу́гаю па вадзе́. *Цял.*

Хто на чом стаі́ць, той таго́ і глядзіць. *Кам.*

Чужо́е і сыро́е сма́чна. *Крок.*

Чужая да́ньня на адно́ сьняда́ньня. *Дук.*

Як во́ка ў ілбе́. Ён жа ў мяне̇ адзін, як во́ка ў ілбе́. *Цял.*

Як гаро́х пры даро́зе, хто ідзе́, той адшчыпне́. *Цял.*

Як ма́ці памрэ́, дак ба́цька асьле́пня. *Цял.*

Як сеў, дык і прыкіпе́ў. *Цял.*

## ЗМЕСТ

МАТЕРИАЛЫ К СЛОВАРЮ
МИНСКО-МОЛОДЕЧНЕНСКИХ ГОВОРОВ

На белорусском языке

Издательство Белорусского государственного
университета им. В. И. Ленина. Минск, Кирова, 24.

Рэдактар А. М. Ляпіч
Мастацкі рэдактар Л. Г. Мядзведзева
Тэхнічны рэдактар В. П. Безбародава
Карэктары В. А. Ждановіч, А. М. Гуль

АТ 24150. Здадзена ў набор 21/VII 1976 г. Падпісана да друку 10/XII 1976 г. Фармат 70X108$^{1}/_{32}$. Папера друкарская № 1. Ум.-друк. арк. 6,3. Улік.-выд. арк. 6,48. Тыраж 1000 экз. Заказ 1876. Цана 19 кап. Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Мінск, вул. Кірава, 24. Друкарня Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, вул. Кірава, 24.

У Выдавецтве БДУ імя У. І. Леніна
**ў 1976 годзе выйшлі ў свет**
**і маюцца ў кнігарнях**
**наступныя кнігі па філалогіі:**

М. Г. Булахов. **Восточнославянские языковеды.**

Т. В. Кабржыцкая, В. П. Рагойша.
**Карані дружбы.**

А. И. Киселев.
**Частицы в современных восточнославянских языках.**

**Лірычныя песні.** Пад рэдакцыяй Н. С. Гілевіча.

А. І. Наркевіч. **Назоўнік.**
**Граматычныя катэгорыі і формы.**

Н. С. Мажэйка, А. Я. Супрун.
**Частотны слоўнік беларускай мовы**
(мастацкая проза)

В. І. Смыкоўская. **Творчая канцэпцыя пісьменніка.**
(Задума і яе мастацкае ўвасабленне ў «Палескай хронiцы» І. Мележа.)

А. А. Станюта. **Постижение человека.**